# ЛІТАРАТУРА і мастацтва



10 сакавіка 2006 г. № 10/4349


## АНОНС!



Мінскі кніжны кірмаш прыцягнуў увагу шматлікіх выдавецкіх і пісьменніцкіх арганізацый з-за мяжы, але, бадай што, самае пачэснае месца сярод замежнікаў адводзілася расіянам. Краіна-суседка прыслала адразу некалькі дэлегацый ад розных структур. Дэлегацыю ад Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў узначальваў генеральны дырэктар Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Уладзімір Баярынаў.

СТАР. 5



Прафесія мадэльера з кожным годам набывае ўсё большую папулярнасць. Збываюцца, здавалася б, самыя "ружовыя" мары. Айчынныя майстры прыгожага адзення імкліва заваёўваюць вяршыні моднага Парнаса. Апошняй "ахвярай" нашых дызайнераў стаў Рым. Акадэмія касцюма і моды "вечнага горада" адзначыла трох беларусаў, якія ў бліжэйшай будучыні пройдуць стажыроўку ў самых прэстыжных салонах Італіі.

Між тым, выраз "беларуская мода" ў большасці маіх знаёмых выклікае скептычную ўсмешку. Маўляў, першы раз чуем! Няўжо пры такой вядомасці па-за межамі краіны нашыя дызайнеры не могуць задаволіць патрэб уласнага спажыўца? З мэтай разабрацца ў гэтым парадоксе я і выправілася ў сталічныя магазіны.

СТАР. 13

## Таемнасць новай вясны

Незвычайныя і непаўторныя ўражанні суправаджаюць, напэўна, кожны наш візіт у майстэрню мастака. Што ўжо казаць, калі такі візіт — першы, візіт-знаёмства, ды яшчэ адбываецца ён ранняй вясною... Ты ўваходзіш у святая святых, крочыш у таемны космас жывой творчасці — і нібы патрапляеш на арбіту свайго суразмоўцы. Слухаеш споведзь пра лятуценні дзяцінства і пра зменлівы лёс, пра супярэчнасці мастакоўскай натуры, пра пакутлівы пошук уласных матываў і нястрымнасць фантазіі, пра гады працы і хвіліны поспеху... Слухаеш — і разумееш. І прымаеш у свой унутраны свет увесь гэты калейдаскоп жыццёвых эпізодаў, думак і сумненняў, мелодый, фарбаў, паветаў, мрояў. І міжволі пачынаеш адчуваць сваю глыбінную спрычыненасць да дзівоснага творчага лёсу. Пачынаеш успрымаць яго нібы знутры: як сваё, перажытае.

Візіт у майстэрню мінскай мастачкі Зоі Луцэвіч уражвае творчым настроем і шчырасцю гаспадыні. А кажуць, што першае ўражанне — самае праўдзівае. Яшчэ яно бывае незвычайнае. І абавязкова — непаўторнае. Як непаўторныя матывы кожнай новай вясны...

(Заканчэнне на стар.11)



Фота Яся КАВАЛЕВІЧА

# КАШТОЎНАЯ ШКАТУЛКА




Калаж
В. Калініна

Можа, мне і не давялося б узяцца за гэты артыкул, калі б не адна акалічнасць: на сустрэчы з дзецьмі ў дзіцячай бібліятэцы адзін хлапчук спытаўся ў мяне:

— А вы ведаеце Андрэя Федарэнку?

— Ведаю. А што?

— Вось ён! — паказваючы жоўтую кніжку, сказаў хлапчук.

— Спадабалася? Пра што ў ёй?

— Ну, як Валік, Цім выратавалі дзядзьку...

Гэтае "ну, як..." мяне ўразіла, і пачалася мая экскурсія па кнізе...

Вядома, што ў кожным пакаленні аматараў прыгод і фантастыкі знойдуцца тыя, каго прынаджвае загадкавы клад, пакручасты ход падзей. Аўтар дапамагае чытачу разабрацца ў складанай фабульнасці твора: "Нічога дзіўнага, дарагія чытачы, калі вы не адразу разгадалі, што малайцаваты гаманкі доктар з Падольскага шпіталя і сухенькі, жыццём пакамечаны дзядок, якога вазіў у сваю леснічоўку Крушынскі, — адзін і той чалавек".

Чытач ідзе з букетам прыгожых слоў, "дзе раслі салодкія дубцы лазы, маладога асінніку, трапляліся нават дзікія яблынькі". Тут прырода, як цыганка — просіць пазалаціць руку, і аўтар не адмаўляе: кладзе залацінкі на далоню чытача: "Малады месяц не стаў чакаць, пакуль сонца схаваецца ўсё. Выскачыў раней часу, застыў на другім баку неба. Так яны віселі: палова чырвонага сонца на захадзе і бледны ад уласнай смеласці разгублены кружок месяца на ўсходзе". Сонца і Месяц — два полюсы нашага існавання. Дзень і Ноч! "Мы ўсе зачатыя ў начы", — запэўніў Уладзімір Жылка.

Разважанні Ціма і ясны розум Валіка афарбаваны нацыянальным патрыятычным каларытам: "Вось ты, Валік, вучышся на "выдатна". Гэта значыць, што ў Вялікай Паляне (вёска Валіка і Ціма — **М.Б.**) ты пасля школы не застанешся. Усе з'язджаюць і ты паедзеш. Але я застануся тут! Я ніколі, ні за якія залатыя горы не прамяняю ўчарашняга нашага кар'ера і стану гаспадаром тут. Усё гэта маё. Я люблю гэтую зямлю. Яна не здаецца мне бяднейшаю за землі заморскія".

Аўтар схіляе чытача да роздуму над вечнай тэмай адносін паміж людзьмі. Адсутнасць іх вядзе да адасобленасці натуры, няўпэўненасці, псіхічнага і духоўнага збяднення, і ўрэшце, — да матэрыяльнага.

Аповесць паказвае сапраўднага героя, які інтуітыўна адпрэчвае асабістыя выгоды: "Крушынскі разгублена азірнуўся. Вакол быў глухі лес. Спачатку мільганула думка — завярнуцца і ўцячы. Не ўбльтвацца ні ўва што! Мала яму было прыгод на вяку! А рукі тым часам не слухаліся гэтых подленькіх довадаў мозгу, а ўсё рабілі сваю работу".

Героі аповесці ўзяты з сённяшняга часу, яны дзейныя, смелыя. А. Федарэнка не акцэнтуе ўвагу чытача на афганскай загартоўцы Крушынскага, не выстаўляе яго манекенам, рафінаваным "атожылкам" з мерседэсам і мабільнікам, а паказвае звычайнага жыццятворчага чалавека, які жыве дзеля дабра і выратоўвае дабро: "Трэба проста менш думаць, а рабіць тое, што рабіў бы ў гэтым выпадку на яго месцы любы нармальны чалавек". Юны чытач верыць Валіку, Ціму, Крушынскаму, бо на іх прыкладзе вучыцца, як пазбегнуць страху і болю перад праўдай жыцця. Але тая праўда, якую хочуць бачыць героі аповесці, не заўсёды стасуецца з нашай рэчаіснасцю.

Андрэй Федарэнка — малады пісьменнік. Але ён не працуе над тэкстам, а творыць. Працаваць можна на зямлі, на будоўлі. Творца ж павінен адчуваць, непакоіцца, радавацца, плакаць, верыць сваёй фантазіі, каб усё гэта затым пераўтварыць у вобразы. Бо сіла кожнага пісьменніка ў сіле вобраза. Помніцца, адзін знаёмы казаў: вось чытаў я Мележа, дзе ён апісвае салому, ды так хораша, узнёсла, здаецца, сам яе еў бы.

У аповесці А. Федарэнкі я натрапіў на ёмістыя вобразы: "А вось яны — у мокрым снезе, які, дарэчы, пачынаў падшэрхваць, а гэта значыць сляды, нібы ў гіпс закутыя, надоўга захаваюцца". І кожны чалавек пакідае сляды, з якіх складаецца мазаіка яго жыцця і жыцця наступнікаў. Нашы бацькі — працяг прадзедаў, нашы дзеці — працяг краіны.

Кожны літаратурны твор павінен утрымліваць выхаваўчы элемент. А. Федарэнка фарміруе маральныя арыенціры сваіх герояў, іх памкненні, іх думкі. Бо нашы думкі ўздзейнічаюць на нашу будучыню, на будучыню нашых нашчадкаў. "Афганская шкатулка" вучыць падлетка быць высакародным, шчырым, разумным, як паветра, вада і зямля. Яшчэ К. Кастанеда сцвярджаў: "Кожны кусцік, кожны каменчык — пад тваёй аховай. Беражы яго, і ўсё будзе служыць табе". Моладзь жыве будучым: школа, вучоба, сям'я, старасць — унукамі, успамінамі. І задача нашага грамадства — не перагружаць дзяцей непатрэбнымі ведамі, а падтрымаць іх самарэалізацыю і самараскрыццё. У аповесці, дзе аўтар шмат увагі надае станоўчым героям, няма ніводнага намёку на будучыню падлеткаў. Кожны ж пісьменнік павінен быць крыху Настрадамусам. Варта пазбягаць такіх ускладнёных, цяжка ўспрымальных выразаў, як "гіпсавая прыгажосць", "хліпкі горад"...

Усё мінае. Пройдуць, знікнуць і дробязныя стылёвыя хібы. Талент не вымяраецца часам, патрачаным на напісанне твора, а здольнасцю гадаваць і выхоўваць моладзь на веры, дабрыні і розуме.

**Мікола БУСЬКО**

# Анкеты

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

ша "русіца". Але ж тады ва ўсёй школе быў адзін хлопчык, які рос без маці, і ўсе пра гэта ведалі. Ды і я ведала. А перад 8 сакавіка ледзьве не забылася, што ў тым класе нешта іншае трэба прыдумаць, а не сачыненне.

— Вось вы, Ларыса Міхайлаўна, гаворыце пра тыя прэтэнзіі, якія да нас настаўнікі маюць. А што і ў нас да настаўнікаў яны могуць быць, вы і слухаць не хочаце, — зноў загаварыла Наста.

— Чаму гэта "слухаць не хачу"? Давайце свае прэтэнзіі. Толькі адна ўмова: гаварыць не больш, чым па чацвёра адразу!

— Вось бачыце, вы ўсё хочаце ў жарт ператварыць, а мы не жартуем. І гаварыць нічога не будзем. Мы напішам.

— Напішаце? Вось толькі гэтага і не хапала!. Спадзяюся, пісаць не ў міністэрства збіраецеся?

— Дазвольце мне! — узняў руку Вадзім Максімкоў.

Вадзіма, свайго нефармальнага лідэра, аднакласнікі часта скарыстоўвалі ў якасці дыпламата, хоць дыпламат з яго, між намі кажучы, быў "ніякі": у крытычных сітуацыях яму не хапала неабходнай сапраўднаму дыпламату стрыманасці. Вадзім выйшаў на сярэдзіну класа:

— Увага! Усё тое, пра што мы дамовіліся з класам, раскажу я. Ні ў якое міністэрства пісаць мы не збіраемся. Мы вам напішам, настаўнікам. Кожны сваё напіша. Ну, штосьці накшталт анкеты.

— Вам яшчэ не надакучылі анкеты? — здзівілася я. — Наш жа псіхолаг ці не кожны тыдзень вас анкетуе!

— Ды хто ў тых анкетах праўду напіша? — засмяяўся Вадзім. — Вось у канцы мінулага года было пытанне: "Хто з педагогаў нашай школы адпавядае твайму ідэалу настаўніка?" А я ўзяў ды і адказаў: "Ніхто". Дык мяне па почырку "вылічылі", а потым нататцыі чыталі ў дырэктара ў кабінеце. Не, цяпер мы не так зробім. Па-першае, пісаць будзем пра тое, што нас па-сапраўднаму хвалюе. Тэксты ўсе без выключэння набяром на камп'ютэры. Прозвішчы падпісваць не будзем. А вы, Ларыса Міхайлаўна, (мы вам аддадзім усё) пачытаеце нашы "анкеты" на педсавеце. Ну, калі гэта вам дазволяць. Чаму мы вырашылі зрабіць менавіта так? Нам у наступным годзе экзамены здаваць. А настаўнікі розныя бываюць. Мы ж сабе атэстаты псаваць не хочам так, як вы некалі сабе сапсавалі.

Ну, ты глянь, якія вывады яны зрабілі з гісторыі, якую я расказала ім аднойчы! Справа была вось у чым: мясцовыя дзеці час ад часу крыўдзілі тых, што хадзілі ў нашу школу з навакольных вёсак: з Рамановічаў, Ігаўкі, Слабады, Чаратка. Я вырашыла пагаварыць з крыўдзіцелямі, і неяк так атрымалася, што расказала ім той эпізод са свайго школьнага жыцця.

• Целяшоўская сярэдняя была для нас, дзяцей са многіх вёсак, для каго другой, а для каго і трэцяй па ліку. Мы, бярозаўскія, пасля сваёй пачатковай хадзілі ў васьмігодку ў Нівы. У папярэдніх дзвюх школах выкладанне вялося на беларускай мове, Целяшоўская ж школа была рускамоўнай. Таму мы перш чым адказаць на якое-небудзь пытанне настаўніка, у думках перакладалі свой адказ з беларускай на рускую. Атрымлівалася не вельмі ўдала. З нас смяяліся не толькі новыя аднакласнікі, але і некаторыя настаўнікі.

Але сапраўдным маральным катаваннем сталі для нас урокі гісторыі і грамадазнаўства, якія выкладаў у нас "завучыхін" муж Альберт Пятровіч — высокі, мажны, з дагледжаным поўным тварам, бездакорна апрануты мужчына гадоў сарака.

Ён, назіраючы за нашымі патугамі, грэбліва крывіў твар і зняважліва цадзіў праз зубы: "Колхозники несчастные".

У той дзень каля дошкі ў Альберта Пятровіча пакутліва шукаў патрэбныя словы адзін з самых "несчастных колхозников" — малаsucceeded рослы, сарамлівы Алесь Гарбачэня, які штодзень хадзіў ў школу з невялічкага, у некалькі хат, пасёлка з нязвыклаю для нашай мясцовасці назваю Зэфельд.

"Абарыгены" смяяліся і знарок няправільна падказвалі разгубленаму Алесю. Альберт Пятровіч ужо скрывіў твар, каб "изречь" сваё кароннае выслоўе, як Алесь узняў на Альберта Пятровіча павільгатнелыя, поўныя нянавісці вочы, усхліпнуў і выбег з класа.

Вось тут я не стрымалася і выказала "аристократу" ўсё, што трэба і нават тое, чаго не трэба было. На "колхозной" мове. Потым, перамагаючы ў сабе агіднае пачуццё страху, (што ж цяпер мне будзе?) дадала: "Перакласці на рускую?". Ён выслухаў мяне надзіва спакойна, толькі крыху паружавеў ягоны выпешчаны твар. З хвіліну памаўчаўшы, Альберт Пятровіч прамовіў: "Ох, и тяжеленько тебе, девонька в жизни будет с таким-то характером!".

"Несчастными колхозниками" ён з таго часу называць нас перастаў, але на выпускных экзаменах мне і сапраўды было «тяжеленько». Гэта намаганнямі "завучыхінага мужа" замест чаканай адной, я займела ў атэстаце ажно чатыры чацверкі. І, што самае крыўднае, па беларускай літаратуры, якую выкладала ў нас "завучыха".

Але ж на філалагічны факультэт педагагічнага інстытута — ды яшчэ і сталічнага! — я паступіла. І з першай спробы!

Тады я была такая шчаслівая! А цяпер, калі ў аднечассе абрынулася на мяне столькі праблем, вужакай запаўзло ў душу сумненне: а ці правільны выбар я зрабіла? Можа, я як педагог не адбылася і ўсе гэтыя гады не так і не таму вучыла дзяцей? І яшчэ пра адно думаю: чаму з усіх настаўнікаў Целяшоўскай школы мне часцей успамінаецца Альберт Пятровіч? Там жа было столькі цудоўных педагогаў! Вольга Мікалаеўна Нікіценка, Васіль Міхайлавіч і Вера Лявонцеўна Сафонавы, Ганна Фёдараўна і Васіль Іванавіч Сініцыны. А які высакародны, разумны і спагадлівы быў наш дырэктар Мікалай Афанасьевіч Лебедзеў! І ўсё ж пра іх я ўспамінаю радзей, чым пра Альберта Пятровіча. Можа, у чалавечай памяці ўвогуле мацней трымаюцца негатыўныя ўспаміны, асабліва са школьнага жыцця? Калі так, то няхай мае былыя вучні не ўспамінаюць мяне зусім.

Хацелася б суцешыць сябе думкаю, што альберты пятровічы сышлі з сённяшняй школы ў мінулае. Толькі каму-каму, а дзецям тое відней.

Так што няхай будзе па-іхняму. Няхай пішуць і здаюць мне свае анкеты.

• І вось яны ляжаць у маёй сумцы, а я, збегшы з семінара, іду да Галі і думаю, як мне выканаць сваё абяцанне: прачытаць на педсавеце гэтыя шчырыя, але парою "крамольныя" лісты пад умоўнаю назваю "анкеты"?

**ЗАХАРАВА, 19**



**Пішыце на адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва";**
**e-mail: minsk@lim.by**
***Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by***

### Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 135

**АБ ПРЫСВАЕННІ М. С. ВЫСОЦКАМУ, П. П. ПРАКАПОВІЧУ, В. А. РЭВЯКУ І М. А. САВІЦКАМУ ЗВАННЯ "ГЕРОЙ БЕЛАРУСІ"**

За выключныя заслугі ў сацыяльна-эканамічным развіцці Рэспублікі Беларусь прысвоіць званне "Герой Беларусі":

ВЫСОЦКАМУ Міхаілу Сцяпанавічу — генеральнаму дырэктару Навукова-інжынернага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Белаўтатрактарабудаванне" Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

ПРАКАПОВІЧУ Пятру Пятровічу — Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

РЭВЯКУ Васілію Афанасьевічу — старшыні сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Прагрэс — Верцялішкі" Гродзенскага раёна.

САВІЦКАМУ Міхаілу Андрэевічу — кіраўніку дзяржаўнай установы культуры "Творчая акадэмічная майстэрні жывапісу, графікі і скульптуры".

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*1 сакавіка 2006 г., г. Мінск.*

### Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 137

**АБ ПРЫСВАЕННІ МІТРАПАЛІТУ ФІЛАРЭТУ (К. В. ВАХРАМЕЕВУ) ЗВАННЯ "ГЕРОЙ БЕЛАРУСІ"**

За выключны асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне беларускага народа, умацаванне дружбы і брацкіх сувязей паміж народамі, развіццё міжканфесіянальнага дыялога прысвоіць Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Філарэту (Вахрамееву Кірылу Варфаламеевічу) званне "Герой Беларусі".

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*1 сакавіка 2006 г., г. Мінск*

### ДЗЯРЖАЎНЫМІ ЎЗНАГАРОДАМІ АДЗНАЧАНЫ РАБОТНІКІ, ЯКІЯ ЎНЕСЛІ ЗНАЧНЫ ЎКЛАД У РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 1 сакавіка падпісаў указ № 136 аб узнагароджанні дзяржаўнымі ўзнагародамі работнікаў, якія ўнеслі найбольш значны ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны ў 2001—2005 гадах.**

У прыватнасці, за высокія дасягненні ў вытворчай і сацыяльна-культурнай сферах, значны асабісты ўклад у выкананне прагнозных паказчыкаў за пяцігодку ордэнам Айчыны II ступені ўзнагароджаны генеральны дырэктар беларуска-расійскага сумеснага прадпрыемства ААТ "Брэстгазаапарат" Міхаіл Іофе, дырэктар ЗАТ "Агракамбінат "Зара" Леанід Майсееў.

Ордэна Айчыны III ступені ўдастоены старшыня Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта Мікалай Азаматаў, генеральны дырэктар ААТ "Салігорскпрамбуд" Мікалай Ашэйчык, старшыня Касцюковіцкага раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў, старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Аграфірма "Лучнікі" Слуцкага раёна Мікалай Васілевіч, генеральны дырэктар ВА "Гомсельмаш" Валерый Жмайлік.

У ліку ўзнагароджаных ордэнам Пашаны — намеснік прэм'ер-міністра Андрэй Кабякоў, міністр фінансаў Мікалай Корбут, міністр замежных спраў Сяргей Мартынаў, слесар-рамонтнік РУП "Мінскі трактарны завод" Дзмітрый Камінскі, вадзіцель-выпрабавальнік Беларускага аўтамабільнага завода Уладзімір Зорыч.

Ордэнам Францыска Скарыны адзначаны канцэртмайстар Нацыянальнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь Эдуард Зарыцкі.

Медаля "За працоўныя заслугі" ўдастоены намеснік начальніка па эканамічнай рабоце мытні "Заходні Буг" Любоў Бальшакова, электразваршчык ААТ "Брэстсельмаш" Іван Гомля, аператар машыннага даення ААТ "Белавежскі" Камянецкага раёна Галіна Дрозд.

Усяго дзяржаўных узнагарод удастоены каля 500 чалавек.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

# А МУЗЫКА ЖЫВЕ...



З выдатным расійскім кампазітарам Андрэем Пятровым вялікая грамада прыхільнікаў яго таленту развіталася пры канцы зімы. Немажліва толькі развітацца з яго музыкай: папулярнай і строгай, запамінальнай і ненадакучлівай. Яго рознабаковы талент увасобіўся ў оперы "Пётр Першы", сімфоніі-фантазіі "Майстар і Маргарыта", у музыцы да вядомых фільмаў, сярод якіх "Я крочу па Маскве", "Сцеражыся аўтамабіля", "Службовы раман", "Пра беднага гусара слова закіньце", "Жорсткі раманс" ды інш., у лірычных песнях... Народны артыст Расіі А. Пятроў быў жаданым госцем у нашай краіне, прыязджаў на прэм'еры сваіх твораў, працаваў у журы фестывалю "Славянскі базар" у Віцебску", а ўлетку мінулага года атрымліваў там, на фестывальнай сцэне, заслужаную пачэсную ўзнагароду ад Прэзідэнта Беларусі...

Добрым, шчырым сябрам запомняць яго музыканты Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі, які неаднойчы прадстаўляў творчасць А. Пятрова на канцэртнай эстрадзе, ладзіў аўтарскія вечарыны ў Мінску і ў Санкт-Пецярбургу. Асобная старонка незабыўнага творчага сяброўства — балет Андрэя Пятрова "Стварэнне свету", арыгінальная пастаноўка якога ўжо тры дзесяцігоддзі ўпрыгожвае рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета нашай краіны.

Што ж, не вечнае жыццё чалавека. Але гучыць яго музыка, гучыць — і працягвае свой зямны шлях...

**С.Б.**

***Фота забяспечана аўтарам***

### У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

## УРУЧАНЫ ЧЛЕНСКІЯ БІЛЕТЫ

1 сакавіка сёлетняга года старшыня Грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі" Мікалай Чаргінец уручыў членскія білеты літаратарам, якія вырашылі звязаць свой творчы лёс з гэтай суполкай, і ўваходзяць у яе Мінскую гарадскую арганізацыю. Раней з гэткай жа мэтай ён сустрэўся з членамі Мінскай абласной арганізацыі СПБ.

## ПАДАДЗЕНЫ ЗАЯВЫ АБ ВЫХАДЗЕ З СБП

Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Аўруцін і старшыня Мінскай гарадской арганізацыі СПБ Міхась Пазнякоў наведалі Дом літаратара, дзе перадалі кіраўніцтву Саюза беларускіх пісьменнікаў заявы тых, хто па ўласным жаданні выйшаў з СБП і ўступіў у ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі". Гэта — вядомыя паэты, празаікі, крытыкі Мікола Антаноўскі, Алена Брава, Ніна Гаргляд, Віктар Гардзей, Валерый Грышкавец, Уладзімір Дуктаў, Валянціна Кадзетава, Анатоль Крэйдзіч, Васіль Макарэвіч, Уладзімір Мацвеенка, Васіль Медунецкі, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Навумовіч, Наталля Прыступа, Уладзімір Рагаўцоў, Уладзімір Саламаха, Уладзімір Сауліч, Мікалай Сердзюкоў, Уладзімір Скарынкін, Уладзімір Федасеенка, Ганад Чарказян, Віктар Шніп, Таццяна Шамякіна, Анатоль Шушко, Георгій Шыловіч, Сяргей Зайцаў, Святлана Ясеева.

Хацелася б звярнуць увагу на адзін істотны момант. У асобных выданнях з'яўляюцца паведамленні аб выключэнні таго ці іншага літаратара з СБП. Хочацца нагадаць шаноўным змагарам за праўду: калі чалавек падае заяву аб выхадзе з нейкай арганізацыі па ўласным жаданні, то гаворка можа ісці толькі аб задавальненні ці незадавальненні гэтай просьбы, а не пра выключэнне.

## ТЭМА ГАВОРКІ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Марціновіч сустрэўся са студэнтамі і выкладчыкамі Мінскага дзяржаўнага вышэйшага радыётэхнічнага каледжа. Госця прадставіла выкладчык беларускай мовы і літаратуры Антаніна Паўлюкавец. Менавіта дзякуючы Антаніне Міхайлаўне ў гэтай вышэйшай навучальнай установе і праходзяць рэгулярна сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.

Падчас гаворкі закраналіся розныя бакі творчага жыцця, у тым ліку і дзейнасці Грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі". Але асноўная размова, безумоўна, вялася вакол творчасці самога А. Марціновіча. Асаблівую цікавасць у прысутных, дый, як сведчаць шматлікія водгукі, у чытачоў увогуле, выклікаў яго гісторыка-мастацкі цыкл кніг "Хто мы, адкуль мы" і новая, шостая па ліку — "Сполахі далёкіх зарніц", выпушчаная летась выдавецтвам "Мастацкая літаратура", якая адкрыла серыю "Гісторыя ў асобах". Адметнасць гэтай кнігі ў тым, што ў ёй расказваецца не толькі пра знакамітых беларусаў, а і пра тых выдатных дзеячаў, у каго беларускія карані, а гэта, як вядома, расійская імператрыца Кацярына I, знакаміты кампазітар Міхаіл Глінка, аўтар сусветна вядома "Чорнага квадрата" Казімір Малевіч... А. Марціновіч падзяліўся сваімі творчымі планамі, жадаючым паставіў на сваёй кнізе аўтографы.

**Казімір ЛУНЕВІЧ**

## Пісьменнік, вандроўнік, грамадзянін...

На Рагачоўшчыне шырока адзначана 150-годдзе з дня нараджэння рускага пісьменніка Уладзіміра Людвігавіча Кігна (Дзедлава), аўтара шматлікіх яркіх, цікавых апавяданняў, дарожных нарысаў, аповесцяў і іншых твораў. У цэнтральнай раённай бібліятэцы з удзелам навучэнцаў педвучылішча прайшла літаратурна-краязнаўчая гадзіна "Пісьменнік, вандроўнік, грамадзянін", прысвечаная знакамітаму земляку. Вечарыны і іншыя мерапрыемствы з гэтай нагоды праведзены Курганскім СДК, на тэрыторыі якога жыў пісьменнік, другімі ўстановамі культуры, а на магіле Уладзіміра Кігна адбылася паніхіда, сустрэча з жыхаром вёскі Фёдараўка Міхаілам Арсенцьевічам Бердніковым, які ведае шмат цікавых фактаў з жыцця творцы, яго родных і блізкіх.

Змястоўнае мерапрыемства прайшло і ў Рагачоўскім музеі Народнай славы, у якім удзельнічалі навучэнцы вучылішчаў і школ горада, прадстаўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, раённага аддзела культуры, мясцовыя літаратары, грамадскасць. Навуковыя супрацоўнікі музея Яўгенія Ярмоліна ды Вольга Афанасенка правялі вечар-партрэт, прысвечаны незаслужана забытаму самабытнаму пісьменніку. Падчас вечарыны паэт і бард Юрый Арэстаў выконваў рамансы, паэт Міхаіл Міронаў прачытаў свае новыя творы, прысутных зацікавілі выступленні педагога-арганізатара Серабранскага вучэбна-педагагічнага комплексу Таццяны Чумаковай, галоўнага спецыяліста аддзела культуры райвыканкама Ніны Харонжа і інш.

**Міхась СЛІВА**

## ПІШЫЦЕ І ДАСЫЛАЙЦЕ

Падоўжаны тэрміны правядзення адкрытага рэспубліканскага конкурсу п'ес для дзяцей і падлеткаў "Дзіцячы свет такі багаты...". Творчае спаборніцтва арганізавалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Упраўленне культуры Мінгарвыканкама, Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Цэнтр беларускай драматургіі Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры.

Як паведаміла дырэктар ТЮГа Наталля Башава, п'есы на конкурс будуць прымацца да 30 мая 2006 года. На працягу наступных двух месяцаў журы падвядзе вынікі.

Паводле Наталлі Башавай, мэта мерапрыемства — развіццё тэатральнай драматургіі для дзяцей і юнацтва, узбагачэнне рэпертуару прафесійных і аматарскіх тэатраў Беларусі якаснымі сцэнічнымі творамі.

На конкурс прымаюцца драматычныя п'есы і творы малых форм разнастайнай тэматыкі, у тым ліку па матывах нацыянальнага фальклору, сучаснай беларускай літаратуры і сусветнай класікі, п'есы-казкі для самых маленькіх, займальныя п'есы для сярэдняга школьнага ўзросту, псіхалагічныя вострасацыяльныя творы для падлеткавай аўдыторыі.

П'есы трэба дасылаць у двух асобніках на адрас Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Абавязковая ўмова конкурсу — каб творы, якія падаюцца да разгляду журы, не былі апублікаваны або публічна выкананы раней афіцыйнага падвядзення яго вынікаў.

Для пераможцаў конкурсу прадугледжаныя грашовыя прэміі, а для юных удзельнікаў — заахвочвальныя прызы. Лепшыя творы ўвойдуць у зборнік, які выдаецца Цэнтрам беларускай драматургіі Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры.

**Мікалай АНІШЧАНКА**

## Сталічныя сустрэчы

У сталічнай школе № 1 адбылася сустрэча з аўтарам кніг сатыры і гумару, казак і вершаў для дзяцей Анатолем Зэкавым. Навучэнцам вельмі спадабаліся не толькі гумарэскі ды пародыі, але і лірычныя вершы творцы са зборніка "Лісты да цябе".

У часе сустрэчы адбылася прэзентацыя новых выданняў А. Зэкава, а намаганнямі бібліятэкі была арганізавана выстаўка кніг аўтара.

Напрыканцы свята вучаніца В. Шэлегава прачытала ўласны твор, байку. Многія атрымалі аўтограф аўтара, а супрацоўнікі бібліятэкі падарылі сімвалічны сувенір "Вожык з полымем".

Хацелася б выказаць асабістую ўдзячнасць начальніку аддзела метадычнай літаратуры Л. Несцяровіч, якая дапамагала арганізаваць сустрэчу з пісьменнікам, а таксама пазнаёміла калектыў школы з навінкамі метадычнай літаратуры (больш як 150 найменняў).

**Т. ЗУБЧОНАК**



# НАТАТКІ ПРА ПАДАТКІ

Мастацтва падаткаабкладання заключаецца ва ўменні абшчыпаць гусь так, каб атрымаць максімальную колькасць пер'я пры мінімальна магчымым яе шыпенні.

**Жан Кальбер**

***Гэта выказванне вядомага фінансіста і эканаміста, палітычнага дзеяча, які быў міністрам фінансаў пры каралі Людовіку XIV у той час, калі Францыя ў XVI стагоддзі дасягнула найвышэйшага ўздыму ў палітыка-эканамічным жыцці. Такім чынам, праблема падаткаабкладання старая як свет.***

### *Азбука мастацтва падаткаабкладання*

Нам добра вядома, што паўсюль у цывілізаваным свеце сістэма падаткаабкладання дакладна адрэгулявана, і падмануць дзяржаву немагчыма — пад зямлёй знойдуць! Цяпер і ў нас знойдуць, таму трэба практычна кожнаму, нават працуючаму пенсіянеру, мець хаця б пачатковыя веды, вучыцца лічыць свае кроўныя.

На экране БТ круціцца сацыяльная рэклама пра тое, што падатковая інспекцыя папярэджвае... Аднак часцяком людзі думаюць, што папярэджанне гэтае тычыцца хіба толькі тых, хто працуе ў сферы вялікага бізнесу. Ды й чаго ісці, правяраць у бухгалтэрыі гадавы заробак, бо колькі там іх, тых грошай было. А тыя два-тры разы, што недзе лекцыі пачытаў ці падчас свята, фестывалю нешта атрымаў — гэта і зусім з памяці сплыло. Амаль год таму было тое. Ды і падаткі ж з тых заробкаў вылічвалі. Першыя два месяцы года прамільгнулі незаўважна. Вось тут і трапляе наш герой у пераплёт!

Дык давайце вучыцца лічыць свае грошы. І чым хутчэй мы гэта пачнём рабіць, тым лепш, бо час не чакае. А дапаможа і параіць, як гэта зрабіць правільна, начальнік аддзела кантролю за дэклараваннем даходаў і маёмасці фізічных асоб інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Першамайскім раёне г. Мінска Людміла Мядзведзева.

***— З чаго складаецца сукупны гадавы даход?***

— Аб'ектам падаткаабкладання з'яўляецца сукупны гадавы даход, — тлумачыць Людміла Алегаўна. — Гэта значыць, заработная плата за ўвесь мінулы год на асноўнай працы, а таксама прыпрацоўкі, узнагароджанні, ганарары, выплаты за лекцыі, выступленні і інш. Падсумоўваецца ўсё гэта ў падатковай інспекцыі, таму што кожны бухгалтар утрымлівае падаходны падатак з той сумы, якую чалавек зарабіў. Гэта, часцей за ўсё, 9 працэнтаў. І калі агульная сума **за год** усіх вашых заробкаў на асноўнай працы і ў розных месцах перавысіла абкладаемы даход **6 169 920 рублёў,** то дэкларацыю падаваць трэба.

***— З чаго пачынаць?***

— Хто першы раз прыходзіць на дэклараванне, тым, згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, трэба атрымаць уліковы нумар падаткаплацельшчыка, які прысвойваецца ў Дзяржрэестры. А заява падаецца па месцы жыхарства ў падатковую інспекцыю раёна. З пашпартам запаўняецца заява па ўстаноўленым узоры, адсылаецца ў Дзяржрэестр, дзе на працягу 10 дзён прысвойваецца нумар, які захоўваецца за падаткаплацельшчыкам увесь час.

**Аператыўна выклікаць у падатковую ўсіх немагчыма. Таму тым, хто мае некалькі крыніц даходу, неабходна перш за ўсё пазваніць і спытаць, як быць у той ці іншай сітуацыі. Як ні дзіўна, нават настаўнікі не разумеюць, абураюцца, маўляў, мы ж не ў камерцыйнай структуры працуем?! Для падатковага інспектара няма розніцы, дзе хто працуе. Нават дамову з фізічнай асобай за ўборку дома ці абрэзку саду таксама трэба ўключаць у дэкларацыю. Кожны павінен сам весці ўлік сваіх даходаў.**

**Падатковай інспекцыі патрэбна толькі даведка аб заробку на асноўнай працы, а пра іншыя крыніцы даходаў можна паведаміць вусна, назваўшы інспектару сумы налічэнняў для падаходнага падатку і ўтрыманняў. Гэтыя сумы з дадатковай работы можна і па тэлефоне ў бухгалтара запрасіць, пісьмовыя даведкі непатрэбныя. Арганізацыі ж здаюць усе звесткі ў падатковую інспекцыю за апошні квартал мінулага года да 15 студзеня. Але яны паступаюць у раённую інспекцыю па месцы працы, а калі чалавек жыве ў іншым месцы, то інфармацыя паступае позна. І тады чалавек, які не аформіў дэкларацыю, можа атрымаць штраф.**

### *У адпаведнасці з Законам*

***— Чаму зараз з няштатных аўтараў вылічваюць 20 працэнтаў ганарару без папярэджання? Без майго ведама і жадання. А потым тыя чатыры пятыя астатку поштай перашлюць за мой жа кошт. Я ж такім чынам чвэрць заробку страчу!***

— У Законе, які дзейнічаў да 31 снежня мінулага года, у артыкуле 11 было пазначана, што плацельшчык можа на неасноўным месцы работы па сваім жаданні напісаць бухгалтару заяву з просьбай утрымліваць падаходны падатак па стаўцы 20 працэнтаў. На гэты даход льготы не распаўсюджваюцца, г. зн. аўтарскіх вылікаў няма, і дэклараванне непатрэбна. Але гэта было толькі з вашай згоды і з пісьмовай заявы.

Сёлета заканадаўства змянілася. Зараз абавязкова будуць утрымліваць 20 працэнтаў, калі вы не напішаце ніякай заявы, у адпаведнасці з новым законам.

**— Што такое аўтарскае ўзнагароджанне?**

— Гэта заробкі ў сферы выяўленчага, кіна-, відэамастацтва, кампазітарская праца, журналісцкая і літаратурная, пісьменніцкая дзейнасць, — тлумачыць Людміла Мядзведзева. — Але ёсць такое паняцце як дакументальна пацверджаныя расходы і нарматыў расходаў. Калі аўтар на працягу года стварае вялікую творчую працу (скульптар ці жывапісец), можа прадставіць адпаведныя дакументы ў падатковую інспекцыю. І ў канцы года на гэтую суму памяншаем яму падатковую базу.

***— Але ж у творчых людзей характар іншы, яны не будуць скрупулёзна складваць свае паперкі, рахункі, чэкі, падлічваць выдаткі. У гэтым выпадку для такіх людзей прадугледжаны нарматыў аўтарскіх затрат?***

— Калі я бачу ваш ганарар 1 млн. рублёў і не маю ў пацвярджэнне ніводнага дакумента, — працягвае Людміла Алегаўна, — змяншаю падаткаабкладаемую базу, калі вы ў дэкларацыі ўказваеце іншыя затраты, па зацверджаным нарматыве: 20 працэнтаў — для журналісцкіх літаратурных прац, 30 — ганарары пісьменнікаў, а 40 працэнтаў — за музычныя творы. І тады гэты даход 20 працэнтаў не абкладваецца падаткам. Нават калі вы не перавысілі сукупны гадавы даход у 6 млн. 169 тысяч 920 рублёў і вам не трэба дэклараваецца, вы маеце права гэтыя дакументы падаць і вярнуць грошы, якія вам належаць.

— Ці возьмем такі прыклад: сям'я на чарзе на атрыманне жылля, а забудоўшчык льгатаваў крэдыт па асноўным месцы працы. У яго паявыя ўзносы былі 10 млн., а расходаваў ён толькі сем. Значыць, у яго тры мільёны не пральгатаваны. Што тут рабіць? Члены яго сям'і бяруць дакументы, прыходзіць да нас, падаюць дэкларацыю, мы льгатуем падаходны падатак і вяртаем тыя грошы, якія былі ўтрыманы. Тое ж і з навучаннем, і з аўтарскімі ўзнагароджаннямі.

***— Няўжо выгадна творчым людзям падаваць дэкларацыю?***

— Сапраўды, выгадна, і не толькі творчым людзям — упэўнена сцвярджае Людміла Мядзведзева. — Летась мы вярнулі даволі многа грошай, недзе 230 млн. рублёў. На сённяшні дзень трэба вяртаць каля 180 млн. рублёў трэба вяртаць усім, хто будуецца, вучыцца і атрымлівае першую вышэйшую і першую сярэднюю спецыяльную і студэнтам магістратуры.

***— Раней даведку аб аплаце за навучанне аддавалі ў бухгалтэрыю, а цяпер яе трэба прыносіць у падатковую інспекцыю?***

— У новым заканадаўстве зроблены такія дапаўненні: падатковыя вылікі і сацыяльныя вылікі (плата за вучобу — гэта сацыяльныя вылікі, а за будаўніцтва — гэта маёмасныя вылікі) будуць у гэтым годзе прадстаўляцца не па месцы работы, а ў падатковую інспекцыю пасля заканчэння падатковага перыяду, г. зн., за гэты, 2006 год мы прымем дэкларацыі і прадставім людзям льготы ў 2007 годзе.

### *Даражыць сваім імем*

***— Ці ёсць парушальнікі? Ці шмат неплацельшчыкаў?***

— Так, іх вельмі шмат. У нас сёлета атрымалася складаная сітуацыя з чэкамі "Жыллё". Усе, хто папрадавалі (а гэта каштоўныя паперы), трапілі пад адміністрацыйную адказнасць: хто за несвоечасовае прадстаўленне дэкларацыі, хто за нявыплату падаткаў, хто за непастаноўку на ўлік — і атрымалі штрафы. Даволі вялікія: за непастаноўку на падатковы ўлік — штраф да пяці базавых велічынь, за непадачу дэкларацыі — ад дзвюх да 10 базавых, за тое, што вы не заплацілі 20 тысяч рублёў падатку — у вас будзе мінімальны штраф 4 базавых ці 118 тыс. руб. Хаця для тых, хто плаціць 3 млн. руб. падатку, гэты штраф нічога не значыць. Таму тут больш дастаецца якраз малазабяспечаным слаям насельніцтва.

Ёсць многа скаргаў, людзі незадаволены, таму магчыма, што будуць уносіцца змяненні. Існуе практыка: калі прымаецца новы закон, а яго нормы не працуюць, ды яшчэ і выклікаюць незадавальненне, то ўносяцца змяненні і дапаўненні.

**— А студэнты часам пакрыўджаны?**

— Упэўнена, што будуць незадаволены і студэнты, якія працуюць і аплачваюць сваё навучанне, за свой кошт вымушаны браць водпуск на сесію. Яшчэ летась яны атрымлівалі льготы на падаходны падатак на працы. Сумы, скіраваныя на навучанне, вылічваліся з абкладаемага падатку. А зараз гэтага не будзе. Толькі напрыканцы года студэнты-завочнікі з платнай формай навучання атрымаюць у падатковай інспекцыі свае льготы. І атрымліваецца так, што зараз ім трэба заплаціць і за навучанне, і падаткі ў поўным аб'ёме. Такая ж сітуацыя і з атрыманнем льготнага крэдыту на будаўніцтва жылля для маладых сямей. Толькі ў канцы года з падатковай інспекцыі пойдзе вяртанне грошай.

### *Пенсіі і стыпендыі падаткам не абкладваюцца*

Пенсія і стыпендыя ў сукупны гадавы даход не ўключаюцца і падаткам не абкладаюцца. Але калі ў некалькіх месцах працуе пенсіянер, то тут ужо трэба лічыць свае грошы, а пры перавышэнні сумы абкладаемага даходу абавязкова прыйдзецца звяртацца ў падатковую інспекцыю. Тое ж тычыцца і сумяшчальніцтва.

Стыпендыі тых, хто вучыцца ў магістратуры, таксама не дэкларуюцца. Магістратура з'яўляецца другой ступенню першай вышэйшай адукацыі. Аспіранты ж атрымліваюць другую вышэйшую адукацыю, таму з іх стыпендый вылічваецца падаходны падатак.

**— Зараз многія творчыя людзі адпраўляюцца** з **выступленнямі, канцэртамі, лекцыямі ў іншыя краіны...**

— За мяжу выязджалі на гастролі некалькі нашых тэатраў. Там яны атрымлівалі грошы. Былі накіраваны туды афіцыйна. Аплата сутачных, пражывання і г.д. — за кошт прымаючага боку. Тут прэтэнзій няма. Але з імі разам выязджалі артысты, якія ехалі за свой кошт у Германію і там атрымлівалі ганарары. І вось гэтыя даходы падлягаюць падаткаабкладанню, таму што яны выязджалі канкрэтна на заробкі.

***— А калі адтуль не прышлюць звесткі?***

— Нам інфармацыю могуць прадставіць розныя структуры. Пакуль што толькі Расійская Федэрацыя дае звесткі аб нашых людзях, якія працуюць там, і то нерэгулярна, а па заходніх краінах такой практыкі няма. Але звесткі паступаюць з Польшчы, Літвы, калі там праходзяць семінары, сімпозіумы, калі запрашаюць медыцынскіх і іншых спецыялістаў.

Ёсць сумленныя людзі. Вядомы прафесар, доктар навук за мяжой атрымаў салідны прыз і прыйшоў (сам!) плаціць падаткі. Грошы не дэклараваліся на мяжы, бо ехалі з дыпламатычным багажом. Але ён сказаў: "Я дастаткова вядомы чалавек, не хачу сарамаціцца. Я сваім імем даражу, таму лепш заплачу падаткі сваёй дзяржаве і буду жыць з чыстым сумленнем".

Таму і праўда: заплаці падаткі — і спі спакойна. Грошы пад матрацам муляць не будуць.

**Галіна СУША**

***Фота аўтара***

# «ВЫЖЫЦЬ МОЖА ТОЛЬКІ ЛАКАНІЧНАЯ КНІГА»

***Мінскі кніжны кірмаш прыцягнуў увагу шматлікіх выдавецкіх і пісьменніцкіх арганізацый з-за мяжы, але, бадай што, самае пачэснае месца сярод замежнікаў адводзілася расіянам. Краіна-суседка прыслала адразу некалькі дэлегацый ад розных структур. Дэлегацыю ад Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў узначальваў генеральны дырэктар Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Уладзімір Баярынаў.***



**— Уладзімір Георгіевіч, наколькі аб'ектыўна ў расійскім літаратурным працэсе адлюстраваліся тыя сацыяльна-эканамічныя працэсы, што адбываліся ў Расіі цягам 1990-х?**

— Сам па сабе, літаратурны — а таксама і выдавецкі — працэс, адлюстраваў тое, што мы маем. Той, хто больш прабіўны, у каго маюцца фінансы, і выдае тое, што *спажываецца*. Напачатку мы мелі справу з перакладамі замежных дэтэктываў, потым — са сваімі ўласнымі дэтэктывушчыкамі, затым — з літаратурай самай нізкай якасці, калі ўжо нават дэтэктывы пабляклі ад хвалі пасцельных падрабязнасцей, ад духоўнага распранання, ад падрабязнасцяў любові ва ўсіх яе відах — мужчына з мужчынам, жанчына з жанчынай... Гэта — працэсы, якія заахвочваюцца тымі, хто зараз валодае кніжным рынкам. На гэткім "матэрыяле" і робяцца тыя *фанерныя* зоркі, што зараз зіхацяць на літаратурным небасхіле.

Натура духоўная ў такіх умовах яшчэ не паднялі галавы. Вельмі дрэнна, што людзі сталага ўзросту, якія хоць як-небудзь маглі б паўплываць на літаратурны працэс гэтых апошніх пятнаццаці гадоў, неяк раз'ядналіся і ў свой час не сыгралі агульным аркестрам у вушы ўраду, у вушы тым, хто кіруе гэтым літаратурным працэсам. А зараз музыку ў расійскай літаратуры заказваюць людзі абсалютна глухія.



**— І ўсё ж такі, масавая літаратура — з'ява досыць распаўсюджаная на прасторах былога Саюза. Вядома, што некаторыя пісьменнікі Беларусі і Украіны зараз пішуць "на замову" для маскоўскіх і піцерскіх выдавецтваў, прычым кнігі гэтыя часта нараджаюцца літаральна за адзін-два тыдні. На ваш погляд, ці мае права такая дзейнасць называцца літаратурай?**

— Як вы слушна заўважылі, ёсць такія ўмельцы, якія за тыдзень надыктуюць цэлую кнігу, а *хуткадрукуючая* дзяўчына, што сядзіць побач, гэтак жа імгненна прадставіць тое сачыненне ў электроннай версіі.

Я не чытач такой масавай літаратуры, але не выключаю, што недзе ў гэтай сферы працуюць і таленты, але яны не туды скіраваны. Толькі збольшага, яна як фармацыя не мае дачынення да якаснай рускай літаратуры.

**— А якімі павінны быць крытэрыі тэксту, каб ён мог называцца літаратурай?**

— Першае, што я б назваў — пісаць без злосці. Не быць сабакам сваёй Айчыны, не пабрэхваць (даруйце) на сваю Айчыну, а наадварот, любіць яе. І, калі ты яе любіш, то нават калі недзе крытычна паставіўся да аб'ектыўных з'яў — бо, сапраўды, шмат нязграбнага ў свеце, шмат нязграбнага ў краіне — любячы, ты *маеш права* крытыкаваць. Гэта тое ж самае, калі ты сваёй маці роднай скажаш: "Мама, ну хопіць табе ўжо сёння на агародзе корпацца, ідзі паспі".

**— Аб'ектыўна, літаратура 80—90-х у Расіі была даволі разнапланавай, і прадпрымаліся шматлікія спробы асэнсаваць, што ж такі адбываецца ў краіне. Узнікалі аўтары, якія пазіцыянавалі сябе зачынальнікамі цэлых новых літаратурных напрамкаў.**

**У прыватнасці, прадстаўнікі майго пакалення (якім зараз 20—30), зачытваліся і зачытваюцца Пялевіным, які пазіцыянаваў сябе як зачынальніка турбарэалізму. На ваш погляд, што павінен уяўляць пісьменнік, чаго дасягнуць і якімі якасцямі валодаць, каб мець права заяўляць аб заснаванні прынцыпова новага напрамку ў літаратуры?**

— Людзі, якія валодаюць літаратурнымі здольнасцямі і літаратурным стажам, адносяцца да падобных заяў з пэўнай доляй іроніі.

Літаратары разумеюць галоўны прынцып сучаснасці: ты будзеш такім, якім ты сябе намалюеш. Малюецца гэта не ім адным, а малюецца *мудрым* калектывам камерцыйнага выдавецтва, а аўтар тут — толькі адзін з выканаўцаў заказу.

Сёння любая багата выдадзеная кніга — гэта праект. Гэта ўжо не аўтар — не Чэхаў, не Дастаеўскі. Гэта літаратурна-выдавецкі праект, бо мастак нявольны сёння. Яму нельга адыходзіць ад стала, але трэба пісаць тое, што яму замаўляюць.

Хтосьці з сучасных пісьменнікаў больш таленавіты, хтосьці менш — але, трэба аддаць ім даніну, яны таленавітыя. Увогуле, зараз цяжка прадставіць у Маскве чалавека, які ўзяўся за пяро без здольнасцей. А калі яшчэ чалавек накіроўваецца кімсьці... Раней "куратарам" мог выступаць настаўнік-філосаф — і мы можам бачыць такую з'яву цягам гісторыі літаратуры, пачынаючы са Старажытнай Грэцыі. А зараз такі "куратар" — дырэктар праекта.

Калі пячэцца выдавецкі праект, гэта ўжо не літаратура сама па сабе, гэта нешта іншае. Я не кажу, што гэта дрэнна. Можа быць, гэта правобраз чагосьці будучага, але гэта яшчэ навобмацак зробленае, і такімі крутымі хлопцамі, як зараз кажуць...

**— Зараз у свеце шмат гавораць і пішуць аб тым, што адбываецца нейкі крызіс постмадэрнізму, што ў бліжэйшыя тры — пяць год на змену постмадэрнізму, які адмаўляе аўтара, ролю асобы ў літаратурным працэсе, прыйдзе Аўтар з вялікай літары, які стане сапраўдным аўтарытэтам для мільёнаў. Якім вам бачыцца развіццё літаратурнага працэсу ў Расіі ў рамках гэтых сусветных тэндэнцый?**

— Так, у Расіі пэўны час таму *нібыта* з'явіліся постмадэрністы. Але як маглі з'явіцца постмадэрністы ва ўмовах, калі *не было мадэрнізму*, калі *не склалася філасофскай школы постмадэрнізму*? Тое, што падслухана, ці, як казаў Маякоўскі, "падгледжана ў замочную шчыліну", гэта адно. Выдаваць сябе можна за каго заўгодна, але ўсё-такі людзі спрактыкаваныя бачаць вушы, бачаць карэнне і бачаць нават хвост. Таму — называйся як хочаш, але час сцірае...

У Расіі, я ўпэўнены, сапраўднага постмадэрнізму не было, і таму вельмі цяжка сцвярджаць нешта ўпэўнена аб тым, што дакладна будзе далей. Магу толькі рабіць здагадку, што жанравыя межы ў літаратуры будуць сціраца катастрафічна хутка. Дужа цяжка ў гэты шалёны, раздзёрты час прадставіць сабе гладка напісаны раман у стылі "Вайны і міру". Але я, наадварот, не адмаўляю таго, што рэалізм будзе развівацца ў літаратуры, следам за цягай людзей да рэальнага. Гэта мо і будзе нейкая альтэрнатыва пануючай сёння над літаратурай журналістыцы: бо сучасныя журналісты часта сваю фантазію выдаюць за рэальнае.

Больш рэалістычным будзе мастацкае выражэнне, — але, на мой погляд, і больш эпізадычным, са змяшэннем жанраў у драматургіі і ў паэзіі. Тут таксама нічога супернованага няма — узгадайма таго ж Борхеса...

І, канечне, будуць панаваць кароткасць, лаканічнасць. Ва ўмовах татальнай камп'ютэрызацыі, агромністага аб'ёму інфармацыі, з якім сутыкаецца за дзень патэнцыяльны чытач, кніга можа захавацца толькі так, бо як у XXI стагоддзі можна чытаць выключна ўрыўкамі. Тое, што ўразіць тваю фантазію, будзе табою праглынута. І асабліва, я мяркую, будуць папулярныя тыя рэчы, якія можна будзе чытаць як з канца, так і з пачатку, а таксама кнігі, па якіх можна будзе "скакаць" — кшталту "Гульні ў класікі" Картасара.

**— А што да аўтарытэта ў літаратуры... Як вам падаецца, ці можна чакаць з'яўлення ў літаратуры нейкіх новых імёнаў, якія прыцягнуць да сябе ўвагу менавіта інтэлектуальнай аўдыторыі, а не аўдыторыі спажыўцоў?**

—Я з вашага дазволу не буду называць аніводнага імя, таму што гэта задача няўдзячная, ды і я думаю, гэтага не адбудзецца.

У нас ёсць арганізацыя "Сланечнік", у якой мы працуем з маленькімі дзеткамі, якія пачынаюць пісаць нешта сваё, неасэнсаванае можа яшчэ. Я сваім маленькім "сланечнікам", якіх каля 250 тысяч, шчыра жадаю, каб яны сталі мадэльерамі, дызайнерамі ці хоць бы зубнымі ўрачамі — майстрамі сваёй справы — але ні ў якім разе не пісьменнікамі. Тое творчае натхненне, якое ёсць у іх, можа прыдацца і ў іншых справах: калі чалавек вырывае зуб натхнёна, то той і зажывае ў дзесяць разоў хутчэй.

Безумоўна, набліжаецца час усведамлення таго, што адбываецца зараз. Ужо цяпер вяртаюцца "старыя" — і да іх абуджаецца інтарэс. Яны ведаюць сакрэт вырошчвання, яны ведаюць сакрэт прышчэпкі — і вось калі яны здзейсняць гэта на вачах у моладзі, і моладзь гэта падхопіць... Тады працэс перадачы вопыту, які бясконца працягваецца ў гісторыі чалавецтва, адновіцца і ў Расіі, і ў Беларусі.

**— Якія магчымасці ёсць у маладых пісьменнікаў у Расіі, каб зарганізавацца, дэбютаваць, апублікаваць першы зборнік..?**

— Я толькі пра сваю арганізацыю скажу. У маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі існуюць два творчых конкурсы: "Сланечнік" і "Дзеці сонца" — для "большанькіх". Мы да сарака гадоў некаторых даводзім, і лічым, што гэта нармальна — пачынаць, ставіцца больш-менш вядомым у сорак, калі ты празаік (бо саракагадовы паэт — гэта, канечне, ужо безнадзейна). Мы іх проста *вылоўліваем*, даём шанц надрукавацца, усялякім чынам заахвочваем, выдаём кніжкі — невялікімі накладамі, 150 асобнікаў. Бо не самамэта выдаць кніжку — але потым правесці прэзентацыю ў канферэнц-зале, дзе будзе пяцьдзесят чалавек. У Малой зале, прэстыжнай зале маскоўскага Дома літаратара, якая шмат пабачыла славутасцяў. Малады пісьменнік возьме ўдзел у форуме маладых пісьменнікаў, пра яго напіша крытык — і ён ужо не адзінокі. Гэта — штуршок. Пасля такога штуршка, калі чалавек не разварушыцца — і гэтая каляска не паедзе далей сама, гэта безнадзейна. Калі пайшоў — ён заўтра нас забудзе, і мы перахрысцімся і скажам "дзякуй Богу" — маўляў, руская літаратура набыла такога генія, які нават не сказаў "дзякуй" сваім настаўнікам (*смяецца*). Такое таксама бывае. Тым не менш, таленты з'яўляюцца.

**— Расія вялікая — "от Москвы до самых до окраин". Напэўна, няшмат цяпер пісьменнікаў з далёкіх куткоў краіны прыязджае ў Маскву, бо квіткі дарагія. Але там, на месцах, яшчэ нейкая інфраструктура пісьменніцкая засталася?**

— Інфраструктура адна — там паўсюдна знаходзяцца аддзяленні Саюза пісьменнікаў Расіі. І там ёсць нейкае інфармацыйнае забеспячэнне, калі людзі варушацца. Саюзу пісьменнікаў Расіі ўдалося захаваць усе 89 рэгіянальных грамадскіх арганізацый. Практыка паказвае, што інфармацыйнае забеспячэнне Новасібірска і Томска вышэй, чым у некаторых пісьменніцкіх арганізацый Масквы, бо іх у нашай сталіцы празмерна напладзілася — лянотных, непаваротлівых, якія замкнуліся ў сабе. І на сход пісьменнікаў, як бы дарога гэта не каштавала, хоць аднаго чалавека ад рэгіянальнага "аддзялення" яны дэлегіруюць. Няма проста таго валу — калі маладога таленавітага пісьменніка з перыферыі раней запрашалі ў выдавецтва "Сучаснік", ён прыязджаў за свае грошы, — цяпер не можа сабе гэтага дазволіць.

**— Хто з'яўляецца "героем нашага часу" ў расійскай літаратуры?**

— Герой нашага часу і ў расійскай, і ў беларускай, я хацеў бы спадзявацца, у іншых літаратурах постсавецкай прасторы — гэта чалавек абавязкова дзейсны, гэта чалавек, які любіць Радзіму — не дэкларатыўна, без дурноты. Гэта чалавек, які натуральна дыхае, раскаваны, таленавіты, які мае натхненне — няхай нават не літаратурнае! Карацей, гэта — чалавек са сваёй уласнай песняй у душы.

**Гутарыў Мікалай АНІШЧАНКА**

***Фота Кастуся Дробава***

# СПРАЎДЖАНАЕ ПРАДБАЧАННЕ

***Скажу шчыра, кнігі, напісаныя Алесем Кажадубам на рускай мове, мне да гэтага чытаць не даводзілася. Ды хіба ўбачыш іх, выдадзеных у Маскве, на паліцах нашых кнігарань? Ведаю толькі, што да гэтай — "Палёт у мінулае" — у яго выходзілі зборнікі аповесцяў, апавяданняў і эсэ: "Магіла для дырэктара могілак", "Вайкі на Мугуне", "Тост за Расію".***




Той, хто чытаў яго захапляльныя эсэ "Рака вады жывой", што друкаваліся яшчэ калісьці ў часопісе "Маладосць" (а гэта мастацка-этнаграфічная гісторыя Беларусі), пагодзіцца з анатацыяй да "Палёта ў мінулае". А ў ёй чытаем: "Алесь Кажадуб — неардынарная з'ява ў сучаснай расійскай прозе. Ён нарадзіўся ў 1952 годзе ў беларускім Палессі, дзе чалавек па-язычніцку роднасна адчувае сваю сувязь з прыродай. Гэта адлюстравалася ў своеасаблівасці стылю і незвычайнай вобразнасці апавяданняў і аповесцяў. У яго прозе лесуны, русалкі, пярэваратні жывуць дзесьці па суседстве з намі, гісторыя загадкавым чынам уплывае на лёсы сучасных людзей, цяперашняе маскоўскае жыццё — жорсткае, здатнае на нечаканасці — падаецца ў сплядзенні трагічнага і камічнага.

Захапляльны сюжэт, характары, якія запамінаюцца, асаблівы гумар выдзяляюць Алеся Кажадуба ў сучаснай літаратурнай плыні".

Можна толькі дадаць, што выдатна валодаючы мастацкімі магчымасцямі рускага слова, Алесь Канстанцінавіч усёй шматасацыятыўнасцю сваіх твораў застаецца беларускім пісьменнікам. І справа не толькі ў тым, што радзіма тэматычна прысутнічае амаль у кожным з іх, надаючы асаблівы каларыт і характарам, і самой займальнасці. Алеся Кажадуба чытаць і цікава, і пазнавальна. Толькі з аднаго апавядання "Сюр" можна даведацца пра Віцебск больш, чым ці не з усіх даведнікаў пра гэты горад. А падзеі, заўважце, адбываюцца ў нашы дні на "Славянскім базары". Аказваецца, яшчэ ў XVI стагоддзі ў Віцебск прызначылі уніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча, які забараніў праваслаўную веру. Вось яго і забілі, за што горад быў пазбаўлены Магдэбургскага права.

Нагадвае пісьменнік і тое, што "У жыцці Арсеннева" Бунін назваў Віцебск нярускім горадам па архітэктуры. І адразу ж абвяргае класіка, пераканаўча даводзячы, што гэта такі ж заходне-еўрапейскі горад, як Ноўгарад, Пскоў, Полацк, Вільня. Не менш цікавыя развагі аб віцебскім перыядзе жыцця Шагала — дарэчы, аднаго з заснавальнікаў сюррэалізму. У гэтым жа апавяданні прыгадваецца пра тысячагадовую Дабравешчанскую царкву, складзеную яшчэ з вапняковых пліт у грэчаскай традыцыі. Між іншым, вакно гэтай царквы зарыентавана на першы промень сонца. Такога нідзе больш няма. Тройчы спрабавалі ўзарваць царкву, але не здолелі.

Калі вам і гэтага недастаткова, то, чытаючы апавяданне, даведаецеся, што віцэ-губернатарам горада быў у свой час вядомы рускі пісьменнік Іван Лажэчнікаў, а Дзяржавін інспекціраваў тут Паўночна-Заходні край. Ды і Шагал з Малевічам "рухалі" тут рэвалюцыйнае мастацтва ў масы. Ёсць у Віцебску і лобнае месца ў Заручаўскай слабадзе, дзе пасадзілі на кол казацкага атамана Дубіну за тое, што захапіў і абрабаваў горад...

Усе гэтыя і іншыя (пагадзіцеся, цікавыя) звесткі надзвычай натуральна знаходзяцца ў мастацкім асяроддзі твора. Іх нібыта не заўважаеш, сочачы за таксама натуральнай захапляльнасцю сюжэта. А апавядальнік Алесь Кажадуб — іскрамётны, імправізацыйны. Вось і ў апавяданні "Дзіяна" першая ж фраза інтрыгуе: "Аб тым, як жывуць людзі ў Германіі, я даведаўся ў Балгарыі...". Тое, што адбываецца з гераіняй, — зусім не самае галоўнае ў ім. Яно — усё ў той жа спазнавальнасці, шчодра рассыпанай па ўсім аповедзе.

"Я адышоў убок і пахадзіў па руінах, якім каля дзвюх з паловай тысяч гадоў. Гісторыя Сазопаля і Несебра аднолькавая. Грэкі, балгары, якія прыйшлі з Волгі, туркі, якія адразу ж рабілі гаспадароў рабамі. Хрысціянскія цэрквы, што ўзводзіліся тады, не маглі быць вышэй за турка, сядзячага на кані. Але ў гэтым і прывабнасць балгарскіх храмаў. Дойліды ўмудрыліся зрабіць іх велічнымі нават пры двухметровай вышыні. Унутры храмаў жывымі вачыма глядзелі на нас святыя Канстанцін і Алена, Мікола, Стэфан, Іаан...", — чытаем у апавяданні тое, што быццам бы амаль ніякага дачынення да галоўнага сюжэта не мае. Як і развагі герояў аповеда аб расійскіх нафтавых мільярдэрах, аб лёсе нядаўна калгасных зямель у Расіі і Балгарыі... І яшчэ — аб танцах на распаленым вуголлі. А ў рэшце рэшт, гэта толькі фон, своеасаблівая аздоба захапляльнай гісторыі аб заляцанні двух шукальнікаў курортных прыгод да балгарскай прыгажуні Дзіяны.

Ёсць нейкая таямнічасць пісьменніцкага майстэрства ў тым, як, не пазбягаючы, здавалася б, залішняга, Алесь Кажадуб дасягае ў сюжэтах незвычайнай напружанасці і захапляльнай цікавасці. Яскравы прыклад — апавяданне "Палёт у мінулае", якое дало назву ўсёй кнізе. Між іншым, маркуйце самі. Студэнты мінскага універсітэта (адзін з іх з Польшчы) залішне захапляюцца гульнёй у карты, але неяк паспяваюць адзін за адным жаніцца на дочках дырэктараў гастраномаў. А той, ад імя якога вядзецца аповед, едзе ў Сухумі з прыгажуняй-аднакурсніцай. Усё было б добра і прыгожа, але раптам з Тбілісі вяртаецца гаспадар кватэры, у якой яны жывуць. Пяцілітровая бутля чачы, феерверк тостаў і... пагроза спазніцца на самалёт да Мінска. Паспешлівыя зборы, і вось машына, за рулём якой усё той жа гаспадар кватэры, імчыць у аэрапорт. Але пачытаем разам: "Мы з грукатам спусціліся па лесвіцы, селі ў машыну і выкацілі на шашу. Ішоў моцны дождж, але ён нам не перашкаджаў. Чабукі зацягнуў грузінскую песню, у мяне ад грузінскіх спеваў і ў цвярозага наварочваліся слёзы. Я азірнуўся, каб выказаць Людміле сваё захапленне песняй — і зноў пахаладзеў. На заднім сядзенні нікога не было.

— Чабукі! — закрычаў я. — Я забыў дома сваю дзяўчыну!

— Дзяўчыну? — перастаў спяваць Чабукі. — Хіба ў цябе была дзяўчына?"...

А далей? Далей трэба чытаць самім, бо ніякі пераказ не можа параўнацца з тым, як апавядае пра гэта пісьменнік.

Кніга Алеся Кажадуба "населена" людзьмі самых розных прафесій, узростаў, прыхільнасцяў. Ён — майстар не толькі зрокава партрэтных, але і моўных адметнасцяў сваіх герояў. Апавяданне "Тост за Расію" выпадкова прыводзіць аднаго з іх (падпалкоўніка ў адстаўцы) на сходку братаноў. Ведаючы, што нядаўні вайсковец яшчэ і паэт, яму даручаюць сказаць тост за Расію. Атрымліваецца гэта ў яго цудоўна, праўда, з дапамогай вершаў іншага паэта: "Россия, Русь, храни себя, храни! Смотри, опять в леса твои и долы со всех сторон нагрянули они, иных времен татары и монголы..." І вось натхнёная тостам братва едзе да святара, каб аддаць яму грошы на ўзнаўленне царквы.

І ўсё ж найбольш яскрава таленавітае майстэрства пісьменніка праяўляецца ў аповесцях "Русалка» і "Фарэль выскоквае з вады". Першая з іх цалкам пабудавана на беларускай этнаграфіі. Сюжэт, як заўжды ў Алеся Кажадуба, бярэ чытача ва ўдзячны палон ледзь ці не з першага сказу: "Вася раптам звярнуў з дарогі і заглушыў рухавік. "Што здарылася?" — запытаўся я. "На паўгадзіны раней прыехалі",— сказаў ён. "Але мы нікуды не прыехалі,— уставіўся я ў вакно. — Пасярод лесу стаім". "Тут праходзіць мяжа Столінскага раёна, — уладкаваўся больш зручна на сядзенні Вася. — Бачыш дуб? Вось па ім мяжа і праходзіць. Заўжды тут сустракаемся".

А прыехалі героі аповесці на радзіму свайго сябра — вядомага фалькларыста, у вёску Церабеі, які паабяцаў, што толькі тут, на берагах Гарыні, можна пабачыць, як гараць купальскія вогнішчы, ганяюцца за хлопцамі ў кустах русалкі і цвіце папараць-кветка.

А між тым, пісьменнік апавядае пра зусім звычайныя вясковыя рэаліі з такім мастацкім увасабленнем, што нават і не заўважаеш, як яны паступова знікаюць у фальклорных матывах. "Мы рухаліся па пыльнай вуліцы, і ад хаты да хаты нас праводзілі пільныя позіркі вясковых бабулек, такія ж доўгія, як гэтая вуліца...". Вось толькі адзін з мноства прыкладаў мастацкага таленту пісьменніка, які спрыяе рэальнаму ўспрыманню нерэальнага.

Герой аповесці стаіць пасярод начнога лесу і чуе не толькі стук уласнага сэрца, але і крык начной птушкі ўдалечыні, і шуршэнне вожыка ў мінулагоднім лістоце. Але чуе ён і дыханне істоты, якая хаваецца ад яго за кустом ляшчыны. Па паху здагадваецца, што гэта жанчына. "Эй!" — нягучна паклікаў я. З кусту пачуўся ціхі смех. "Ну, і ці доўга мы будзем хавацца?" — запытаўся я. "Зараз",— адказала яна.

Вось так адбываецца знаёмства з... русалкай. "Яна была сярэдняга росту, распушчаныя валасы, схопленыя сырамятным раменьчыкам, хваляй спадалі да паясніцы. На бёдрах спадніца з лісцяў аеру. Маленькія грудзі аголеныя. Ногі босыя. Колер яе вачэй у месяцавым святле вызначыць было нельга...", — партрэтуе пісьменнік.

І раптам новы экскурс у мінулае. Высвятляецца, што русалка прымае героя за свайго, бо дзед яго быў знахарам. І знакамітым. Цяпер яго здольнасці павінны перайсці да ўнука.

Русалка паспрыяла яму пабываць і ў далёкай мінуўшчыне, каб даведацца пра гісторыю сямейнага скарба... Казачная рэальнасць!

А вось у другой аповесці "Фарэль выскоквае з вады" — нічога казачнага. Жорсткія рэаліі нашага часу. З імі не можа змірыцца мастак, які спрабуе адстаяць правы на сваю дачную пабудову. Але гэта толькі набліжае яго смерць. І тады сын збіраецца адпомсціць таму, каго лічыць вінаватым. Дэтэктыўная гісторыя? Так, усе яе прыкметы. Але мастацкая заглыбленасць у сённяшнюю рэчаіснасць выводзіць аповесць далёка за межы гэтага жанру.

Алесь Кажадуб умее паэтычна канкрэтызаваць. Прачытайце яго "Камендатна" і пазнаёміцеся з героем Вялікай Айчыннай вайны — настолькі каларытным, што здаецца, нічога падобнага пра вайну яшчэ не было ў нашай літаратуры. А ў "Паланэзе Агінскага", спадзяюся, і вас узрушаць такія настальгічныя радкі: "Гэта музыка была для мяне развітаннем з замкамі, пушчамі і гарадамі мінулай Беларусі, той, якую мы ўжо ніколі не ўбачым. І з людзьмі, якія ўзводзілі гэтыя замкі, даглядалі гэтыя пушчы, жылі ў гарадах — Гародні, Навагрудку, Ваўкавыску, Лідзе, Нясвіжы, Міры... Адыходзіў у вечнасць вялізны мацярык культуры, падобнай на якую ўжо не будзе. Не будзе такіх замкаў, як у Навагрудку, Нясвіжы, Міры, не будзе пушчаў, роўных Белавежскай, Налібоцкай, не будзе палацаў Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў... Адыходзілі людзі, якія ведалі тое, чаго мы ўжо аніколі не будзем ведаць. Пад чароўныя гукі скрыпкі апускалася на дно Атлантыда, аб якой мы будзем успамінаць, як аб прыгожым сне...".

У гэтым жа апавяданні раптам сустракаюцца прозвішчы беларускіх пісьменнікаў Міколы Лобана і Макара Паслядовіча. Алесь Кажадуб прыгадвае, што сустрэча з імі адбылася якраз тады, калі ён уступіў у Саюз пісьменнікаў і упершыню атрымаў пуцёўку ў кактэбельскі Дом творчасці. "Мікола Паўлавіч, нешматслоўны, грунтоўны, суровы, як пракурор, паглядзеў на Макара Нічыпаравіча, таксама не інтэлігента ў смокінгу, і сказаў: "Добры будзе пісьменнік". Макар Нічыпаравіч згодна кіўнуў галавой", — піша аўтар. А вось і яго асабістае прызнанне: "На мяне, які тады больш цікавіўся козачкамі, што загаралі на пляжы, чым сваімі апавяданнямі, гэтыя словы зрабілі незабыўнае ўражанне. І ў апошнія гады я ўсё рабіў для таго, каб дзядам, што неўзабаве адзін за адным адышлі ў горнія высі, не было за мяне сорамна".

Нам застаецца толькі дадаць, што Алесь Кажадуб выдатна ведае тое, пра што піша, — заўжды пераканана і таму пераконвае... Прадбачанне Міколы Лобана і Макара Паслядовіча спраўдзілася. Маркуючы па кнізе "Палёт у мінулае", ён сапраўды стаў выдатным пісьменнікам.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

Чытаючы крытыку на паэзію, у якой Музу адкрытым тэкстам падзяляюць на мужчынскую і жаночую, заўжды юдзіць да эмацыйнага пратэсту. Бо, скажам, хіба можна адмежаваць у мастацкім плане паэзію Ганны Ахматавай, Марыны Цвятаевай, Ліны Кастэнкі... Наталлі Кучмель ад паэзіі Інакенція Анненскага, Аляксандра Блока, Барыса Пастэрнака... Леаніда Дранько-Майсюка?.. Сілавым мэтаскіраваным метадам, вядома, яно можна: вось, да прыкладу, у Кучмель — *"хмель"*, а ў Дранько — *"малако"* (прашу прабачэння за беспардоннасць, але ж вельмі ўжо зажадалася сказаць у рыфму). Хоць, безумоўна, фізічны, анатамічны, псіхалагічны і яшчэ які хочаце склад слабай і моцнай паловы чалавецтва вымагае пэўнай карэкціроўкі пры раскладзе сіл. Але ці творчых? І ці толькі ўнутры творчасці знаходзіцца тая, вокам нябачная і рукой няўмацная, адрознасць? І ці не губляюць сваю "юрысдыкцыю", ужо ўнутры творчых актуалій, паняцці "слабага" і "моцнага"?

*Быт* ці *нябыт*? — "вось у чым пытанне."

Да чаго я ўсё гэта падводжу і да каго схіляю? Да жанчын, вядома. Бо выдалася мне зусім нядаўна прачытаць некалькі вершаваных зборнікаў, якраз імі напісаных.

# «НАПІЦЦА ВЕТРУ...»










Пачну з аглядкай на "Обратное зренье" **Любові Турбіной**. Па-першае, паэтка яшчэ нядаўна жыла ў Мінску, друкавалася тут і, па сутнасці, менавіта ў Беларусі зазначыла на сучасным літаратурным небасхіле сваё адметнае паэтычнае імя. Нарадзіўшыся ў Туркменіі, яна як бы абышла па перыметры тэрытарыяльна замкнутае кола савецкага жыцця (*Ташкент, Ленінград, Рыга, Мінск, Масква*), нарэшце выйшаўшы і за яго "бяскрайнія" межы (я тут маю на ўвазе, што гэтая яе кніжка выдадзена ў *Балгарыі* з паралельнымі перакладамі У. Стаянава на братнюю славянскую мову). Як піша ў прадмове балгарскі паэт і перакладчык, гэты зборнік Л. Турбіной — "*апалогія інтэлектуальнай цэласнасці і незаплямленасці, права і абавязку жыць дзеля другіх, развіваючы і ўзбагачаючы сваё гравітацыйнае поле*".

Адсюль, пэўна, у яе і гэтае вось часава-прасторавае выяўленне пражытага і перажытага. Я магу памыляцца, але (ці не праўда?) нейкім невыказна-блокаўскім (светла-царкоўным сумам) вее і ад гэтых адухоўлена пранікнёных радкоў паэткі:

*Утекающее время я кляну*
*и плачу слезно,*
*Всё от холода застыло,*
*сердце в горести — беда...*
*Тяжко бремя ожиданья,*
*тьма густа, но небо звездно,*
*Что случается однажды —*
*происходит навсегда.*

І нездарма піша ў сваёй прадмове У. Стаянаў, маючы, безумоўна, на ўвазе і Любоў Турбіну, што "*...паэт ніколі не можа быць безгалосым гледачом. Глыбока ў сабе ён нясе любоў, з'яўляючыся яе прыхільнікам і жрацом*".

У дачыненні да нашай паэткі з гэтай зямной *любоўю* і ўвогуле атрымліваецца закальцаванасць (нераўнуючы як з тым пярсцёнкам Маякоўскага, падораным Лілі Юр'еўне Брык — Л. Ю. Б.), бо ж і на вокладцы кожнай кніжкі Турбіной, апроч назвы, штораз пазначаецца яшчэ і слова ЛЮБОЎ... Безумоўна, не толькі выяўленне гэтага светлага чалавечага пачуцця шматкроць дапамагала ёй прышчэпвацца да "чужароднага" дрэва той ці іншай нацыянальнай літаратуры. Талент найперш. І таму яе плач па вялікай Айчыне — гэта не плач па таталітарным СССР, гэта жальба "па птушыных гнёздах душы" (пакінутых альбо разбураных "пад вольным для палётаў небам"), што ладзіліся ўсім родам для змушанага ці наканаванага спачыну...

*Вдруг ощутили клеймо*
*сиротства,*
*Птицы взметнулись —*
*вслед за отцами...*
*Мы проиграли*
*свое первородство —*
*И Родина расстается с нами.*

Але ў тым няма беспрасветнага адчаю. Хутчэй — аддалены, як рэха ў пракаветнай нерушы, спадзеў... Вера ў немагчымае. Роўнае чыстае стылёвае дыханне, як на сёлетнім студзеньскім марозе, чорна-белая (юрылевітанская) метафара, несіратлівая рухомая асацыяцыя, таямнічаздзіўлены жывы вобраз — вось асновы паэтычнага майстэрства Л. Турбіной, нажытыя талентам, дадзеным ёй ад нараджэння.

*С закатом истекает срок,*
*И слабо теплится надежда:*
*Меня узнает встречный прежде*
*У дома, где родился Блок.*

І тут галоўнае не азірнуцца ўслед усяму наноснаму і неўразумеламу табе са злобаю і праклёнам, каб раптам не застыгнуць і самой *Любові* саляным слупам перад карай грахоўнага, як тое здарылася з жонкаю Лота. Бо ўсё ж Той, адзіны —

*Он не изменит, всё будет иначе!*
*Нету отвергнутых*
*или отвергших —*
*Наша надежда жива,*
*если плачем,*
*Как же всех жаль, и живых*
*и умерших...*

Прабачаюся, але наастатку змушана скажу прозай: добра, што сувязь паэткі (цяпер масквічкі) з нашай Айчынай не перарываецца, хоць аднойчы ўсякая чалавечая пупавіна перараэаецца, раз і назаўсёды... Цялесная. Але не духоўная, якая звязвае зямное з паднебным.

А вось з вядомай паэтэсай **Галінай Каржанеўскай** мы аднагодкі і назапашвалі паэтычную энергетыку на адной (Слуцкай) зямлі — я, у прамым сэнсе, працуючы ў мясцовых раённых электрасетках, а яна — ад сваёй бацькаўшчыны, названай Лясішчамі...

Калі яшчэ за савецкім часам была завядзёнка выстройваць усю літаратурную *брацію* баявымі (ці баявітымі) абоймамі, Галіна Анатольеўна заўсёды, наколькі я памятаю, патрапляла ў другі яе, пачэсны, шэраг (пасля Д. Бічэль, Я. Янішчыц, Н. Мацяш). І калі прыняць такое вызначэнне крытыкі за абсалют, то і з такім яе *імянным раскідам*, бадай, таксама пагадзіцца можна. Аднак хаатычнасць перабудовы, службовыя перыпетыі і сямейныя мітрэнгі падчас перакручваюць чалавечую натуру так, што іншым разам не даеш рады пазнаць знаёмага табе чалавека, сустрэўшыся з ім недзе некалі... Пэўны час я таксама не пазнаваў Галіну Каржанеўскую. Прынамсі, *бачыў* яе не дарэшты... Баявітасць, энергічнасць, эмацыянальнасць, неардынарнасць мыслення — усё як бы ў ёй прытухла, прыгасла, прытомлена затаілася недзе глыбока ўнутры. Таму, нечакана для сябе, згледзеўшы на сваім службовым стале яе новы арыгінальны зборнік, быў па-добраму здзіўлены і нават узрушаны, калі казаць шчыра, бо падумалася пра *адраджэнне* Богам дадзенага ёй таленту (хоць сам па сабе канчаткова згінуць ён натуральна ж не мог). Праўда, пакінуты на кніжцы аўтограф трохі нэндзіў і расхаладжваў, можа, таму, што выклікаў настальгію па нядаўнім мінулым: "*Каб не была дарэмнай праца, // Хацелася б ЛеГАЛізавацца*". Аднак чытанне пакідала надзею і на больш сур'ёзную крытычную рубрыку. Бо насамрэч, хоць паэтэса і

*Думала, што выбрала*
*ўсе запасы,*
*Што з паэтаў выбыла*
*я дачасна —*

ды, між іншым, давала падставы верыць і ў тое, што

*Цуды шчэ здараюцца,*
*Шлюзы адчыняюцца,*
*І крылаты з неба госць*
*Падзівіўся: голас ёсць!*

І насамрэч, калі чытаеш між **вершанят** (як іранічна абазвала яна свае зарыфмаваныя тэксты) такія вось глыбокія паэтычныя радкі, то хочацца як бы й прысароміць сур'ёзную паэтэсу за такое блазнаванне на публіку. Хіба ж не паэзія дыхае, скажам, у гэтых самотна-сцішаных радках?

*Сказаў матылёк гожы,*
*Што сеў адпачыць на крыжы:*
*Свет не такі і варожы,*
*Свет не такі і чужы...*

Альбо такія, дзе на жыццёвай паверхні халоднага айсберга паказана толькі яго ледзяная *відная* частка:

*Пракачаўшыся ноч без сну,*
*Зразумееш, у чым вінавата.*
*Напісала б я верш пра віну,*
*Ды віна і натхненню не рада.*

Пертурбацыі духоўнага жыцця паэтэсы выяўляюцца там, дзе цень спрабуе заступіць дарогу сонечнаму святлу, і там, дзе сам сонечны прамень трымаецца на высокім, але ломкім, паднебным жаўруковым голасе...

*Я ўсю зіму хадзіла па алеі,*
*Дзе цудам захавалася*
*гняздзечка.*
*Развеснілася — вочы падняла:*
*Вісіць на ліпе, мокрае, пустое...*

Штрыхі літаратурных вымаганняў Г. Каржанеўскай хоць і не грубыя, але і не прыхаваныя, і калі надараюцца, то яны выяўныя і адчувальныя. Бо ў невымоўных момантах — там, дзе, скажам, напрошваецца падтэкставая паўза, яна часам *прагаворвае* сваё будзённае, рамесніцкае:

*Я закрыла сваё сэрца на замок,*
*Каб ніхто таптацца*
*ў ім не змог.*

І праз колькі старонак кажа адваротнае, якое таксама не запатрабавала ад яе ні глыбокага душэўнага, ні разумовага адкрыцця.

*Не закрывай ты сэрца на замок,*
*Не стой на месцы,*
*быццам прыкаваны.*
*Бывае так: адзін маленькі*
*крок —*
*І ты ад небяспекі ўратаваны...*

Хочацца думаць, што падобнае выявілася праз страту <u>патрабавальнасці</u> — і аўтара і рэдактара. Я і не запыняўся б на такіх прыкрых момантах, каб побач не здараліся па-сапраўднаму вартыя вершаваныя знаходкі.

*Кожнага можа накрыць*
*Крыўда ці скруха.*
*Так — гэта рызыка — жыць,*
*З сіл выбівацца і плыць,*
*Рваць павуцінне, як муха.*

У адным з чатырохрадкоўяў (а зборнік у асноўным і складаецца з такой формы вершаў) Г. Каржанеўская як бы няўзнак зазначае, што "*нясе сябе людзям моўчкі — // Каб не траціцца без пары*". І, ведаеце, апошнія словы мяне насцярожылі. Паэтэса сапраўды доўгі час публічна не выступала са сваімі творамі. Але "*каб не траціцца*" (душой, духам) — гэта, на мой погляд, грэшнае вырашэнне паўсядзённых праблем творчай асобай. Паэзія патрабуе абсалютнай самааддачы ("полной гибели всерьез", як пісаў Б. Пастэрнак). Спадзяюся, *пара* бясчасся мінае, у тым ліку і для творчасці Г. Каржанеўскай, і неўзабаве яна вынесе на высокі чытацкі суд не *вершаняты* (як бы заклікаючы чытача да паблажлівага стаўлення да сваіх вершаў), а кніжку выпакутаванай лёсавызначальнай паэзіі. Гэтак, прынамсі, мне думаецца і жадаецца. Верыцца, што і самой паэтэсе вось-вось

*Шапне анёл зажураны: "Пара.*
*Не бойся, бо наперадзе —*
*свабода".*
*Я нават не заўважу пераходу,*
*І толькі з сэрца зваліцца гара.*

У кароткай прадмове да зборніка вершаў **Іны Снарскай** народны паэт Рыгор Барадулін піша: "*Паэткі. Яны — маладыя сваячкі ведзьмаў. Позіркам вецер запыняць, словам дождж наклічуць.*" Відаць, гэта зыходнае ад шырокавядомага някрасаўскага "*каня на скаку остановит, в горящую избу войдет*"... Маючы на ўвазе, што І. Снарская родам са слаўнага старажытнага *града* Полацка, бадай, абодва мэтры тут маюць рацыю. Больш за тое, мне самому давялося быць коратка знаёмым з паэткай, таму маю права сцвярджаць, што гэта вельмі прыгожая і абаяльная беларуска са славянскімі рысамі твару і душы...

*Мой шалёны каханы — вецер:*
*Лашчыць плечы, кудлаціць косы,*
*Закалыхвае вочы кветкамі,*
*Зацалоўвае ногі босыя.*
*Мой адчайны каханы — вецер,*
*Ты адкуль прылятаў на звабу?*
*Урывайся ў самотны вечар*
*І сукенку дарый з ядвабу.*

Падобныя паэтычныя радкі вельмі пасуюць ёй. Адмысловае ўнутранае вычуванне мацярынскай мовы (яе дзявоцкай цнатлівасці), няхай і не так часта, як хацелася б, але дорыць нам высокія і ўзнёслыя моманты любоўнай чалавечай жарсці ў яе шчырым вобразным выяўленні (асабліва гэты *ядваб* пры *сукенцы*, што стварае ілюзію эратычнага дзейства)...

Не менш хвалюючыя строфы і ў наступным вершы. Яны могуць закружыць (і ўскружыць) галаву якому хоч задубеламу чытачу і занураму інтэлектуалу. Нават граматычна няправільнае *променем*, асляпіўшы вочы блізарукаму карэктару, ураз хаваецца *прымарай* недзе пад *сваёй* Палтавай. Тонкая натура Іна Снарская, і сёння яна была б **тут** — у нашай апатычнай і душэўнай агрубеласці — якраз да месца.

*Люляйце мяне на руках,*
*Я сёння каханка Ваша.*
*Наш дом на сямі вятрах —*
*Прытулак сірот адважных.*
*Прытулак сівых нябог*
*І валацуг стамлёных.*
*І ведае толькі Бог*
*Пра гэты палон зялёны.*
*Люляйце мяне да зары,*
*А з першым променем сонца,*
*Я ўжо не змагу гаварыць*
*І знікну прымарай у соснах.*

О, як умее яна быць там, дзе быць не можа! І чаму яна не там, дзе быць трэба? Гэтак я смуткую па яе адсутнасці на Айчыне, тады, калі Айчына мае патрэбу ў такіх заступніцах. Надта ж шмат стала ў ёй вераадступнікаў... Украіна — сястра Беларусі, і хоць *балота* размяжоўвае нас, але ж Палессе яднае і лучыць нашы народы. Аднак Палтава не Полацак, як бы блізкай не была алітэрацыя іх прамаўлення. Але, можа, менавіта *там* жывучы, чалавек і здольны напісаць *сваё* — тутэйшае, спаконвечнае:

*Калі буду смагаю —*
*Белым полем лягу я.*
*Калі буду ночкаю —*
*Стану свечкай моўчкі я.*
*Пасцялю настольнікі*
*На руіны-споміны.*
*Дзе жыццё сірочае*
*І радкі прарочыя.*

І ўсё ж — хоч-не хоч — а трэба адзначыць, што ў зборніку даволі многа *сырога слоўнага матэрыялу*, які ў вершаваных радках не гарыць, а тлее, засцячы ясную паэтычную яву (адчуваецца недапрацоўка рэдактара і карэктара, а мо проста іх — украінцаў — недасканалае веданне беларускай мовы). Але ж аўтарка магла даслаць карэктуру для прачытання каму-небудзь са сваіх беларускіх сяброў і калег. Вось наўгад выпісаныя ў працэсе чытання словы-паразіты (русізмы, украінізмы, паланізмы і г.д.): *прыют (ст. 7), станіць (замест стане, зробіцца — ст. 32), івалгу (ст. 34), пайдзе (ст. 67), зямле (ст.71), Я. Купале (ст.73), дужа (ст. 74), спробуйце (ст. 75), смалою на карэ (ст. 86), верніцца (ст. 109), сільны (ст. 111), сніть, ллецца (ст. 113), нагбам (ст. 117), агней, жалю (ст. 121), снягу, берагу (замест снегу, на беразе — ст. 122), сцеліцца (ст. 143), ўтапыўся (ст. 146), камней (164), рабычычам (замест рабынічам), камней (ст. 172)*... Ёсць, на жаль, і цалкам няўдалыя вершы. Такія, як "*Вучуся слухаць ціішыню...*", "*Мы выйшлі з дажджу, як з вайны...*" ды іншыя. Адчуваецца, што паэтцы бракуе ўнутранага рэдактара і самакрытычнасці. Думаецца, што і паўсядзённае іншамоўнае атачэнне (няхай сабе роднаснае і блізкае па духу, але якраз тым і больш небяспечнае, чым аддаленае) не ўзбагачае, а спакваля збядняе *залаты слоўны запас* яе роднай мовы. Прыклад У. Караткевіча ў нашым выпадку, можа, і завысокі, але відавочны і асаблівых каментарыяў не патрабуе. Безумоўна, не паэт выбірае радзіму, а Радзіма паэта. І разуменне гэтага спрашчае мне задачу завяршэння дадзенага тэксту. Тым больш, што Радзіма называе паэтаў *сваімі* часцей за ўсё толькі тады, калі яны ад яе Богам забіраюцца. Не хацелася б, каб пры гэтых словах нехта падумаў пра нейкія цёмныя прадрачэнні. Крый Божа. Проста падумалася такім чынам супакоіць некаторых з абгавораных тут паэтак, якія могуць з пэўных прычын праз *тое* пакутаваць. Паэзія, шаноўныя жанчыны, — гэта, па вялікім рахунку, дух. А *дух*, як сказана, *лунае паўсюль*. Таму, не так ужо, мабыць, важна дзе і калі *тое здарыцца*, як піша І. Снарская, але аднойчы:

*Зменіцца час,*
*І пра нас*
*Напіша нехта радкі,*
*Напіўшыся ветру з рукі.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



Аксана СПРЫНЧАН

# ЗА НЕБА

*Паэма-імкненне**

і літар...
без пытальнікаў
пытанні
кінуў межамі,
каб ты свае пытанні
падаючы ў бездань,
вядзьмарыць,
з чарадою сноў і крыку
а свята –
без гармоніі і смеху,
А свята —
ўзнікаю я...
сёмым святам свету
І раптам
і гарката быцця...
нябыту сум
Слова і гарэлка,
Сябры і горы,
зямлі і неба, веры і віны.
на свет глядзіш з глыбокага прадоння
ад мудрасці, ад пошуку яе,
Ты мне вястуеш мудрасць і знямогу
**Лесвіца першая**

«АД СУТНАСЦІ»...
танцуем быццё тайніцу
кахання,
Абвітыя плюшчом
Заплюшчваем вочы.
Не хапае чужой адсутнасці...
цалуемся.
Як толькі знойдзем –
Шукаем сузор'і.
Выходзім.
Не хапае зорак...
Танцуем і цалуемся.
**Лесвіца другая**

з нашым жаданнем...
У цішыні знічка знікае
ў Птушыным Шляху.
Наш крык знікае
ў крыку нашым.
Крык птушкі знікае
**Лесвіца трэцяя**

цішыня ў чаканні пераменаў...
мы з табой, як наша краіна:
скінута бясконцае адзенне,
А калі пакінуты Парыж,
чорны пан, чырвоная паненка...
Мы з табой у колерах Стэндаля:
**Лесвіца чацвёртая**

чаромхавыя...
і халады пасля
белыя сны
Пасля вяртання –
сумоўе цел...
не ўспамінаем
сумоўе душаў,
і забываем
І паасобку адтуль ляцім,
у неба бясхмарнае...
а мы сыходзім
ў сырую зямлю,
Сыходзяць кроплі
пасля кахання.
Водар чаромхі
пасля дажджу.
Водар чаромхі
**Лесвіца пятая**

пасля кахання.
Вочы такія ў цябе
і вецер без хваляў...
і доўгае куванне зязюлі,
і мёртвыя голкі і галінкі,
нябёсы і дрэвы
У калюгах на дарозе лясной
**Лесвіца шостая**

за неба змаглі даляцець...
каб пырскі ад болю
абрынуцца ў неба,
Нямым вадаспадам
крык параненай мовы.
шукаць і адчуць у сабе
крык і енк ненароджаных думак,
Шукаць у табе
**Лесвіца сёмая**

ніколі не будзе...
што ягадаў чорных
мне даравацъ,
І папрасіла Неба
ты – невымольнае...»
«Ты – невымоўнае,
і напісала на чорнай зямлі:
з белымі кветкамі
зламала галінку
у сумоўі маўчання і думак
У вар'яцкім квітненні чаромхі,
**Лесвіца восьмая**

пайсці ўверх...
за тры прыступкі да зямлі
затрымцець,
ў тваіх словах,
затрымацца
зачапіцца за воблака,
глядзець,
ісці,
ўніз
Па белай лесвіцы
**Лесвіца дзевятая**

працяг з пытанняў вечных...
І вусцішна, калі за небам
што з сабою пытанні неслі...
у тыя вочы,
што глядзелі за свет нябёсаў,
у тыя вочы,
а я хачу зірнуць у вочы,
Ты хочаш зазірнуць за неба,
**Лесвіца дзесятая**

сарваўшы кветку.
крыкнуць,
і ўпершыню пад небам
і знічкай на зямлю ляцець
і вырывацца за яе,
Рваць думкі вышынёй
і за неба – піць...
Піць неба
**Лесвіца адзінаццатая**

за сябе.
імкненне яго
адлюструе не неба,
І Сена тады
сухімі вачыма...
І ў неба глядзець
ў пяшчоту духмяную.
і зарывацца
сухую праўду
З іх буду выцягваць
застануся зімою.
калі без цябе
на выпадак,
ў стагі
ад болю і асалоды
складаю стогны
заблытаная пяшчотай,
Заблытаная словамі праўды тваёй,
**Лесвіца дванаццатая**

* Усе часткі паэмы чытаюцца з апошняга радка да першага.



Павел МІСЬКО

# ПЕРПЕТУУМ МОБІЛЕ

"Арс лонга, віта брэвіс эст" —
Пайшло гуляць па свеце —
ост і вест,
Не абмінала зюйд ці, скажам, норд:
Бясконца доўжыцца, паўторамі,
акорд.

Любілі ў старажытнасці мудроты
І паўтараць, і шліфаваць,
абточваць.
Як часам што
"не лезла і ў вароты",
Ссыпалі тое ў цэбры або ў ночвы.

Запас рабілі на наступныя вякі?
Хоць мо наступнікі сустрэнуць
у пляўкі
І белае старанна перачэрняць,
Мяшаючы з пяском палову
й зерне.

Нікчэмнае паставяць на катурны,
Або ўзбамбэрацъ аж на п'едэстал.
Навінцы той іграюць
марш хаўтурны,
А хто спазніўся, той пытае:
"Дзе дастаў?"

## КРЭСКІ

* * *

Не жыві абы-як. Скора старасць.
Вып'е кожны апошнюю чару.
Беражы кожны міг, каб паспець
Абыграць, адагнаць, ашукаць
сваю смерць.

* * *

Шчаслівым быць не забароніш...
Старайся! Шчасце мо ўгамоніш.
Як стане пекна ўсё і гладка,
Не забывай пра бліжніх, братка.

* * *

Жывіце вы вечна, бярозы і сосны.
Без вас мне на свеце
зусім невыносна.
Шуміце, ўзрастайце, дубы і таполі,
Хачу, каб было вас на свеце паболей.

* * *

Не шукайма прыгод на сваю галаву.
Мур ілбом не праб'еш і з разгону.
А ў краіне, дзе сёння сяк-так,
а жыву,
Я хацеў бы застацца да скону.



Алесь МАКРАЦОЎ

## Парцэлы

* * *

Вясна...
Вы постаці
святых —
бярозы...

* * *

Зямныя
мае дарогі...
Пакручастыя
карані

* * *

Выбухамі
насення
ўздымаюцца
дрэў фантаны...

* * *

Да золку
грудное Дзіцё
смактала
пустышку месяца...

* * *

Пачуццяў
пялёсткамі
сэрца —
ружу
зімой нагадала...

* * *

Паэты і дрэвы
не гінуць ад голаду,
а паміраюць
ад засухі...

* * *

Пагібельны
ўчынак Паэта:
сп'яну,
прыняўшы за Бога,
пацалавайся
з д'яблам...

* * *

Страчок —
геніяльны грыб:
зайздросная
колькасць звілін...

* * *

Спярша
забруджваюцца душы,
пасля —
азёры і лясы...

* * *

Адзіная
родная мова
ў Мастака —
адметнасць...

* * *

Вечнасцю
доўжыцца гаць.
Бярвёны яе —
папярэднікі...

* * *

Юнай паэткі
пачуцці...
Вышыла
першы верш.



Фота Уладзіслава БАСЬКО

# Анкеты

## Старонкі з аповесці



Валянціна КАДЗЕТАВА

З раённага семінара я збегла, нібы тая нядбайная вучаніца з нелюбімага ўрока.

Амаль гадзіну рабіла выгляд, што ўважліва слухаю "даклады" — слова ў слова перапісаныя з часопісаў артыкулы, якія манатонна, з запінкамі на чужаземных "партфоліо", "крэатыўнасцях", чыталі мае бедалагі — калегі.

Сёй-той у зале пасмейваўся.. Але ці ж віна выступоўцаў у тым, што мудрагеліста "закручаныя" вучонымі дзядзькамі тэмы былі спушчаны зверху, і ніхто нават не пацікавіўся, ці маюць патэнцыяльныя дакладчыкі жаданне і магчымасць сказаць хоць што-небудзь сваё па азначаных тэмах. Ды і самі тэмы, на маю думку, мелі для нашай сённяшняй школы прыблізна такое ж практычнае значэнне, як найноўшыя камп'ютэрныя тэхналогіі для выміраючага экзатычнага племені. Пра іншае б цяпер думаць. З "азоў" пачынаць бы. З таго, напрыклад, як ураваць дзяцей ад бессаромна- прыдуркаватых тэлевізійных шоу, як зрабіць, каб, калі не зусім знікла, то хаця б зменшылася колькасць сірот пры жывых бацьках, каб не дажывалі свой век на "сацыяльных ложках" спрацаваныя, нямоглыя, нікому не патрэбныя старыя людзі...

Але ўсё гэта нізкія матэрыі! Ды і навошта "выносить мусор из избы?". Ці не прасцей зрабіць выгляд, што ў нас усё "на ўзроўні", таму маем права займацца "матэрыямі высокімі!".

Вось заўтра-паслязаўтра гэтыя "даклады" ў дарагіх папках, аздобленых прыгожымі рамачкамі і надпісамі, зоймуць сваё месца на спецыяльных палічках: глядзіце, маўляў, працуем, удасканальваемся, асвойваем інавацыйныя тэхналогіі!

А што, калі б зараз перапыніць чарговага дакладчыка, дастаць з сумкі стос вучнёўскіх лістоўсповедзей пад умоўнай назваю "анкеты" ды і прачытаць два-тры з іх?

Кінь дурное! Хто табе дазволіць парушаць план семінара, ператвараць сур'ёзнае мерапрыемства ў немаведама што?

Сціскаю ў руках "анкетніцу", чакаю перапынку і... збягаю.

Ой, нешта незразумелае робіцца са мною! Калі б нават месяц таму хто сказаў, што ў мяне з'явіцца думка ўвогуле пакінуць школу, я доўга смяялася б. Мне не пашанцавала ў асабістым жыцці — што ўжо тут таіцца? — але ж прафесіяй сваёй я шчаслівая была. Была? Дык з чаго ж усё пачалося? Можа, з таго, што хто-ніхто з настаўнікаў стаў заўважаць мне, быццам я ідэалізую сваіх дзесяцікласнікаў, захвальваю іх, а яны карыстаюцца гэтым: мудрагельнічаюць, задаюць каверзныя пытанні, робяць папраўкі і ўдакладненні ў настаўніцкія тлумачэнні?

Не, тое мяне не вельмі хвалявала: няхай думаюць, шукаюць, сумняваюцца. Я нават рабіла выгляд, нібыта не заўважаю, як той ці іншы з "філосафаў" пасля майго адказу на пытанне гартае старонкі слоўніка або даведніка. Так і павінна быць.

Дык дзе ж пачатак? Стараюся ўспомніць усё да драбніц.

У той аўторак у мяне не было першых урокаў. Але я пайшла ў школу раней: па-першае, у мяне з маім дарагім мужам з самай раніцы пачалося чарговае высвятленне адносін; па-другое, праз некалькі дзён у мяне павінен быць урок па творчасці Максіма Багдановіча, і я вырашыла пакорпацца ў школьнай бібліятэцы, спадзеючыся знайсці яшчэ што-небудзь з біяграфіі любімага паэта.

Можа, (ды хутчэй за ўсё так і ёсць) гэтая амаль фанатычная любоў да ягонай паэзіі звязана з успамінамі пра самыя дарагія моманты майго асабістага жыцця.

Калі мяне ўпершыню праводзіў дадому Коля Шчарбіцкі, з расчыненага акна нечай хаты загучала "Зорка Венера"...

Ах, гэты Коля Шчарбіцкі, сінявокі, чорнабровы прыгажун, у якога была закаханая амаль палова дзяўчат Целяшоўскай школы! І кожная з іх млела ад радасці, калі сустракала позірк Колевых бяздонных вачэй!

А ён выбраў мяне, сціплую нескладуху з ненавіснымі вяснушкамі на паўнаватым твары. У той жа вечар Коля сказаў мне запаветныя словы, якіх так чакае кожная дзяўчына!

Назаўтра ж я перачытала ўсе вершы Максіма Багдановіча, якія знайшліся ў нашай вясковай біблятэцы, шчырыя, светлыя — сапраўдныя!

Хто ведае, ці склаўся б наш с Колем сумесны лёс? Кажуць, першае каханне амаль не бывае шчаслівым. А можа, наша каханне якраз і стала б тым самым "амаль"?

Коля загінуў недарэчна і так страшна, што мне нават цяпер, праз гады, балюча думаць пра гэта.

Але і сёння, калі становіцца цяжка і смутна на душы і ўспамінаюцца сцежкі, дзе мы хадзілі разам, закінуты бацькоўскі дом са здзічэлым садам, я ціха, амаль шэптам прагаворваю дарагія радкі:

*Ізноў пабачыў я сялібы,*
*Дзе леты першыя прайшлі,*
*Там сцены мохам параслі...*

Разумею, што ўся паўната гэтых пачуццяў пакуль што недаступная дзецям, але да кожнага ўрока, прысвечанага паэзіі Максіма Багдановіча, рыхтуюся, як да свята, і веру: хоць невялічкі след тое свята пакіне ў іх душах.

• Да бібліятэкі я не дайшла. Заўважыла, што ў рэкрэацыі пануе нейкае незвычайнае ажыўленне, і скіравалася туды. Ля сцяны, кідка і безгустоўна размаляванай залётнымі мастакамі-хаўтуршчыкамі, дзве дзяўчыны-старшакласніцы трымалі ў руках плакат, дзе буйнымі чырвонымі літарамі было напісана: "Дапамажыце дзецям вайны! Хто колькі можа!". Побач, на падлозе, — драўляная скрынка з дробнымі грашовымі купюрамі, пераважна сторублёўкамі.

Мы ўжо звыкліся з тым, што, насуперак афіцыйным забаронам збіраць са школьнікаў грошы, такія зборы праводзяцца даволі часта, у тым ліку і з настаўнікаў.

— Што за акцыя? — пытаюся і дастаю партманет. Адна з дзяўчат смяецца, і на ружовых шчоках з'яўляюцца прывабныя ямачкі:

— Ніякая не акцыя! У нас фізрук захварэў, урока няма, вось мы і вырашылі павесяліць народ.

— ?!!

Відаць, на маім твары было напісана штосьці такое, ад чаго ружавашчокая перастае смяяцца:

— Ды што з вамі Ларыса Міхайлаўна?! Гэта ж проста жарт. Прыкол. Мы на гэтыя грошы потым цукерак купім і пачастуемся. Дарэчы, усім, апрача вас смешна было!

Другая "прыкалістка" глядзіць на мяне вялікімі, колеру чыстага летняга неба вачыма, і ў позірку тых вачэй неўразуменне і... паблажлівасць.

— Ну-у! А вашы вучні гаварылі, што ў вас з пачуццём гумару — "нармуль". Памыляліся, відаць. А шкада. Для настаўніка пачуццё гумару — сама тое!

О, каб на іх месцы былі хлопцы! Я, відаць, адрынула б усе педагагічныя і этычныя прынцыпы і заляпіла б ім па шчодрай аплявусе! Але перада мною стаялі дзве лялькі, па модзе апранутыя, добра кормленыя, з падмаляванымі вейкамі і вуснамі!

Я выхапіла плакат, разарвала яго на шматкі, а скрынку з "ахвяраваннямі" піхнула так, што яна аляцела да супрацьлеглай сцяны, а сама кінулася на другі паверх, у настаўніцкую, паспеўшы, аднак, убачыць як адна з "лялек" скрывілася і пакруціла пальцам ля скроні.

У настаўніцкай было даволі людна: на перапынку мелася адбыцца нейкая пазачарговая нарада.

— Ды што ж гэта такое, дарагія мае калегі?! Няўжо ніхто з вас не бачыць, што вырабляюць гэтыя... — ад абурэння я не знаходзіла патрэбных слоў, — гэтыя... дзявулі! Дзеці вайны! Трэба ж да такога дадумацца!

— Ды бачылі, — празмерна спакойна, як мне здалося, прамовіла біялагічка Ала Іванаўна. — Толькі ж мы думалі, што яны і сапраўды вырашылі тым няшчасным дзецям дапамагчы. Вось жа дурніцы! А можа, самі не разумеюць, што робяць?

— У такім узросце пара ўжо адчуваць, дзе жарт, а дзе кашчунства! — Трэба, каб беспакараны гэты "жарт" не застаўся!

— Вы пра Вовачкаву з Мілюковай? — пацікавілася настаўніца пачатковых класаў Святлана Ігнатаўна.

— Ды я і прозвішчаў іх дакладна не ведаю, бо ніколі ў тым класе не працавала.

— А гэта дрэнна, Ларыса Міхайлаўна, — усміхнулася Ала Іванаўна. — Калі б ведалі, то, можа, падумалі б, перш чым патрабаваць пакарання, прынамсі, для адной з іх.

— Для каго менавіта і чаму?

Ала Іванаўна разгубілася:

— Прабачце... Я думала, вы, так бы мовіць, "в курсе". Прабачце...

— А што я павінна ведаць?

Ала Іванаўна моўчкі адышлася да акна, і я заўважыла, што некаторыя з прысутных неяк дзіўна паглядзелі на мяне.

Пазней я зразумею, што азначалі тыя позіркі. Крыху пазней. Але ўжо тады сэрца маё сціснулася ад нядобрага прадчування.

Можа, я ў той момант пастаралася б выпытаць у не вельмі стрыманай Алы Іванаўны хоць што-небудзь, але ў настаўніцкую зайшоў дырэктар:

— Я коратка. Пра галоўнае. З дакладных крыніц мною атрымана інфармацыя, што ў наступным месяцы ў раёне чакаецца сур'ёзная праверка. Нашу школу як самую буйную з сельскіх тая праверка ні ў якім разе не абміне. Перш за ўсё, вы гэта павінны ведаць, будуць глядзець дакументацыю...

— Міхась Паўлавіч! Дык што, зноў пачнецца папяровая вакханалія? — уздыхнуў гісторык Ігар Максімавіч. — Як жа абрыдлі гэтыя паперы! Здаецца б, згроб іх усе разам ды і спаліў!

— А калі тая, як вы кажаце, "вакханалія" спынялася? І што далей, то болей папер на нас скідваюць! — занервавалася выкладчыца хіміі. — Нам дзяцей няма калі вучыць! Толькі і рабі, што паперы тыя складай!

— Усё! — павысіў голас дырэктар, — падрабязнасці абмяркуем пазней. Зараз некалькі папярэдніх заўваг, і — па ўроках. Пасля шостага правесці адпаведныя гутаркі са сваімі класамі.

На ўрок я, як і большасць настаўнікаў, ішла ў сапсаваным настроі. А на перапынку са слязьмі на вачах да мяне прыйшла маладая "русіца" Ніна Васільеўна:

— Я больше не могу і не хочу работать в вашем классе! Это не дети, а монстры какие-то! Интеллектуалов из себя строят. Особенно этот Белецкий, возомнивший себя чуть ли не академиком! Прошлый раз я его простила. Наверное, зря. Вот, полюбуйтесь! Никто, кроме Белецкого, не мог подсунуть мне это в журнал. И, что обиднее всего, за что? Как понимать эту галиматью?

Я ўзяла ў рукі невялічкі лісток, дзе друкаванымі літарамі было напісана:

*Учитель! Помни: сочинение —*
*Души и сердца откровенье.*
*И потому, чтоб тему дать,*
*Про класс хоть что-то надо знать!*
*Н. В.! Кто делает не так,*
*Тот не учитель, а ...*

• "Прошлый раз" здарыўся недзе на пачатку навучальнага года. Віця Бялецкі сам зайшоў у клас, дзе я пасля ўрокаў правярала сшыткі:

— Ларыса Міхайлаўна, я ведаю, што яна вам на мяне скардзілася і да дырэктара абяцала пайсці! — горача пачаў ён, але я перапыніла яго:

Спачатку добры дзень, Віця! А потым — хто такая "яна"?

Прабачце, — пацішэў Бялецкі. — Я пра Ніну Васільеўну. Выконвалі мы практыкаванне, дзе трэба было перакласці з рускай на беларускую мову тэкст. Выклікала яна... Ніна Васільеўна да дошкі Кацю Сінцову, каб пераклала сказ: "Усталый, он прилег на диван отдохнуть» Каця пераклала так: "Стомлены, ён прылёг на дыван адпачыць". А мы...я хацеў выправіць памылку. Рускае "диван" у перакладзе на нашу мову значыць "канапа", ці не так? А беларускае "дыван" адпавядае рускаму "ковер". А яна адразу: "Перестань умничать и закрой рот!" Я рот закрыў.. даланёю. Яна зноў: «И не смотри на меня таким взглядом!» Тады я ўвогуле заплюшчыў вочы і так сядзеў да канца ўрока. Нават пісаў з заплюшчанымі вачыма.

— Ну, і як напісаў?

— Вядома ж, ніяк. Крыва. Ніна Васільеўна паглядзела і сшытак мой парвала.

— Так, шаноўны мой філолаг, — пачала я, стрымліваючы раздражненне, — ты ж добра ведаеш, што Ніна Васільеўна толькі ў мінулым годзе прыехала з Расіі, дзе нарадзілася, вучылася і жыла, таму ведаць беларускую мову так дасканала, як ты (праўда сумняваюся, што і ты яе ведаеш дасканала) пакуль што не можа. І табе, калі ты адзін заўважыў памылку, не трэба было ўзнімаць вэрхал, а ціхенька сказаць Ніне Васільеўне, каб яна магла непрыкметна выйсці з няёмкага становішча. Але ж цябе не столькі памылка хвалявала, колькі жаданне "выставіцца" перад... некаторымі дзяўчатамі, так?

Віця маўчаў.

— Ну, а пра тое, як ты далей сябе пачаў паводзіць, мне гаварыць і непрыемна, і сорамна. Такое можна было б дараваць якому-небудзь не абцяжаранаму інтэлектам першакласніку, але табе... Ідзі і падумай, як цяпер паправіць тое, што ты нарабіў. Табе падказаць?

— Не трэба, Ларыса Міхайлаўна. Я сам.

Бялецкі папрасіў у Ніны Васільеўны прабачэння, і, здавалася, адносіны паміж імі наладзіліся.

• Што ж здарылася цяпер? І што азначаюць гэтыя вершаваныя радкі?

— Ніна Васільеўна, а якое сачыненне вы пісалі ці збіраецеся пісаць у дзесятым класе? — спыталася я.

— Вот в том-то и дело, что никаких сочинений мы, по крайней мере, недели две не писали. Собираемся писать контрольное, но тему я еще не давала.

— Пачакайце. Я пастараюся разабрацца што да чаго. У нас сёння класная гадзіна. Калі хочаце, можаце прысутнічаць.

— Нет уж, увольте. На сегодня с меня достаточно общения с этим классом.

• — Ну, дарагія мае выхаванцы, — пачала я адразу з парога, — сёння ў нас з вамі будзе вельмі сур'ёзная размова.

— Я ж казаў вам: да нас едзе рэвізор — камісія, значыць! А вы мне не верылі! — пачулася з задняй парты, — і Віця Бялецкі (ну, ты глядзі, зноў жа Бялецкі!) пераможна зірнуў на аднакласнікаў.

Я дакорліва пахітала галавою:

— Ой, язычa, язычa, і хто цябе кліча? Праўда, у гэты раз кліча ён цябе невыпадкова. Камісія камісіяй, але перш давайце абмяркуем уласныя праблемы. На жаль, у многіх настаўнікаў ёсць прэтэнзіі да нашага класа. Я ўсё думала, само па сабе вырашыцца, вы ж амаль дарослыя людзі. А цяпер бачу, што калі маўчаць і надалей, то некаторыя з вас хутка дойдуць да "жартаў", якія мала чым адрозніваюцца ад "прыколаў" "дзяцей вайны". Спадзяюся, вы разумееце, пра што і пра каго я гавару?

— Ды гэта Маша з Людаю проста не падумалі, што робяць. Увогуле ж яны неблагія дзяўчаты! — выгукнула з месца Юля Лапіцкая. — І ў параўнанні з глабальнымі праблемамі такая дробязь не вартая ўвагі.

— Ты б, Юля, дзе-небудзь у іншым месцы практыкавалася ў дасціпнасці! — абурана ўсклікнула Васюкова Лена. — Ніякая гэта не дробязь, а адкрыты здзек над тым, што для кожнага чалавека святым быць павінна!. І, заўважце, якое месца яны выбралі — зусім побач з піянерскім пакоем, дзе фотаздымкі ветэранаў і партрэты двух хлопцаў з нашай школы, тых, што з афганскай вайны не вярнуліся! А ты гаворыш "дробязь"!

— Ты, Лена, відаць, начыталася якіх-небудзь дапатопных кніжак пра ворагаў народа і хочаш Машу і Люду ідэалагічнымі дыверсантамі зрабіць! — агрызнулася Лапіцкая.

— Ды нічога я не хачу! А ты, Юля, відаць, таксама з "пафігістак", для якіх існуе толькі тое, што можна рукамі пакратаць! — расчырванелая Лена села і стала глядзець у акно.

— А я вось што скажу, — рашуча ўстаў Валодзя Міхальцоў, — нагледзеліся яны рознай пашляціны ды і крыўляюцца. А вось нядаўна адзін вельмі модны гурт выступаў. На бычыныя шыі піянерскія гальштукі пачаплялі, твары дэбільныя зрабілі і лухту розную нясуць. І гэта на дзяржаўным тэлебачанні! Што ж тады ад звычайных маш ды люд чакаць?

Дзеці, відаць, яшчэ доўга б спрачаліся, але я перапыніла стыхійна ўзнікшую дыскусію:

— Хоць я і не збіралася абмяркоўваць з вамі гэты ўчынак, але за тое, што шчыра выказаліся, дзякуй. А цяпер у мяне пытанне да Бялецкага. Скажы, Віця, чаму ты пакрыўдзіў, а дакладней, абразіў Ніну Васільеўну? У мінулы раз мы гаварылі з табою без сведкаў. Але сёння, прабач, будзеш адказваць усяму класу. Дык што азначаюць гэтыя так званыя "вершы"?

Якія вершы? — непрытворна здзівіўся Бялецкі. — Я ніякіх вершаў не пісаў. І Ніну Васільеўну нічым не пакрыўдзіў, паверце мне, Ларыса Міхайлаўна!

Выходзіць, мне трэба браць на сябе абавязкі следчага і шукаць аўтара ананімнага "твора"? — я паказала ўсяму класу злашчасны лісток.

— Не трэба! Гэта я напісала!

Наста? Развіцкая Наста, заўжды маўклівая, разважлівая, спакойная Наста?!

— Але навошта, чаму ты гэта зрабіла? — спыталася я.

— Таму што няхай бы хоць класны журнал уважліва пагартала перад тым, як у класе, дзе трое сірот, задаваць сачыненне на тэму "Мая мама"! Хочаце, я адно сачыненне пакажу вам?

Наста разгарнула перада мною сшытак дзе было напісана ўсяго некалькі слоў: "Когда я вырасту, я найду и убью ее!". Я паглядзела на вокладку:

Тетрадь для работ по русскому языку ученика 6 "А" класса Заболотской СШ Медведева Алексея

Наста працягвала:

— Гэты хлопчык з маім братам у адным класе вучыцца. Маці Лёшу пакінула, калі яму было ўсяго некалькі месяцаў. Прыехала ў госці да сваёй стрыечнай сястры, а назаўтра знікла. Вось з той пары ён і жыве ў цёткі Галі. Да нядаўняга часу Лёша нічога не ведаў, лічыў цётку Галю мамаю. Але знайшліся "добрыя людзі", увялі ў вушы. А маці так ніводнага разу не пацікавілася, як і што з сынам. А яшчэ ў тым класе дзве дзяўчынкі-блізняты вучацца — Даша і Алена. Дык у іх гады два таму і бацька, і маці п'яныя ў доме згарэлі. Дзяўчынак ужо ў дзіцячы дом афармлялі, а тут якраз мае суседзі ў той дзень туды ж прыехалі. Сваіх дзяцей у іх не было, і яны хацелі сабе хлопчыка ці дзяўчынку з дзіцячага дома ўзяць. Ну, і ўзялі яны Дашу з Алёнаю, удачарылі. Дзяўчаткам там няблага жывецца, але ж яны яшчэ не забыліся пра сваю трагедыю. Я ўсё сказала. А цяпер рабіце са мною што хочаце.

Ад Насцінага расповеда мне зрабілася не па сабе. Некалі, у першыя гады сваёй працы ў школе, я ледзьве не зрабіла такую ж памылку, як і на-

(Заканчэнне на стар. 15)

## Арт-пацеркі

На час абедзеннага перапынку зборачны цэх БелАЗа ператвараўся ў канцэртную пляцоўку, калі да працаўнікоў жодзінскага гіганта машынабудавання завіталі музыканты. Адпаведна планам свайго юбілейнага сезона перад белазаўцамі выступіў Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга. На працягу гадзіны ў жывым выкананні гучалі самыя лепшыя песні з рэпертуару заслужанага калектыву і яго салістаў.

Паліна Смолава — вось імя выканаўцы, якая прадставіць Беларусь на Міжнародным тэлевізійным песенным конкурсе "Еўрабачанне-2006". Летась яна



стала пераможцай Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў "Славянскі базар" у Віцебску". Цяпер настройвае сябе на перамогу ў Афінах, дзе разам са сваёй творчай камандай прадставіць новую песню "Мама", музыку якой напісаў С. Сухамлін.

Малады сталічны творчы калектыў "Новы тэатр" пазнаёміў публіку з прэм'ерай "Рамэо і Джульета MILLENIUM" паводле п'есы У. Шэкспіра "Рамэо і Джульета" ў рэжысуры Алега Кірэева. Вялікая гісторыя светлага кахання і трагічных акалічнасцяў праз 400 гадоў паўстала ў антуражы сённяшняга мегаполіса. Стваральнікі спектакля, у тым ліку выканаўцы галоўных роляў Максім Крэчатаў ды Юлія Палубінская, дапамагаюць гледачу адказаць на пытанні: хто яны, сучасныя "звар'яцелыя ад шчасця", як пераадолець бар'ер між захопленасцю і каханнем? І ці праўда, што героі шэкспіраўскага аповеду ў сваім бясконцым вандраванні па часе "асуджаныя" на каханне адно да аднаго — спрадвек і навечна?



"25 гадоў у оперы" — пад такой рубрыкай ладкаваўся ў Малой зале сталічнай філармоніі творчы вечар народнага артыста Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі заслужанага артыста Расіі Мікалая Майсеенкі, якому сёлета спаўняецца 65. Калісьці для яго, гамяльчаніна, выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, не знайшлося месца на айчыннай опернай сцэне сярод запрошаных салістаў — такое здаралася з нашай творчай моладдзю ў другой палове мінулага стагоддзя. І ён пачынаў свой сцэнічны шлях у далёкім Свярдлоўску. У росквіце поспеху М. Майсеенка вярнуўся на Беларусь і за 25 гадоў працы ў родным тэатры ды плённай гастрольнай дзейнасці (Бразілія, Германія, Іспанія, Італія, Партугалія, Расія, Швейцарыя) стварыў незабыўныя вобразы Князя Ігара, Рыгалета, Набука (у аднайменных операх), Грaзнога ("Царская нявеста"), Томскага ("Пікавая дама"), Жоржа Жэрмона ("Травіята"), Скарпіа ("Тоска"), Графа дзі Луны ("Трубадур") ды інш.

**С.ВЕТКА**

*Фота забяспечана аўтарам*

*Казаць, хто такі Уладзімір УГОЛЬНІК, напэўна, не трэба. Усе чулі яго музыку. І, мабыць, бачылі па тэлебачанні вялізнага барадатага ўсмешлівага дзядзьку. Гэта і ёсць жывая легенда гітарнай творчасці. Яго музыку можна пачуць па радыё, з экрана ТБ, у рэкламе. Ён працаваў з "Верасамі", з аркестрам Беларускага цырка, "Praha Cirk Centrum", "Cyrk Peniny" (Польшча). Сёння Уладзімір Пятровіч выкладае ў БДУ культуры і мастацтваў, з'яўляецца загадчыкам кафедры эстраднага мастацтва.*

*Каб чытачу былі зразумелыя ўсе нюансы нашай размовы з гітарыстам, прапаную невялікі слоўнік музычнага "жаргону".*

***Здымаць сола** — вучыцца граць копію сола іншага гітарыста.*
***Дысторшн** — гітарны эфект, нязменны атрыбут "цяжкой" музыкі.*
***Эфект-педалі, эфект-працэсары** — прылады апрацоўкі гуку.*
***Плюс** — фанаграма*
***Тэпінг** — гітарная тэхніка выканання, пры якой гук здабываецца дзвюма рукамі.*

# ГІТАРА САМА НЕ ЗАЙГРАЕ

***— Уладзімір Пятровіч, калісьці вы ўпершыню ўзялі ў рукі гітару...***

— Як і большасць гітарыстаў майго пакалення, я пачаў з сямістручнай гітары: на дварэ з кампаніяй (гадоў трынаццаць мне было) спявалі турысцкія песні. Я вучыўся ў музычнай школе па класе скрыпкі, ведаў ноты, і гітарай мне авалодаць было лёгка. Потым я перайшоў на "шасціструнку" і стварыў рок-гурт "Блікі". Гралі на танцах, гучна, моцна — маладыя ж былі!..

**— Чуў, у музычную школу вас выправіў вучыцца бацька. Так?**

— Бацька з братам. Бо я заўсёды добра спяваў песні, якія гучалі па радыё. Яны гэта заўважылі і аддалі ў музычную школу. Спачатку хацелі, каб я іграў на фартэпіяна, але потым ім парэкамендавалі добрага выкладчыка-скрыпача. Дарэчы, як скрыпач я і прыйшоў у 1973 годзе ў Беларускую дзяржаўную філармонію. Граў там у калектыве "Арбіта-67". А на гітару перакваліфікаваўся, можна сказаць, выпадкова. Аднойчы на гастролях — дзесьці ў Расіі — захварэў гітарыст. Зразумела, што замену знайсці вельмі цяжка. Кіраўнік ансамбля спытаў, ці не змагу я замяніць. Я паглядзеў праграму гітарыста і ўвечары на канцэрце сыграў, пасля чаго кіраўнік прапанаваў мне і застацца ў ансамблі ў гэтай якасці.

**— Хто з музыкантаў паўплываў на вашу творчасць?**

— Іх вельмі шмат. Калі браць джаз — дык, безумоўна, Джо Пас. Калі рок — Элвін Лі (гітарыст гурта "Ten Years After"), сола якога я "здымаў" па 10 гадзін, седзячы ў ванным пакоі.

**— Чаму там?**

— У кватэры жыў не адзін я, таму, каб нікому не перашкаджаць, я зачыняўся ў ваннай і граў там.

**— Раскажыце пра запісаныя вамі дыскі.**

— Іх усяго тры. Прычым трэці, "Задушевный рок-н-ролл", — гэта зборнік лепшых кампазіцый з першых двух. Першы, акустычны, пад назваю "Дневные сны", мы запісалі з гітарысткай Тацянай Капянковай. На другім дыску, які называецца "Владимир Угольник №2", я прапанаваў ужо нейкія камп'ютэрныя аранжыроўкі. А на канцэртах я граю гэта ўсё ўжывую са сваім калектывам "За Углом". Дарэчы, накont назвы. Здаецца, пажартавалі, але ўсім спадабалася. Можа, яно і слушна: на сцэне Угал (Уладзімір Угольнік. — **А.К.**) пападзе, а за ім — гурт.

**— У якіх музычных стылях вам падабаецца працаваць больш за ўсё?**

— Люблю шмат стыляў. Часцяком мяне папракаюць за эклектыку, бо я на канцэртах выкарыстоўваю багата стыляў. На гэта я адказваю, што ўсе гэтыя стылі аб'ядноўвае гітара. А я люблю і кантры, і джаз, і хардрок, і...

**— Добра, тады якія стылі вам не падабаюцца ўвогуле?**

— Няма такіх, якія б мне зусім не падабаліся. Калі існуе стыль, дык былі і прафесіяналы, якія яго стварылі. Ёсць стылі, з якімі я не паспеў пазнаёміцца як выканаўца, але гэта не значыць, што яны мне не падабаюцца. А не падабаецца мне непрафесійнае выкананне і камерцыйныя адносіны да музыкі.



**— Ці слухаеце вы нашы маладыя гурты?**

— Слухаю, падабаецца. Але нікога не назаву, каб астатнія не пакрыўдзіліся.

**— А якую музыку вы слухаеце ў вольны час?**

— Гэта залежыць ад настрою, які можа змяняцца некалькі разоў за дзень. Калі хочацца слухаць джаз — слухаю джаз. Часам настрой "прапануе" паслухаць "цяжкую" музыку.

**— Што з "цяжкога" вам больш падабаецца?**

— Напрыклад, Джо Сатрыяні, не вельмі вядомы ў нас Майк Анджэла, Стыў Вай. Класіку вельмі люблю. Увогуле, у мяне толькі вінілавых пласцінак каля дзвюх тысяч, каб можна было кожны дзень слухаць, што адпавядае настрою.

**— Наконт класікі. Мне думаецца, калі класіку сыграць на гітары з "дысторшнам"...**

— Глядзячы хто і як сыграе. Напрыклад, у Віктара Зінчука ёсць класічныя кампазіцыі, дзе ён не зусім "забіў" аўтара. Інгві Мальмсцін гэтым таксама паспяхова займаецца. Думаю, калі гэта рабіць высакаякасна і прафесійна, самі класікі не былі б супраць. Але, каб зрабіць добрую апрацоўку, трэба з дзяцінства слухаць арыгінал. Мне, напрыклад, вельмі падабаецца аранжыроўка альбома "Abbey road" (гурт "Beatles"), зробленая Джорджам Бенсанам, бо там і "Beatles" засталіся, і Бенсан прысутнічае. Гэта геніяльнае майстэрства... Але нельга — проста перайманць. Вось мы са студэнтамі вывучаем тэхніку і Вая, і Сатрыяні. І калі яны гавораць: "Мы Стыва Вая на канцэрце сыграем", я іх адразу перасцерагаю. Кажу: "Вось падумай, якія ў яго музыканты, якое ў яго абсталяванне. Да таго ж — гэта сам Стыў Вай. Нашмат лепш будзе, калі вы дададзіце туды нешта сваё".

**— А ці маглі б вы, як педагог, даць нейкую ўніверсальную параду маладым гітарыстам?**

— Не трэба спяшацца сыграць усё адразу. Дарэчы, магу прывесці параду аднаго выкладчыка-скрыпача: "Каб навучыцца добра граць, трэба ведаць тры правілы. Першае: граць павольна. Другое: граць павольна. Трэцяе такое ж". Не трэба спяшацца ўхапіць быка за рогі. Вось, напрыклад, сёння многія маладыя музыканты хочуць авалодаць хуткай тэхнікай. Але да гэтага трэба ісці паступова, пераходзіць на новы тэмп толькі тады, калі ў ранейшым тэмпе ўсё сыграна дакладна.

**— Уладзімір Пятровіч, якім інструментам вы карыстаецеся?**

— Электрагітара ў мяне Gibson SG100, а акустычную гітару для мяне зрабіў майстар Уладзімір Мілун. Карыстаюся і працэсарам эфектаў — YAMAHA GV50. Гэта не самы сучасны, але самы надзейны.

**— Сярод музыкантаў не змаўкаюць спрэчкі наконт таго, што лепш: аналагавыя эфект-педалі ці лічбавыя працэсары?**

— Аналагавыя лепш. Але з-за таго, што я працую са шматлікімі стылямі, мне зручней карыстацца лічбавым працэсарам (эфект-педаль дае 1-2 эфекты, працэсар — колькі трэба. — **А.К.**). Працэсар дазваляе мне да кожнага канцэрта падабраць патрэбны гук. Зразумела, карыстацца эфектамі трэба (без іх нецікава), але трэба яшчэ і адчуваць жывую струну. Кожны электрагітарыст павінен мець пастаянную практыку на акустычнай гітары. Без гэтага з'явяцца праблемы. Напрыклад, атрафіруюцца мышцы пальцаў левай рукі з-за тонкасці струнаў, якія звычайна ставяцца на электрагітару. Увогуле, чым таўсцей струны, тым лепшы гук. Многія нюансы можна зрабіць толькі на тоўстых струнах. Таму, калі гітарыст пайграе на "акустыцы", электрагітара ў яго руках будзе як цацка.

**— Ці лічыце вы, што дарагая гітара — гарант поспеху?**

— Інструмент сам не зайграе. І калі набыццё дарагой гітары робіцца мэтай — гэта дрэнна. Але, калі гэта падсілкоўваецца і набыццём майстэрства, — нармальна. Набываць новы інструмент трэба, калі разумееш, што цяперашні не адпавядае тваім магчымасцям. А купіць гітару, толькі каб усе ўбачылі, колькі ў цябе грошай, — які сэнс?

**— А з якой гітары пачыналі вы?**

— Пачынаў з "Iolana Star", потым з'явіўся "Iolana Tornado", "Musima".

**— Як вы ставіцеся да папулярнасці гітары?**

— Вельмі станоўча. На мой погляд, гітара — інструмент вельмі паспяховы для самавызначэння тых, хто на ёй грае. Бо тут шмат чаго залежыць і ад тэхнікі ігры, і ад вібрацыі, і нават ад гітарнага строю! Гітара — гэта як шахматы: можна ўвесь час што-небудзь шукаць і знаходзіць.

**— Што вы можаце сказаць пра беларускую гітарную школу?**

— У нас ёсць вельмі таленавітыя гітарысты класічнай школы: Яўген Грыдзюшка, Ян Скрыган. Нашы майстры высока цэняцца і за мяжой. Напрыклад, Віктар Смольскі грае ў нямецкім гурце "Rage". Заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Ткачэнка — гэта ўвогуле гітарыст еўрапейскага ўзроўню...

**— Наколькі я ведаю, Ткачэнка ў нашай краіне стаў "першапраходцам" двухручнага тэпінгу?**

— Так, на Беларусі першым быў ён, і дагэтуль грае тэпінгам з вялікім поспехам. Я таксама з павагай стаўлюся да гэтай тэхнікі. Але тэпінг вымагае завучвання, а я больш люблю адвольнае гранне. Тым больш, што кожны раз граю па-новаму, таму, дарэчы, ніколі не згаджаюся граць пад фанаграму, колькі б мяне ні ўгаворвалі. Бо ўсё роўна не змагу "зладзіць" тую імправізацыю, якая фіксуецца на запісе, і для гледачоў будзе відавочна, што не сам выканаўца грае, а фанаграма. Толькі адзіны раз мяне "ўламалі" сыграць пад "плюс" — на "Славянскім базары" ў Віцебску", бо там не было іншага варыянту выступлення. А так на ўсіх канцэртах іграю толькі ўжывую.

**— Якія мінскія залы вам падабаюцца больш за ўсё?**

— Люблю выступаць у канцэртнай зале "Мінск", у Палацы культуры аўтазавода, у Доме афіцэраў. Магчыма, ў хуткім часе дам канцэрт у Палацы Рэспублікі.

**— Нядаўна па тэлебачанні прайшла серыя вашых майстар-класаў...**

— Так, многія гэтым зацікавіліся, таму, думаю, мы з тэлестудыяй працягнем гэтую серыю. І нават плануецца запрашаць зацікаўленых людзей у студыю, і ў жывым эфіры я змагу ім нешта паказаць ці даць параду.

**Алесь КІРЫКОВІЧ**

*Фота аўтара*

# ЗОЯ. ПРАЗ ТАЯМНІЦЫ МАНАЛОГА



**Блукаю па майстэрні Зоі Луцэвіч сярод дзівосных вобразаў — істот і прадметаў, рэальных і фантастычных, якія нібыта пакінулі свет жывапісных палотнаў і ўжо лунаюць паміж намі пад мелодыю шчырага распаведа мастачкі: пра пераменлівасць лёсу, пра супярэчнасці творчай натуры, хвілі натхнення, што вынікаюць з бясконцых гадзін пошуку, упартай працы, няўдач і знаходак, — і ў нейкі момант прымушаюць страціць дакладнае адчуванне рэальнасці. Я ўрэшце адкідаю трывіяльнасці крытычнага погляду на творцу, на плён яе працы і патанаю ў нічым не стрыманых фантазіях, дзе з калейдаскапічнай хуткасцю чаргуюцца праўда і мастацкі вымысел — і паўстаюць у выглядзе кампазіцыйна складаных графічных пабудоў ці смелых інсталяцый, створаных яе талентам, яе рукамі. Зоя Луцэвіч... Сапраўдны сябра Беларускага саюза мастакоў ды саюза дызайнераў, удзельніца шматлікіх міжнародных пленэраў, неаднаразовы прызёр розных выставак маладых мастакоў нашай краіны, аўтар жывапісных работ, што ўпрыгожваюць экспазіцыі галерэй ды музеяў Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША, Аўстрыі... Выпускніца сталічнага мастацкага вучылішча імя А. Глебава, у свой час і студэнтка акадэмій мастацтваў у Мінску ды Дзюсельдорфе... Мае назіранні-ўражанні паступова складаюцца ў нейкую сюррэалістычную замалёўку, у якой чытач, мажліва, і ўбачыць рысы аблічча сапраўднай творчай асобы, пачуе яе маналог...**

Дні. Месяцы. Гады. Вось ужо 33 — магічная лічба. Масква. Галерэя "Марс". Размяшчаюся адразу на некалькіх паверхах. Шыкоўная выставачная зала. Вочы плюшчу ад бляску аўтамабільнага шкла. "Аўтапраект". У памяці: мерседэсы, таёты, аудзі, пежо...

Вабяць кідкасцю рэкламных фарбаў маленькія кружкі, скачуць цукеркі М-энд-Ммммсс. Складваюцца ў шэрагі, у калоны, у нотныя радкі, у мелодыю. Стоп! Хто з'еў, прагрыз твор мастацтва? Мышкі. Ай-ай-ай! Праз дзірачкі можна ўбачыць далячыні. Будучае? Мінулае?

5, 7, 10 гадоў. Яшчэ дадаць нулік, і будзе стагоддзе. Не люблю глядзець на лічбы — у іх сканцэнтравана злая канечнасць чалавечага існавання. Куды лепш выглядае празрыстасць свету дзяцінства.

Як прыемна скакаць на драўляным коніку. Туды — сюды. Ласкава паглядае маці. Разам з ёй заўсёды пэндзлі, алоўкі, фарбы. Імгненне — і вобраз кранальнага конніка пераносіцца на жывапіснае палатно. Вобраз, які — толькі зірні — саграе ў самыя лютыя маразы ціхім бацькоўскім цяплом.

Кудысьці схаваліся лялькі. Збег конік. Дзе вы, банцікі, коскі? Хутчэй, хутчэй! Спазняюся ў "музыкалку". Цяжкія ноты. Моцарты, шапэны, лісты, бахі... Бах-бах-бах — гэта разлятаецца на дробныя аскепкі ўлюбёная ваза, а разам з ёй — простыя ісціны дзяцінства. Неяк дзіўна пачалі пазіраць хлопчыкі са старэйшых класаў.

15, 16, 17 гадоў. Мастацкае вучылішча. Усё можна. Усё магу. Слаўная дзяўчына. Таленавітая. Упартая. Настойлівая. Розная. Нарэшце, відаць, знайшла сябе: дзед мастак, тата, мама — і, мабыць, буду я. Малюю, як вучаць і як выпадае. Люстэрка — найлепшая сяброўка. Так, нішто сабе. Не спрачаюся з адлюстраваннем.

Днямі здзівіла сама сябе. Пазіравала знакамітаму мастаку, настаўніку маіх бацькоў. На карціне барадаты страшэнны Вакх — гэта ён сам — трымае ў руках юную бялюткую аголеную Німфу — гэта я. Мастак, хаця й мае ганаровае званне "народны", але мяне ў руках не ўтрымаў; добра, жонка ягоная была побач — не дала забіцца. Німфа. німфачка, німфетка — дзесьці гэта ўжо было.

Вясна. Каханне. Кветкі. Дачакалася 18 гадоў. Як цудоўна ўсё ды хораша! Здаецца, выглядаю някепска. З задавальненнем ствараю. Рыхтуюся да ўдзелу ў першай сваёй "дарослай" выстаўцы ў Палацы мастацтва. Ганаруся, што адабралі тры мае работы: "Кот", "Певень" (абедзве лубочнага характару) і "Месяц упаў у мой дом". Апошняя з карцін нечакана з'явілася мне ў сне.

Чамусьці спрабуюць выявіць "заганы" прымітывізму ў маёй шчырасці. Хіба ж гэта дрэнна — чысціня думак і фарбаў, імкненне да яснасці, чуласці, жыццё з шырока адкрытай душой ды гарачым сэрцам?

Нечаканы "падарунак" атрымала з газетных старонак. Плясь — і нават не ведаеш, як адмыцца ад бруду. Горка, прыкра, бо там толькі некампетэнтнасць, абыякавасць да лёсу маладога мастака. І хаця пазней таксама даводзілася чытаць у выставачнай кніжцы водгукаў рознага кшталту непрыемнасці, маўляў: "Што гэта за мазня?! Навошта гэта патрэбна!" — тая, першая поўха, так і чырванее балюча на твары маёй памяці.

Урок першы: трымай пад кантролем адкрытасць сваёй душы. Як у метро: "Асцярожна, дзверы зачыняюцца!".

Але ж ёсць і радасная навіна. На "выдатна" вытрымала экзамены ў тэатральна-мастацкі інстытут. Галоўнае для мяне слова тут, канечне, МАСТАЦКІ.

Бурлівы пачатак 90-х. Мы смелыя. Мы вольныя. Мы да ўсіх спраў здатныя. Чырванее справа. Бялее злева. Паласее пасярэдку. Усе з кімсьці змагаюцца. Мы, студэнты, арганізуем альтэрнатыўную Саюзу мастакоў выставу сваіх шэдэўраў. "Малая рэвалюцыя" скончылася для мяне выключэннем з ВНУ.





Урок другі: перамагае мацнейшы.

Куды ж падзець тое бязмежжа энергіі, таленту, жадання штодзённа ствараць, казаць сваё слова ў мастацтве? Ды яшчэ нядрэнна б зарабіць як мага болей грошай.

Ойяа-олле-йю-у! Капялюш з пяром фазана — незвычайны ўбор на галаве. Сустракай мяне, слаўны горад Шроль, што ў Аўстрыі! Прыемна адчуваць сваю запатрабаванасць. Галерэя знаходзіцца ў цудоўным месцы. Мае работы карыстаюцца попытам. Шылінгі, франкі, маркі, гульдэны... Зразумела ж, грошы — не самамэта, а магчымасць працягваць адукацыю. Яшчэ не згасла жаданне вучыцца. Ведаю дакладна, што некаторыя з маіх былых аднакурснікаў паспяхова спасцігаюць майстэрства ў розных еўрапейскіх акадэміях. Высока падкідаю манету. Выпадае рэшка — еду ў Дзюсельдорф.

Знакамітая акадэмія мастацтва. Не менш знакамітыя прафесары-выкладчыкі. Трапляю ў групу з нямецкіх дзяўчат, якія па-нашаму разумеюць менш, чым я па-нямецку. Ёсць яшчэ адзін хлопец з Піцера. Робіць выгляд, што немец. Цікава, чым усё гэта скончыцца?

Акрамя ўсяго, тры гады пайшлі на вывучэнне нямецкай мовы, каб дакладна зразумець кароткае рэзюме рэктара, які агледзеў мае работы: "Не марнуйце час за партай. Вашае месца ў майстэрні. Поспехаў!"

Чвэрць стагоддзя. Мала? Многа? Вяртанне блуднай дачкі на радзіму. Нестандартная сама са сваім нестандартным шлюбам. 15 гадоў вагаюцца арэлі сямейнага шчасця. З верху — долу, з нізу — угару. Ведаеце, што аб'ядноўвае рок-музыку і жывапіс? Мой маленькі сын. Вялізныя вочы чыстай душы. Расце мастак у чацвёртым пакаленні.

Як і раней, падтрымліваю добрыя сувязі з рознымі галерэямі, з задавальненнем бяру ўдзел у пленэрах, сустракаюся з замежнымі мастакамі. Па работах можна лёгка "прачытаць" душэўны стан творцы. Здараецца, дамінуе чорны, ці чырвоны, ці блакітны. А вось — мкнуць у паветра ружова-чырвоныя цюльпаны, нібыта яркія агні майскага салюта на фоне вячаровага цямнела-сіняга неба. Ці вось — створаная пры дапамозе звычайных кавы ды гарбаты карціна "Мара вегетарыянца". Усё пра нас, пра сябе, пра сёння.

36 — спадзяюся, не апошніх — гадоў. Зноў, паводле ўсталяванай вясновай традыцыі, рыхтуем сваёй жаночай часткай Беларускага саюза мастакоў да 8 сакавіка новую экспазіцыю ў тым самым Палацы. Прыдумала ж, кажуць, калісьці адна нямецкая Роза нам свята. Ну, і хай сабе Роза, ці Настурка, ці Архідэя... — усё пасуе славянам, як нагода для весялосці. Святкуйце з намі! Святкуйце!..

**Ясь КАВАЛЕВІЧ**

***Фота аўтара***

## ПЕРАКЛАДЫ



**Галіна УМЫВАКІНА нарадзілася ў Маскве ў 1946 годзе. Скончыла філалагічны факультэт Варонежскага універсітэта. Член Саюза расійскіх пісьменнікаў. Аўтар пяці паэтычных зборнікаў: "Годовые кольца" (1976 г.), "Прогулка с дочерью" (1983 г.), "Свет моей земли" (1984 г.), "Под небом родины моей» (1987 г.). Вершы для перакладу ўзяты з яе апошняга зборніка "Дочерний календарь" (2005 г.).**

* * *

*Уцякала душа: ратавалася ў прыцемках, бегла,*
*як жабрачка, брыла, як зладзейка, хавалася ў ноч.*
*Наўздагон ёй гучала пракляцце*
*мінулага пекла:*
*змоўкні ты назусім,*
*назусім знікні з воч.*
*Аджывала душа: адлятала ад цела дыханне,*
*паміж ёю і стогнам яе вырастала мяжа:*
*што зрабіў ты са мной,*
*што зрабіў ты са мною, каханы?*
*Ты забыўся, відаць: я твая, я жывая душа?!*

*Ажывала душа: ад пакут акрыяла, нябога,*
*каб імкнуцца бяссонна да новых*
*і светлых вышынь,*
*Каб чакаць, шкадаваць,*
*выбягаць кожны дзень на дарогу...*
*Як ён там без мяне,*
*як ён там без любові маёй, без душы?*

* * *

*Усё было, нібыта сон паганы,*
*бясконцы і незразумелы сон,*
*дзе ўсе аблічны страшныя, з рагамі,*
*а родны твар ніводзін не відзён.*
*Дабро за ліха ўважыць неўспадзеўку*
*са спаленаю памяццю магла,*
*калі сама распуснаю я дзеўкай,*
*а песня — валацужкаю брыла.*
*І рукі, што раней крылялі вольна,*
*мне лепшы сябар звязваў за спіной,*
*і лістапад няўхільны і няўмольны*
*мяне знішчаў дашчэнту зноў і зноў.*
*Крычэла злосць, а слова — слова змоўкла,*
*бо нехта праўду хіжакам прадаў.*
*І мой каханы зноўку, зноўку, зноўку*
*мяне навечна іншым пакідаў.*
*Маё жыццё знікала ў апраметнай,*
*атручваў сэрца неадольны боль,*
*на ўсё гэта глядзела я бязмэтна*
*і не здзіўлялася чамусьці больш.*

* * *

*Кахання лахманы старызніку аддаць*
*і на распыл вятрам пусціць ашмецце болю,*
*улегцы выйсці ў свет, бязмэтна вандраваць,*
*а ўслед хто скажа што — не слухаць болей.*

*Радно жыцця — ужо амаль што парахня,*
*на латцы — латка, разам з плоццю — смецце,*
*Мой Бог, ты на жыццё мяне натхняў —*
*не дай мне знікнуць сёння ў апрамецці!*

*Не, не сябе — шкада свайго жыцця —*
*невыкаханага да дна, сляпога,*
*яно мне шэпча: пачакай, нябога,*
*не пакідай мяне — мо недзе ёсць працяг...*

* * *

*Ў кастрычніцкім дажджы*
*і лес шуміць сасновы,*
*як сто гадоў таму,*
*як і праз сто гадоў...*
*Душа сасмягла — не змагла прамовіць слова,*
*і сорам крочыць звыклаю хадой.*
*Вось-вось і скончыцца яшчэ адно стагоддзе,*
*праз цемру пазірае прапрадзед Авакум:*
*твой лёс перада мной, гаротны мой народзе,*
*ты толькі не дадумай маіх гаротных дум.*
*Зноў дзеляць штукары тут і чыны, і чыншы,*
*у тлуме кірмашоў іх узрастае раць...*
*Каханая зямля! Я не жадаю іншай,*
*тут я жыла спакон, тут лягу паміраць.*

* * *

*Як вы мяне прывыклі павучаць,*
*ва ўсім знаходзіць прыхамаць паэта!..*
*Здаецца вам: магла б я прамаўчаць,*
*ды шчыры верш раскажа ўсё пра гэта.*

*Бо калі верш пакінуць без вачэй,*
*ён вены ўскрые і, як кроў, нястрымна*
*на дол зямны абрынецца, і грымне,*
*і пацячэ ён, як жыццё цячэ.*

* * *

*Захопіць нас у свой палон*
*і сыдзе ў ноч без развітання*
*каханне — наш кароткі сон,*
*нястрымнае, нібы рыданне.*

*Ледзь закранула нас з табой —*
*глядзі: ізноў наўзбоч нясецца,*
*бо неспатольнае, як боль,*
*бо невымоўнае, як сэрца.*

**Пераклаў з рускай мовы Янка ЛАЙКОЎ**

# ТАЯМНІЦЫ
# АНДРЭЯ МУЖЫЛОЎСКАГА

Загадкавасцю і таямнічасцю ў гісторыі беларускай літаратуры ахутана імя Андрэя Мужылоўскага, пратапопа слуцкага і капыльскага. Фактычна не захавалася звестак пра акалічнасці яго жыццёвага шляху, даты яго нараджэння і смерці не высветлены, яго выява не знойдзена. Аднак А. Мужылоўскі вядомы як аўтар выбітных твораў — рэлігійна-філасофскіх палемічных трактатаў у абарону праваслаўя — "Отписа на листь виленских унитовъ" (1616, на старабеларускай мове), а таксама "Антыдотума" ("Супрацьядзя", 1629, на старапольскай мове).

Пісьменнік быў яркай і значнай асобай: пра гэта сведчыць той факт, што ён з'яўляўся кандыдатам на кіеўскую мітраполію (дзеля чаго ўласна ў пачатку 30-х гг. XVII ст. пастрыгся ў іераманахі Кіева-Пячэрскага манастыра, атрымаўшы імя Анатолій).

Мужылоўскі ўдзельнічаў у рэлігійным і палітычным жыцці Рэчы Паспалітай, быў палымяным абаронцам "адзінай грэцкай веры". Асабліва актыўна ён выступаў пасля прыняцця Берасцейскай царкоўнай уніі (1596), якая парушыла не толькі рэлігійнае, але і побытавае жыццё беларускага народа. Тагачаснае грамадства раздзялілася на два "лагеры" — уніяцкі і антыуніяцкі. Гэта быў перыяд глыбокіх змен і кантрастаў, вірлівых падзей якога былі падобныя да заходне-еўрапейскай рэфармацыйнай плыні. Зацятая ідэйная барацьба паміж праваслаўнымі ды уніятамі часта прыводзіла да крывавых сутыкненняў. Тады ж разгарнулася шырокая літаратурная палеміка, удзельнікамі якой былі Іван Вішанскі, Леанід Карповіч, Мялецій Сматрыцкі, Афанасій Філіповіч і іншыя. Далучыўся да яе і Андрэй Мужылоўскі, сапраўдны сын сваёй эпохі — эпохі Барока, асоба надзвычай цікавая, супярэчлівая, эксцэнтрычная і нават схільная да авантурызму (!).

У "Архиве Юго-Западной России" (Кіеў, 1883) змешчаны адметны дакумент, датаваны 23-м верасня 1629 г. Гэта ліст кіеўскага мітрапаліта Іова Барэцкага слуцкаму праваслаўнаму брацтву з нагоды скаргі пратапопа Андрэя Мужылоўскага аб адняцці ў яго вікарыем настаўніцтва ў Спаскай царкве ў Слуцку і аб нядобразычлівым стаўленні да яго членаў брацтва. Мітрапаліт патрабаваў, каб азначаны вікарый быў выдалены брацтвам як парушальнік царкоўных канонаў.

Пазней, у рэляцыі 1631 г., згаданай вядомым украінскім даследчыкам Міхаілам Грушэўскім у "Гісторыі ўкраінскай літаратуры"


ANTIDOTVM,
PRZEZACNEMV NARODOWI RVSKIEMV,
ALBO,
WARVNEK
PRZECIW APOLOGIEY IADEM NAPELNIONEY;
ktorą wydał Melety Smotrzysky, niesłusznie Cerkiew Ruską práwosławną w niey pomawiáiąc Haeresią y Schismą, dla niektorych Scribentow.
W porywczo przygotowány y podány:
PRZEZ
Wielebnego w Cerkwi Ruskiey Oyca
ANDRZEIA MVZYLOWSKIE°,
Protopopę X: Słuckie° y Kopylskie°.
PSALM, CXVIII.
Drukowano w Roku 1629.


Przedmowa.
Przewielebnemu w Chrystusie Oycu y Pánu Je° Mśći Oycu.
IOWOWI BORECKIE°
ZŁASKI BOZEY METROPOLITOWI KIIOWSKIEMV HALICKIE°, &c.
y Przewielebn: w Chrystusie Ich Mśćiom, Oycom Archiepiskopom/ Episkopom/ Archimándritom/ y wszytkiemu Clerowi Cerkwi práwosławney Ruskiey/ wszego blogosłáwieństwá od Chrystusá życzy y winszuie.
Wiadomo iest Wiele: Oycowie wszytkiemu świátu niemal/ iż Apologia wydána od Meletia Smotrzyskie° Polskim diálectem we Lwowie/ dla bledow bedacych w niey Cerkiewnąpowagą wyklęta iest/ y áby w rekach práwowiernych piástowána niebyłá/ toż powagą Cerkiewną zákázano. Cże° wszytkie° nietylko przytomnym Author oney náydował się/ ále ią y sam przeklinał/ palił/ y pod nogi rzucał/ záluiąc y opłákywáiąc złego uczynku swe°/ z ktorych miar opisowáć ná nie żadney potrzeby niebyło: lecz iż mianowány Melety Smotrzysky dla nedzney Intraty y doczesnego żyćia spokoynego/ gdy zwroćił się z Kiiowá do Dermánia/ A tám nieprzypuszczány ... dla

(Кіеў, 1995), іераманах Кіева-Пячэрскай лаўры Анатолій Мужылоўскі, звяртаючыся з данясеннем пра палітычную сітуацыю ў Рэчы Паспалітай да маскоўскага патрыярха, адзначае: "Хаця б я і мусіў быць здраднікам і ворагам сваёй дзяржавы, я да душы болей люблю добрапрыстойнасць, каб яна пашыралася".

На жаль, літаратурная спадчына А. Мужылоўскага айчыннымі даследчыкамі не вывучана. "Антыдотум" не перакладзены на беларускую мову (дый самі адзінкавыя асобнікі твора захоўваюцца за межамі нашай краіны). Некаторыя ўрыўкі тэксту былі надрукаваны па-руску ў 1991 г. у кнізе "Памятники философской мысли Белоруссии".

"Антыдотум" складаецца з прадмовы, 12-ці раздзелаў рознай тэматыкі і "Апендыкса". Кожная частка вызначаецца сэнсавай завершанасцю, хаця яны звязаны і фармальна (напрыклад, у 2-м раздзеле аўтар звяртаецца да чытачоў і просіць згадаць пра змест папярэдняга). Стыль пісьменніка перадаць у перакладзе надзвычай цяжка: "груваткія" сінтаксічныя канструкцыі, складаныя барочныя вобразы, тэасофская тэрміналогія. А. Мужылоўскі выкарыстоўвае фразеалогію, індывідуальна-аўтарскія неалагізмы.

"Антыдотум" быў напісаны як адказ на уніяцкую "Апалогію" Мялеція Смatрыцкага, выдадзеную ў 1628 г. Мужылоўскі ўспрыняў працу свайго паплечніка як "сачыненне, накіраванае супраць праваслаўя", і тут жа стаўся апанентам Сматрыцкага. Па сцвярджэнні С. Голубева ў кнізе "Киевский митрополит П. Могила и его сподвижники" (Кіеў, 1883), 13 жніўня 1628 г. архіерэй Мялецій прыбыў у Міхайлаўскі манастыр на сабор у Кіева-Пячэрскай лаўры, дзе "да яго былі дасланыя саборам чатыры прэсвітэры, на чале якіх быў слуцкі і капыльскі пратапоп Андрэй Мужылоўскі". Дэлегацыя аб'явіла Сматрыцкаму: "Сабор асудзіў тваё сачыненне з галавы да ног, і з першай да апошняй старонкі лічыць яго супраціўным святой веры, нячыстым і блюзнерскім". Сматрыцкаму было прапанавана адмовіцца ад ерэтычнага твора, але той не пагадзіўся, бо лічыў "Апалогію" "цалкам праваслаўнай". Усчалася спрэчка. Але на саборы, дзякуючы ініцыятыве, праяўленай Мужылоўскім, твор Сматрыцкага быў прызнаны адступніцкім і выкляты праваслаўнай царквою: "Слуцкі пратапоп Андрэй Мужылоўскі, выняўшы асобнік "Апалогіі", пачаў яго перагортваць і прачытваць назвы некаторых раздзелаў сачынення <...>, прычым пасля кожнага раздзела, не суадносная з вучэннем праваслаўнай царквы, насмешліва прыгаворваў: "О-го-го! о-го-го! Айцец архіепіскап..." А пасля, загарнуўшы кнігу, сказаў: "Хіба мала тут супраціўнага Царкве і ганебнага для веры праваслаўнай?" "

Як піша ў прадмове да "Антыдотума" А. Мужылоўскі, сам аўтар "Апалогіі" на саборы быў вымушаны адрачыся ад свайго твора: "Дастаткова вядома, Айцове, ці не амаль усяму свету, што "Апалогія" Мялеція Сматрыцкага, выдадзеная польскім дыялектам у Львове, слушна праклята Царквою з-за аблудаў, якімі яна напоўнена. І каб яна сярод прававерных не была ўспешчана, тое ж самае паважнасцю Царквы забаронена. Гэтага ўсяго аўтар яе не толькі быў сведкам, але яе і сам праклінаў, паліў і пад ногі кідаў, шкадуючы і аплакваючы свой злы ўчынак, таму не было ніякай патрэбы на яе ["Апалогію" — **В. Л.**] адказваць. Аднак жа памянёны Мялецій Сматрыцкі дзеля нікчэмнага дабрабыту і дачаснага спакойнага жыцця, як вярнуўся з Кіева да Дэрмані, дзе быў не дапушчаны да рэвакацыі, адступіўся ад яе, адрокшыся пры выклятай "Апалогіі" ад Праваслаўнай Царквы і ад самога сябе. Сама Любоў да Царквы і да бліжняга тады вяла мяне, Праявлебнага ў Богу Айцы, каб я адразу ж паказаў свету недарэчнасць таго Апалагіара, і што слушна яго праца праклята Царквою і да Яе ніякага дачынення мець не можа".

Мужылоўскі жорстка крытыкуе Сматрыцкага ("прашу Вялебнасцей вашых... на таго Апалагіара па вашым абавязку меч духоўны накіраваць, бо ён нікчэмны, і Хрысту, які з вамі, не будзе супрацівіцца, таму што на фальшу і злосці заклаў свой фундамент, хочучы праўду святую адрынуць..."), абвінавачвае яго ў няшчырасці, у матэрыяльнай зацікаўленасці пры пераходзе да уніі, палемізуе з ім па багаслоўскіх пытаннях. Мужылоўскі выступае ў "Антыдотуме" як прапаведнік, тэолаг, філосаф. Твор сведчыць пра высокую адукаванасць аўтара, пра яго абазнанасць у старажытнай і сучаснай яму літаратуры. Вядома, што Мужылоўскі валодаў, акрамя роднай яму старабеларускай, яшчэ царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай, старажытнагрэцкай мовамі. Ён актыўна цытаваў не толькі Біблію, але і працы Айцоў царквы Іаана Залатавуста, Грыгорыя Багаслова, Васілія Кесарыйскага і мн. інш.

"Антыдотум" утрымлівае асобныя рэфармацыйныя і рацыяналістычныя ідэі. Напрыклад, Мужылоўскі піша пра перавагу ўнутранай, духоўнай веры ў параўнанні з верай знешняй, абраднай, раскрывае паказную рэлігійнасць Сматрыцкага, сцвярджае, што "Апалагіару" ніколі не былі ўласцівыя глыбокія ідэйныя і канфесійныя перакананні. Пісьменнік лічыў залішнім і нават немагчымым рацыянальнае богапазнанне: "Праклятыя кожны, хто спадзяецца на людзей <...> А калі верым людзям, таму верым, што яны Боскія справы і навуку Боскую праўдзіва расказваюць". "Пустыя праблемы схаластыкаў" ён супрацьпастаўляў царкоўнай пропаведзі на аснове Святога Пісання.

Асоба Андрэя Мужылоўскага ўнікальная ў гісторыі літаратуры ўсходніх славян. Яго паслядоўнікамі — такімі ж палымянымі абаронцамі праваслаўя — былі пратапоп Авакум і Афанасій Філіповіч.

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ**

Сёлета спаўняецца паўтысячны юбілей роду сусветна вядомага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага. І да гэтай падзеі мае непасрэднае дачыненне вёска Дастоева Іванаўскага раёна, што на Брэстчыне.

Сам Фёдар Міхайлавіч ніколі не бываў на так званай маленькай радзіме продкаў, але ён добра ведаў пра свае карані. Валодаць паселішчам у 1506 годзе стаў яго далёкі прашчур Даніла Рціщчаў, які служыў у свіце князя Фёдара Яраслаўіча і за асабістую мужнасць і адданасць набыў правы на дваранства. Па

## ПАЛЕСКІЯ КАРАНІ ДАСТАЕЎСКАГА

назве вёскі пачало прыжывацца і прозвішча, якое канчаткова замацавалася за Дастаеўскімі з 1572 года.

Цяпер імя ўжо самога раманіста носіць Дастоеўская сярэдняя школа. У яе двары ўзвышаецца помнік знакамітаму «земляку», а ў сценах з 1982 года дзейнічае літаратурна-краязнаўчы музей, большая частка экспазіцыі якога расказвае пра гісторыю славутага роду.

У гэтыя дні ў школе поўным ходам ідзе падрыхтоўка да юбілейных мерапрыемстваў, як расказаў кіраўнік музея, намеснік дырэктара Анатоль Іосіфавіч Бурак. І цэнтрам яе, акумулятарам ідэй і знаходак, несумненна, з'яўляецца сама выстава, дзе сабраны безліч архіўных дакументаў, творы пісьменніка розных год выданняў, яго радавод, і ёсць дыярама і макет маёнтка, які, на жаль, не захаваўся.

Экспазіцыя пастаянна папаўняецца. Мясцовыя следапыты падтрымліваюць цесныя сувязі з маскоўскім музеем-кватэрай Дастаеўскага, Санкт-Пецярбургскай публічнай бібліятэкай Салтыкова-Шчадрына, літаратурным музеем Янкі Купалы ў Мінску, краязнаўцамі Вальні і Польшчы. На сённяшні дзень ім вядомы 370 прадстаўнікоў роду Дастаеўскіх.

І ўвесь гэты скарб служыць новым пакаленням. Штогод залы музея наведваюць прыкладна каля трох тысяч чалавек: сярод іх — госці з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы, Германіі. Тут праводзяцца ўрокі літаратуры, выяўленчага мастацтва, творчыя конкурсы, сустрэчы з сучаснымі паэтамі і празаікамі. Шмат прыемных сюрпрызаў чакае тых, каму пашчасціць стаць удзельнікамі юбілейнага фэсту.

**Валерый КУХАРЧУК**
*Іванаўскі раён*

# БРЭСЦКІ АКВАРЫУМІСТ

***Яшчэ да нядаўняга часу, калі захапленне дэкаратыўнымі рыбкамі мела шырокае распаўсюджванне, аніяк нельга было адшукаць які-небудзь дапаможнік па акварыумістыцы, па вядзенні хатняй рыбнай гаспадаркі. А між тым, яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя такой літаратуры хапала. І найболей дасведчаны аўтар яе — наш зямляк Мікалай Залатніцкі. Але ж пра ўсё па парадку...***

Звестак пра Залатніцкага зусім мала. Дагэтуль няма яго прозвішча ў "Беларускай Энцыклапедыі". Нарадзіўся ж Мікалай Фёдаравіч 13 красавіка 1850 года ў Брэст-Літоўску. З цягам часу да маладога чалавека прыйшло захапленне батанікай, садаводствам, іхтыялогіяй. Мікалай закончыў педагагічнае вучылішча ў Дрэздэне. Затым была вучоба ў 5-й маскоўскай гімназіі. Пасля — на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта.

Спакваля Залатніцкі становіцца яркім і талковым прапагандыстам акварыумаў у Расіі. У 1904 годзе вучоны выдае ў Маскве кнігу "Акварыум аматара". А ў 1906-м — "Школьны акварыум і тэрарыум". У свой час набыла вядомасць і кніга Мікалая Залатніцкага "Наш садовыя кветкі, гароднiна і плады" (выдадзена ў 1911 годзе). Шмат друкаваўся ён у такіх выданнях, як «Сад и огород», «Природа и охота», «Московские ведомости», «Естествознание и география», «Нива», «Родник», «Аквариум и комнатные растения», «Природа и люди», у замежных прыродазнаўчых часопісах.

...Дарэчы, пра "Беларускую Энцыклапедыю"... Усё ж трэба аддаць даніну павагі выдавецтву ў справе ўшанавання памяці М.Ф.Залатніцкага. У 1994 годзе ў "БелЭн" пабачыла свет рэпрынтнае выданне кнігі брэсцкага натураліста "Цветы в легендах и преданиях" ( узноўлена па кнізе 1913 года — упершыню пабачыла свет ў Санкт-Пецярбургу). Між іншым, сучасны тыраж выдання склаў 50 тысяч экземпляраў! І кніга разышлася, знайшла свайго чытача. За што і застаецца толькі падзякаваць беларускім энцыклапедыстам. Як, дарэчы, і паспадзявацца, што імя Залатніцкага будзе ўшанавана ў адным з будучых выданняў "Беларускай Энцыклапедыі".

А што да ўзнаўлення, перавыдання кніг М. Залатніцкага, то, магчыма, хто-небудзь зверне ўвагу на такія яго работы, як "Наш садик", «Детский аквариум», «Новые аквариумные рыбы и растения». Паверце, паважаныя выдаўцы, чытач выкажа вам толькі ўдзячнасць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

***Прафесія мадэльера з кожным годам набывае ўсё большую папулярнасць. Збываюцца, здавалася б, самыя "ружовыя" мары. Айчынныя майстры прыгожага адзення імкліва заваёўваюць вяршыні моднага Парнаса. Апошняй "ахвярай" нашых дызайнераў стаў Рым. Акадэмія касцюма і моды "вечнага горада" адзначыла трох беларусаў, якія ў бліжэйшай будучыні пройдуць стажыроўку ў самых прэстыжных салонах Італіі.***

***Між тым, выраз "беларуская мода" ў большасці маіх знаёмых выклікае скептычную ўсмешку. Маўляў, першы раз чуем! Няўжо пры такой вядомасці па-за межамі краіны нашыя дызайнеры не могуць задаволіць патрэб уласнага спажыўца? З мэтай разабрацца ў гэтым парадоксе я і выправілася ў сталічныя магазіны.***





# Парадоксы беларускай моды

## Але ж і цэны — "эксклюзіўныя"!

"Беларускаму цэнтру моды" больш за паўстагоддзя. Сёння гэта адна з вядучых арганізацый па выпуску і мадэліраванні жаночага і мужчынскага адзення, дзе выконваюцца заказы ад шэрагу беларускіх, расійскіх, еўрапейскіх прадпрыемстваў. Фірменны буцік "Цэнтра..." складаецца з двух аддзелаў: эксклюзіўнага і "звычайнага". Адзенне ўражвае і там, і там. Зрэшты, цэны таксама. Як патлумачыла прадавец-кансультант Наталля, кліентуру іх магазіна складаюць у асноўным людзі сярэдняга ўзросту. Моладзь актывізуецца бліжэй да лета, калі назіраецца "пік" падрыхтоўкі да выпускных баляў. Тканіна — толькі натуральная. Плануецца адкрыць галерэю льну.

Паблукаўшы крыху па залах, паўздыхаўшы над упадабанымі строямі, падалася да выхаду. Без бацькавай зарплаты рабіць тут няма чаго. На сваю стыпендыю я здолею прыдбаць бадай што толькі шалік. Затое якраз пад колер маіх вачэй. Дый сяброўкі, пэўна, зойдуцца ад зайздрасці.

Зразумела, скардзіцца на занадта высокія цэны ў буціках — справа няўдзячная. Тым больш, што "Chic" далёка не самы дарагі з іх. Асабліва калі ўлічваць тое, што ў асартыменце прадстаўлены аўтарскія працы (часта ў адзінкавым экземпляры). Безумоўная выгода — якасць прапанаванага тавару, якую забяспечваюць эксклюзіўныя тканіны з Францыі і Італіі. Хутчэй за ўсё, менавіта з-за выкарыстання замежнай сыравіны павялічваецца колькасць нулёў на цэнніках.

— Прадукцыі нашых фабрык пакуль бракуе практычнасці, — пабедавалі ў "Беларускім цэнтры моды". — А мы павінны падтрымліваць сваё добрае імя.

Не дзіўна, што асноўная маса наведвальнікаў — пастаянныя кліенты. Пры гэтым дастаткова забяспечаныя матэрыяльна. Астатнія пакуль знаёмяцца з "беларускай модай ад куцюр" выключна па вітрынах і чакаюць сезоннага распродажу.

## Пра рэкламу, інтэр'ер і выгадных канкурэнтаў

Не меншую цікавасць выклікае і адзенне для заняткаў спортам.

— Што прапаноўваюць беларускія вытворцы аматарам здаровага ладу жыцця?— каб адказаць на гэтае пытанне, зазірнула ў першыя, што патрапілі мне "Спорттавары".

Не скажу, каб убачанае асабліва ўражвала. Касцюмы дастаткова сціплыя, без дызайнерскіх "наваротаў". Цэны, адпаведна, дэмакратычныя. На бірках — назвы айчынных прадпрыемстваў. А праз дарогу — шырока разрэкламаваны "СпортМайстар"...

— Прадукцыя айчынных прадпрыемстваў складае больш як 72 працэнты ад прапанаванага асартыменту, — паведаміла дырэктар магазіна "Спорттавары" Наталля Качура. — Адзенне толькі самай высокай якасці. А што датычыць "раскручанага" канкурэнта пад бокам, то такое суседства нам не толькі не замінае, але і карысць прыносіць. На фоне іх цэн мы выглядаем вельмі прывабна.

Сапраўды, каб апранацца ў "СпортМайстры" добры партманет патрэбны. Чалавеку з сярэднімі заробкамі альбо студэнту такія кошты яўна не па кішэні. Кофтачка-"іншаземка" пацягнула на дзве мае стыпендыі. Заўважу, нічога адметнага, акрамя цаны, у ёй няма. А, між тым, наведвальнікаў тут прыкметна больш, чым у краме праз дарогу. Што ні кажы, а рэклама — страшная сіла. Эмблема "СпортМайстра" ўжо неаднаразова ўзнікала на экранах. У той час як ЗАТ "Інтэрпартнёр", якому належаць "Спорттавары", толькі плануе адкрыць сваю старонку ў сусветным сеціве і пачаць выпуск рэкламных буклетаў.



Немалую ролю ў справе прывабліваня пакупнікоў адыгрывае, як ні дзіўна, і размяшчэнне тавара:

— Адзенне развешваем такім чынам, каб утварыць адметную каляровую гаму. Стараемся як мага часцей пераапранаць манекенаў. Глядзіш — і гандлёвая зала прыкметна ажывілася, — адкрыла некаторыя прафесійныя сакрэты дырэктар аднаго са сталічных буцікоў.

Але ў большасці з агульнадаступных магазінаў інтэр'ру надаецца не так шмат увагі. Між тым, граматнае афармленне прылаўка — гэткая ж важная справа, як і вызначэнне цанавой палітыкі. Прадстаўленне тавару ў найбольш выгадным свеце прыкметна павялічвае попыт. А вось стандартнае размяшчэнне "па памерах" не заўсёды спрыяе гэтаму.

## Не трэба баяцца!

Згодна інфармацыі, прадастаўленай Галоўным упраўленнем спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, у сталіцы дзейнічае разгалінаваная сетка магазінаў, якія гандлююць прадукцыяй айчынных прадпрыемстваў. Сярод іх ужо дастаткова вядомыя "Мілавіца" і "Элема". Трыкатажныя вырабы можна набыць у фірменных салонах пінскага ААТ "Палессе" і жодзінскага ААТ "Світанак". Галаўныя ўборы прапануе "Людміла".

Усталяваннем расцэнак займаецца Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь. Усё адзенне, за выключэннем дзіцячага, уваходзіць у пералік тавараў, да якіх гандлёвыя надбаўкі прымяняюцца з улікам кан'юнктуры рынку. Адметна, што ў дачыненні да прадукцыі з нацыянальнай сімволікай яны не павінны перавышаць 15 працэнтаў. Адпускныя цэны на тавары замежнага паходжання, прызначаныя для непасрэднага ўжывання грамадзянамі, фарміруюцца адпаведна Пастанове № 43 ад 22 красавіка 1999 года зноў-такі з улікам сітуацыі ў рынкавай прасторы.

Сапраўды, колькасць фірменных магазінаў, у якіх можна адшукаць айчыннае адзенне па даступных цэнах паступова павялічваецца. Некаторыя брэнды ўжо даўно на слыху. Астатнія пакуль толькі шукаюць свой шлях да пакупніка. Салон-магазін "Нелва" размешчаны ў цэнтры горада. Належыць ён Брэсцкай швейнай фабрыцы, але ў гэтае ніхто з наведвальнікаў не можа паверыць. Маё здзіўленне не толькі не пакрыўдзіла, але і добра павесяліла прадаўца-кансультанта Святлану:

— Вы не першая, хто задае такое пытанне. Стыльны дызайн нашага салона, моднае адзенне многіх уводзяць у зман. З першага разу і не вызначыш, што мы гандлюем менавіта айчыннай прадукцыяй.

Парадаксальнае становішча беларускіх буцікоў адзначыла і дырэктар магазіна "Bugalux" Ірына Фандо:

— Калі моладзь дастаткова смела заходзіць у незнаёмы салон, то людзі старэйшага ўзросту... баяцца. Маўляў, тамтэйшыя цэны нам не па кішэні. Але ж на справе ўсё наадварот! Сярод нашых пакупнікоў і студэнты, і пенсіянеры —незадаволеных няма.

Па ўсім відаць, праблема зноў-такі ў недастатковай разрэкламаванасці. Па словах Ірыны Францаўны, найбольш дзейсным сродкам у гэтых адносінах з'яўляюцца аб'явы, размешчаныя ў метро. Тэлебачанне — пакуль недапушчальная раскоша. Па сутнасці, замежныя вытворцы не могуць скласці нашым салонам вартай канкурэнцыі. Пакупнік з параўнальна невялікімі заробкамі ніколі не пойдзе ў шыкоўны буцік. Ён хутчэй накіруецца на рынак альбо ў буйныя сталічныя універмагі, якія, дарэчы, працуюць у асноўным толькі з айчыннымі пастаўшчыкамі.

Беларускае адзенне нічым не саступае замежнаму. Якасць тканіны і дызайн выканання знаходзяцца на еўрапейскім узроўні. Дый цэнамі ў фірменных крамах нікога не напалохаеш. Шкада толькі, што патэнцыяльныя пакупнікі часам не здагадваюцца пра іх існаванне.

**Святлана САЎКО**

***Фота аўтара***



**З Міхаілам САЎЧЫКАМ, старшынёй Мазырскага райвыканкама, я знаёмы з таго часу, калі ён узначальваў калгас “Радзіма”. Землі гэтай гаспадаркі — прыгарад Мазыра. Добрую частку іх неўзабаве акружылі новыя жыллёвыя кварталы. Хаця зусім нядаўна тут шапацела каласамі жыта, зацвітаў блакітам лён.**

# ЧАРНОБЫЛЬ У СЭРЦЫ

Добра памятаю, што яшчэ тады Міхаіл Уладзіміравіч выказаў думку: каб сяло ні ў чым не ўступала гораду, яму патрэбны добрыя дарогі, кватэры з усімі выгодамі, высокія заробкі ў калгаснікаў... Гэта была яго мара. Ён сам — паляшук. Родная вёска Майсееўка ў двух дзесятках кіламетраў ад Мазыра. Ягоная маці, Арына Акімаўна, сама выгадавала сына. Вядома хлапчуку давялося змалку паспытаць усяго. Думка аб сваім доме, утульным і прасторным, нарадзілася, мабыць, яшчэ ў маленстве. Як толькі вызвалілі Палессе, гэтая вёска пачала адраджацца. Міхась Саўчык ужо хадзіў у школу, бачыў, як закладваюцца падмуркі новых хат, і не мог дачакацца той пары, калі падрасце і зможа сваімі рукамі збудаваць сабе дом. А разлічваў толькі на сябе.

З вёскай, сельскай гаспадаркай, роднай зямлёй звязана ўсё яго жыццё. Не, не адразу пачуў ён голас свайго краю, які паклікаў яго да сябе, даў знаць, што без такіх вось як ён, Міхась Саўчык, палескай зямлі не адрадзіцца ад цяжкіх ран вайны, не набрацца сілы.

— Хлапчуком я ўвесь час хацеў стаць ваенным лётчыкам, — гаворыць Міхаіл Уладзіміравіч. — Усе мае равеснікі чамусьці марылі не аб рабоце на зямлі, а аб нейкай далёкай рамантыцы. З чаго б гэта? — пытаецца ён не то ў мяне, не то яшчэ ў каго, разважаючы з пазіцый сённяшняга дня. — Мабыць, таму нас адольвалі думкі аб рамантыцы дзесьці на краі свету, што жыццю нашаму ніхто не зайздросціў: беднасць, галеча. Усім нам хацелася чагосьці іншага. Але ўяўлялася яно нам толькі не дома...

Старшынёю Мазырскага райвыканкама ён стаў чатырнаццаць гадоў таму. Да гэтага ўзначальваў “Радзіму”. А яшчэ трохі раней быў галоўным аграномам райсельгасупраўлення, аграномам калгаса ў пасёлку “Крынічны”.

— Не хацеў пакідаць “Радзіму”, — згадвае Саўчык. — Я шмат зрабіў для таго, каб гэтая гаспадарка выйшла наперад. Ужо ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя ўраджайнасць збожжавых дасягала тут 40 цэнтнераў з гектара, бульбы накопвалі па 400 цэнтнераў, кожная карова давала па 4500 кілаграмаў малака. Цэнтр гаспадаркі — вёска Козенкі — ужо забудоўвалася адна- і двухпавярховымі дамамі з усімі выгодамі. Адным словам, перспектывы адкрываліся зайздросныя...

Міхаіл Уладзіміравіч іншы раз сам садзіцца за руль — і айда па раёне. Бо важна сваімі вачыма пабачыць, у якім стане азімае жыта, які парадак на фермах, мехдварах...

— Чаму ўсё ж пакінулі пасаду старшыні ў “Радзіме” і пайшлі ў райвыканкам? — вяртаю Саўчыка да пачатай і нясконачанай размовы.

— Усё надта проста, — чую ў адказ. — Ранейшыя кіраўнікі раёна былі заўсёды не з тутэйшых: іх прысылалі, навязвалі... Хіба яны дбалі аб нашых клопатах? Ім абы выслужыцца перад вышэйшым начальствам. Дзеля чаго? Дзеля кар’еры, цёпленькай, хлебнай пасады, узнагарод. Нядобра мяне ўразіла, як некаторыя з ранейшых кіраўнікоў расправіліся, інакш не скажаш, з прыродай. Каля Забалацця, напрыклад, было ўрочышча Астроўкі. Запаведны, райскі куточак, дзе шумеў дубовы гай, раслі ясень, бук, граб, арэшнікавыя кусты, вадзіліся рэдкія звяры, птушкі... Не пашкадавалі тады гэты прывабны куточак, не зберaглі для наступных пакаленняў, а пусцілі пад нож: рэліктавы лес спілавалі да апошняга дрэўца і парабілі на тым месцы палі. Канечне, і палеткі патрэбны, але ж глуміцца над прыродай!.. Калі цяпер іншы раз прыязджаю ў Забалацце і гляджу ў той бок, то бачу, здаецца, пустыню, і мяне заўсёды агортваюць невясёлыя думкі.

Як бы падводзячы вынікі размовы, Саўчык дадаў:

— Калі на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя паўстала пытанне аб выбары старшыні райвыканкама — главы адміністрацыі — вылучэнні на гэтую пасаду маёй кандыдатуры, я моцна задумаўся. З аднаго боку правільна — кожнаму трэба расці: расці ў сваёй прафесіі, справе, за якую ўзяўся. Але ж час які быў! Пасля “перабудовы” давялося пачынаць ці не з нуля. Задумаўся яшчэ і вось чаго: хіба раней, пры ранейшых парадках, мяне вылучылі б? Зноў бы прыслалі каго-небудзь. Мае хістанні-ваганні заўважылі члены райвыканкама і па-сяброўску, па-чалавечы заначылі: “Трэба ж, — нарэшце, каб на чале раёна стаў свой чалавек, паляшук, які тут нарадзіўся, які любіць свой край, добра ведае людзей, неабыякавы да людскога болю”. Што мог сказаць супраць гэтага? Даў згоду.

Мы з маім героем пераязджаем на машыне невялікі мост праз вузкую рэчку, якая бяжыць-губляецца між палёў і ўзлескаў. Збоку ад моста на слупку — шыльда са словамі: “Каля рэчкі Турок стаіць вёска Прудок”. Зразумела нам стала, што гэтыя зарыфмаваныя радкі належаць некаму з мясцовых паэтаў, з якім неўзабаве і пазнаёміліся. Раіса Мазгова — старшыня Прудкоўскага сельсавета. Падчас кароткай размовы яна паспявае расказаць пра кола сваіх абавязкаў.

— Бачыце, які дагледжаны скверык па-над ракой, танцпляцоўка, кафэ? — кажа Раіса Рыгораўна. — Прудок — вёска добраўпарадкаваная, сучасная.

Што ж, жыхарам Прудка пашэнціла мець такога вось сельсавецкага старшыню-паэта. У яе, відаць, шчырая, светлая душа, а раз так, то хіба яна можа зрабіць нешта такое, што супраць волі людзей?

— А яшчэ размешчана тут гатункова-насенная станцыя, — ледзь толькі выехалі на ўскрай вёскі, гаворыць Саўчык. — Без высокіх тэхналогій, глыбокай перапрацоўкі, ашчадным захоўванні прадукцыі і яе рэалізацыі хіба мы дасягнулі б нечага? Прудок — тое месца, дзе нараджаюцца высокія тэхналогіі.

Мы спыняемся каля вялікага засеянага поля. Хоць вясна, у якую мне выпала сустрэцца з Міхаілам Уладзіміравічам была запозненая, але ўсходы на ім — густыя, бачна, як па зялёнай збажыне прабягае хвалямі вецер. Верылася: тут вырасце добры ўраджай!



Помню час, калі вясною, у паводку, балоты распускала так, што маё Забалацце здавалася невялікім астраўком у гэтым бясконцым акіяне вады. Прыпяць таксама выходзіла з берагоў, затапляла блізкія лугі, пашы і не магла ўвайсці ў сваё рэчышча да сярэдзіны лета. Не праехаць, ні прайсці ў лес, на поле, на шлях, што звязваў вёску з белым светам. Тады часта можна было пачуць размовы аб асушэнні, аб меліярацыі. Усім хацелася хутчэй пазбавіцца вады, каб былі добрыя дарогі, каб можна было прайсці на сенакос, не баючыся, што правалішся ў дрыгву. Праўда, падчас гэтых размоў кожны паляшук сумняваўся: а што будзе з птушыным светам? Балоты ж — не толькі бясконцыя зараснікі лазы ды асакі. Гэта ж і кулікі, жураўы, дзікія гусі, казадоі... У балотных ямінах ды канавах поўна рыбы. Што з імі будзе, калі не стане вялікай вады? Дый лес хіба выжыве?

Не дарэмнымі былі тыя апасенні! Меліярацыя, праведзеная на Палессі ў 70—80-ыя гады мінулага стагоддзя, змяніла гэты край да непазнавальнасці. Змяніла, на жаль, не ў лепшы бок. Так, палёў і пашаў стала болей. Але куды падзеліся балотнае птаства, рыба, грыбы, лясныя валокі, якія раней заўсёды радавалі чалавека? Не стала балотаў — перамяніўся клімат, перайначыўся свет палешука.

Калі вялася меліярацыя, Міхаіл Саўчык кіраваў “Радзімай”. У той час не раз сустракаўся з ім і добра памятаю яго абурэнне непрадуманымі крокамі асушальнікаў.

— Да чаго дадумаліся, — з гневам зазначаў ён. — Хацелі адрэзаць ад Прыпяці яе прытокі — Іпу, Убарць, Чарцень, іншыя маленькія рачулкі. Зрабіць гэта — тое самае, што перарэзаць чалавеку вены.

Прызнацца — адразу і не сцяміў: як гэта можна было адрэзаць прытокі? Убачыўшы маё недаўменне, Міхаіл Уладзіміравіч растлумачыў:

— Ёсць такое паняцце ў меліяратараў: польдэрная сістэма. Гэта азначае, што вада рэчак не сплывае, а застаецца на месцы, каб утварыўся замкнуты цыкл. Словам, на ўсіх малых рэчках Палесся гора-меліяратары хацелі ставіць дамбы. Да чаго б гэта прывяло? Пэўна ж, што нічога добрага такія дзікунскія метады асушэння не прынеслі б. Супраць гэтага паўсталі тыя, каму лёс роднага краю неабыякавы. Мы адстаялі Іпу, Убарць, Чарцень, Мытву...

Шмат шкоды нарабіў чалавек, дбаючы толькі аб сённяшнім дні... Аб гэтым я мяркую па сваім Забалацці, дзе на месцы былой рэліктавай пушчы гуляюць сёння ветравеі.

Але пасля спусташальнай меліярацыі, бяздумных высечак лесу ўсе задумаліся: куды ж мы ідзём? Што пакінем сваім нашчадкам?

Яшчэ ў тыя часы, калі Міхаіл Саўчык быў старшынёю “Радзімы”, я разважаў: чаму ён так дбайна пра ўсё клапоціцца?

— Ведаеш, якая прывычка ў нашых механізатараў? Адпрацаванае масла зліць на зямлю, стары маслафільтр кінуць у канаву, бензінавыя памыі зноў жа выліць на глебу... І гэта ўжо стала для іх звыклым. Каму тлумачыў, а з дужа ўпартых і спаганяў за гэта — інакш нельга было.

Слухаў яго ўважліва і адчуваў: тое, аб чым ён гаварыў, хвалявала Саўчыка, не было другарадным, міма чаго ён мог спакойна прайсці і не заўважыць.

— Так, усё так, — працягваў старшыня райвыканкама аповед пра тое, як даводзілася яму прывучаць людзей па-іншаму зірнуць на жыццё, на акаляючае асяроддзе — позіркам гаспадара і вачыма сваіх дзяцей і ўнукаў. Бо тое, што мы сёння робім з прыродай, вынікі нашай нядбайнасці? — папракалі мяне некаторыя з тых, каго ўшчуваў. Вунь яе колькі! Адкуль у людзей гэтакая абыякавасць — вось чаго не магу зразумець? Пэўна, мы самі, а мо і наша ранейшая дзяржаўная сістэма, вінаватыя ў тым, што экалогіі ўдзялялі надта мала ўвагі. Мы жылі ў Савецкім Саюзе з яго бясконцымі прасторамі, дзе ўсяго хапала — нафты, вугалю, газу, золата... Мабыць, адтуль недаравальная філасофія нашай нястрыманасці ва ўсім. Але ж цяпер... Цяпер Беларусь — самастойная дзяржава, а дасягнуць нечага зможам тады, калі будзем ашчаднымі і навучымся ўзважваць кожны свой крок — як у вялікім, так і ў малым.

Гаворачы пра зямлю, пра дбайныя да яе адносіны, Саўчык не раз згадваў пра тое, што прыгарадныя, каля Мазыра, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы якраз найболей і церпяць з-за малазямелля.

— За апошнія гады Мазыр разросся, паўстаюць новыя мікрараёны, і менавіта там, дзе яшчэ ўчора мы сеялі грэчку, авёс, лубін, — кажа ён. — Больш за ўсё страцілі свае землі “Радзіма”, СВК “Тварычаўка”, саўгас-камбінат “Зара”.

Толькі з “Радзімы” пад аб’екты прамысловасці і жыллёвае будаўніцтва выведзена з севаабароту амаль 800 гектараў зямлі.

Зямля... З гэтым словам звязаны не толькі наш сённяшні дзень. У ім спрасаваны стагоддзі, лёс нашых продкаў. Колькі за яе праліта крыві, колькі на ёй пакладзена працы! Колькі яна, гэтая зямля, увабрала ў сябе людскіх спадзяванняў. Спрадвеку яна была карміцелькай. Без яе мы аніхто. На ёй Чалавек адчуе сябе Чалавекам, Гаспадаром, спазнае жыццё, робіць сябе і гэтае жыццё больш шчаслівым.

Чалавек даўно зразумеў, што зямля — неацэннае багацце, да якога трэба ставіцца з душой, з асцярогай, з беражлівасцю. Шкада толькі, што гэтае разуменне падчас саступае дарогу прагматызму.

Тое, што гарады забіраюць у чалавека лепшыя кавалкі зямлі, — бязлітасная праўда нашых дзён. І ўсё ж Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка звярнуў на гэта сваю ўвагу і неаднойчы выказваў заклапочанасць тым, што ўрадлівыя землі часам без асаблівай на тое патрэбы займаюцца жыллём, прамысловымі аб’ектамі. Можа, гэтая прэзідэнцкая перасцярога паўплывае на непамерныя апетыты тых, хто плануе развіццё гарадоў.

А хіба мала адняў ад нас, беларусаў, Чарнобыль? Хіба мы не чулі, не ведаем пра трыццацікіламетровую зону адчужэння, пра адселеныя, пахаваныя, закапаныя ў зямлю вёскі?

Не мінуў Чарнобыль і Мазыршчыну. Можа, не так востра і балюча ён адчуваецца тут, як у іншых раёнах Гомельшчыны, але сляды гэтай катастрофы ёсць і будуць заставацца яшчэ даволі доўга.

Добра помню, што недзе адразу пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС я сустрэўся з Міхаілам Саўчыкам.

— Хаваюць ад нас улады сапраўдную карціну таго, што адбылося, — скардзіўся Міхаіл Уладзіміравіч. — Запэўніваюць, што ўсё быццам бы нармальна, Мазыршчыну, маўляў, бяда абышла бокам. Каб жа...

Многія тады кінулі работу, селішча, сабралі такія-сякія манаткі — і ў свет. Хтосьці накіраваўся на Камчатку, на Поўнач, на Далёкі Усход, у Цюмень... Балазе, тады быў Савецкі Саюз з яго бясконцымі прасторамі, дзе ўсюды мелася работа. Чалавек дваццаць пакінулі тады і “Радзіму” — можа, адны з самых лепшых, працавітых, так патрэбных на гэтай зямлі.

Наведваючы сваё роднае Забалацце, добра бачу, што Чарнобыль не мінуў і яго. Маёй вёсцы не так дасталося, як тым паселішчам, што знаходзяцца ў трыццацікіламетровай зоне, але ўсё ж дасталося. І ў Забалацці ў першыя паслячарнобыльскія гады “перабралася” на пагост нямала даволі яшчэ не старых мужчын і жанчын. Сярод іх механізатары, паляводы, пастухі. На галаўны боль, недамаганне, боль у нагах тут скардзяцца амаль усе. Ідуць касяком ракавыя захворванні горла, крыві, скуры, страўніка...

І ўсё ж паціху ды памалу жыццё бярэ верх і над чарнобыльскай бядой. Тыя, хто застаўся на сваіх селішчах, прызвычаіліся, прывыклі, непрыкметна адаптаваліся да праклятых стронцыю і цэзію, якімі асыпана маё Палессе.

— Восемдзесят працэнтаў тэрыторыі раёна забруджана радыёнуклідамі, — гаворыць Міхаіл Саўчык. — Дзе больш, дзе менш. Але людзі на гэтай тэрыторыі жывуць, нараджаюць дзяцей, вырошчваюць хлеб. Можа, таму з зоны адсялення на Мазыршчыну перабралася больш пяцісот сем’яў ужо ў першыя паслячарнобыльскія гады. Дарэчы, пабудавалі восем пасёлкаў. Будаўніцтва жылля вялося як для перасяленцаў, так і для тых, каго адсялялі з зоны Мазырскага прамысловага вузла.

— У канцы васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя будаўніцтва вялося з размахам, з перспектывай, — зазначае Міхаіл Уладзіміравіч. — Нафтаперапрацоўчы завод прымусіў жыхароў вёсак Міхалкі перасяліцца на новае месца. Побач, у Крынічным, у Рудні Міхалкаўскай былі ўзведзены добраўпарадкаваныя катэджы — амаль восем соцень. Адначасова жылыя масівы выраслі ў Махнавічах, Млешкавічах, Каменцы і інш., што дазволіла вырашыць праблему з кадрамі.

— Чарнобыль яшчэ доўга будзе стукацца ў нашыя сэрцы, — падводзіць рысу пад гэтай тэмай Міхаіл Уладзіміравіч. — Мы робім усё магчымае, каб жыхары Палесся маглі, як і раней, спакойна і свабодна жыць на зямлі сваіх продкаў, каб не баяліся ні за сваю будучыню, ні за лёс дзяцей і ўнукаў.

**Іван КАПЫЛОВІЧ**

# КАШТОЎНАЯ ШКАТУЛКА

Можа, мне і не давялося б узяцца за гэты артыкул, калі б не адна акалічнасць: на сустрэчы з дзецьмі ў дзіцячай бібліятэцы адзін хлапчук спытаўся ў мяне:

— А вы ведаеце Андрэя Федарэнку?

— Ведаю. А што?

— Вось ён! — паказваючы жоўтую кніжку, сказаў хлапчук.

— Спадабалася? Пра што ў ёй?

— Ну, як Валік, Цім выратавалі дзядзьку...

Гэтае "ну, як..." мяне ўразіла, і пачалася мая экскурсія па кнізе...

Вядома, што ў кожным пакаленні аматараў прыгод і фантастыкі знойдуцца тыя, каго прынаджвае загадкавы клад, пакручасты ход падзей. Аўтар дапамагае чытачу разабрацца ў складанай фабульнасці твора: "Нічога дзіўнага, дарагія чытачы, калі вы не адразу разгадалі, што малайцаваты гаманкі доктар з Падольскага шпіталя і сухенькі, жыццём пакамечаны дзядок, якога вазіў у сваю леснічоўку Крушынскі, — адзін і той чалавек".

Чытач ідзе з букетам прыгожых слоў, "дзе раслі салодкія дубцы лазы, маладога асінніку, трапляліся нават дзікія яблынькі". Тут прырода, як цыганка — просіць пазалаціць руку, і аўтар не адмаўляе: кладзе залацінкі на далоню чытача: "Малады месяц не стаў чакаць, пакуль сонца схаваецца ўсё. Выскачыў раней часу, застыў на другім баку неба. Так яны віселі: палова чырвонага сонца на захадзе і бледны ад уласнай смеласці разгублены кружок месяца на ўсходзе". Сонца і Месяц — два полюсы нашага існавання. Дзень і Ноч! "Мы ўсе зачатыя ў начы", — запэўніў Уладзімір Жылка.

Разважанні Ціма і ясны розум Валіка афарбаваны нацыянальным патрыятычным каларытам: "Вось ты, Валік, вучышся на "выдатна". Гэта значыць, што ў Вялікай Паляне (вёска Валіка і Ціма — **М.Б.**) ты пасля школы не застанешся. Усе з'язджаюць і ты паедзеш. Але я застануся тут! Я ніколі, ні за якія залатыя горы не прамяняю ўчарашняга нашага кар'ера і стану гаспадаром тут. Усё гэта маё. Я люблю гэтую зямлю. Яна не здаецца мне бяднейшаю за землі заморскія".

Аўтар схіляе чытача да роздуму над вечнай тэмай адносін паміж людзьмі. Адсутнасць іх вядзе да адасобленасці натуры, няўпэўненасці, псіхічнага і духоўнага збяднення, і ўрэшце, — да матэрыяльнага.

Аповесць паказвае сапраўднага героя, які інтуітыўна адпрэчвае асабістыя выгоды: "Крушынскі разгублена азірнуўся. Вакол быў глухі лес. Спачатку мільганула думка — завярнуцца і ўцячы. Не ўблытвацца ні ўва што! Мала яму было прыгод на вяку! А рукі тым часам не слухаліся гэтых подленькіх довадаў мозгу, а ўсё рабілі сваю работу".

Героі аповесці ўзяты з сённяшняга часу, яны дзейныя, смелыя. А. Федарэнка не акцэнтуе ўвагу чытача на афганскай загартоўцы Крушынскага, не выстаўляе яго манекенам, рафінаваным "атожылкам" з мерседэсам і мабільнікам, а паказвае звычайнага жыццятворчага чалавека, які жыве дзеля дабра і выратоўвае дабро: "Трэба проста менш думаць, а рабіць тое, што рабіў бы ў гэтым выпадку на яго месцы любы нармальны чалавек". Юны чытач верыць Валіку, Ціму, Крушынскаму, бо на іх прыкладзе вучыцца, як пазбегнуць страху і болю перад праўдай жыцця. Але тая праўда, якую хочуць бачыць героі аповесці, не заўсёды стасуецца з нашай рэчаіснасцю.




Калаж
В. Калініна

Андрэй Федарэнка — малады пісьменнік. Але ён не працуе над тэкстам, а творыць. Працаваць можна на зямлі, на будоўлі. Творца ж павінен адчуваць, непакоіцца, радавацца, плакаць, верыць сваёй фантазіі, каб усё гэта затым пераўтварыць у вобразы. Бо сіла кожнага пісьменніка ў сіле вобраза. Помніцца, адзін знаёмы казаў: вось чытаў я Мележа, дзе ён апісвае салому, ды так хораша, узнёсла, здаецца, сам яе еў бы.

У аповесці А. Федарэнкі я натрапіў на ёмістыя вобразы: "А вось яны — у мокрым снезе, які, дарэчы, пачынаў падшэрхваць, а гэта значыць сляды, нібы ў гіпс закутыя, надоўга захаваюцца". І кожны чалавек пакідае сляды, з якіх складаецца мазаіка яго жыцця і жыцця наступнікаў. Нашы бацькі — працяг прадзедаў, нашы дзеці — працяг краіны.

Кожны літаратурны твор павінен утрымліваць выхаваўчы элемент. А. Федарэнка фарміруе маральныя арыенціры сваіх герояў, іх памкненні, іх думкі. Бо нашы думкі ўздзейнічаюць на нашу будучыню, на будучыню нашых нашчадкаў. "Афганская шкатулка" вучыць падлетка быць высакародным, шчырым, разумным, як паветра, вада і зямля. Яшчэ К. Кастанеда сцвярджаў: "Кожны кусцік, кожны каменчык — пад тваёй аховай. Беражы яго, і ўсё будзе служыць табе". Моладзь жыве будучым: школа, вучоба, сям'я, старасць — унукамі, успамінамі. І задача нашага грамадства — не перагружаць дзяцей непатрэбнымі ведамі, а падтрымаць іх самарэалізацыю і самараскрыццё. У аповесці, дзе аўтар шмат увагі надае станоўчым героям, няма ніводнага намёку на будучыню падлеткаў. Кожны ж пісьменнік павінен быць крыху Настрадамусам. Варта пазбягаць такіх ускладнёных, цяжка ўспрымальных выразаў, як "гіпсавая прыгажосць", "хліпкі горад"...

Усё мінае. Пройдуць, знікнуць і дробязныя стылёвыя хібы. Талент не вымяраецца часам, патрачаным на напісанне твора, а здольнасцю гадаваць і выхоўваць моладзь на веры, дабрыні і розуме.

**Мікола БУСЬКО**

# Анкеты

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)

ша "русіца". Але ж тады ва ўсёй школе быў адзін хлопчык, які рос без маці, і ўсе пра гэта ведалі. Ды і я ведала. А перад 8 сакавіка ледзьве не забылася, што ў тым класе нешта іншае трэба прыдумаць, а не сачыненне.

— Вось вы, Ларыса Міхайлаўна, гаворыце пра тыя прэтэнзіі, якія да нас настаўнікі маюць. А што і ў нас да настаўнікаў яны могуць быць, вы і слухаць не хочаце, — зноў загаварыла Наста.

— Чаму гэта "слухаць не хачу"? Давайце свае прэтэнзіі. Толькі адна ўмова: гаварыць не больш, чым па чацвёра адразу!

— Вось бачыце, вы ўсё хочаце ў жарт ператварыць, а мы не жартуем. І гаварыць нічога не будзем. Мы напішам.

— Напішаце? Вось толькі гэтага і не хапала!. Спадзяюся, пісаць не ў міністэрства збіраецеся?

— Дазвольце мне! — узняў руку Вадзім Максімкоў.

Вадзіма, свайго нефармальнага лідэра, аднакласнікі часта скарыстоўвалі ў якасці дыпламата, хоць дыпламат з яго, між намі кажучы, быў "ніякі": у крытычных сітуацыях яму не хапала неабходнай сапраўднаму дыпламату стрыманасці. Вадзім выйшаў на сярэдзіну класа:

— Увага! Усё тое, пра што мы дамовіліся з класам, раскажу я. Ні ў якое міністэрства пісаць мы не збіраемся. Мы вам напішам, настаўнікам. Кожны сваё напіша. Ну, штосьці накшталт анкеты.

— Вам яшчэ не надакучылі анкеты? — здзівілася я. — Наш жа псіхолаг ці не кожны тыдзень вас анкетуе!

— Ды хто ў тых анкетах праўду напіша? — засмяяўся Вадзім. — Вось у канцы мінулага года было пытанне: "Хто з педагогаў нашай школы адпавядае твайму ідэалу настаўніка?" А я ўзяў ды і адказаў: "Ніхто". Дык мяне па почырку "вылічылі", а потым натацыі чыталі ў дырэктара ў кабінеце. Не, цяпер мы не так зробім. Па-першае, пісаць будзем пра тое, што нас па-сапраўднаму хвалюе. Тэксты ўсе без выключэння набяром на камп'ютэры. Прозвішчы падпісваць не будзем. А вы, Ларыса Міхайлаўна, (мы вам аддадзім усё) пачытаеце нашы "анкеты" на педсавеце. Ну, калі гэта вам дазволяць. Чаму мы вырашылі зрабіць менавіта так? Нам у наступным годзе экзамены здаваць. А настаўнікі розныя бываюць. Мы ж сабе атэстаты псаваць не хочам так, як вы некалі сабе сапсавалі.

Ну, ты глянь, якія вывады яны зрабілі з гісторыі, якую я расказала ім аднойчы! Справа была вось у чым: мясцовыя дзеці час ад часу крыўдзілі тых, што хадзілі ў нашу школу з навакольных вёсак: з Рамановічаў, Ігаўкі, Слабады, Чаратка. Я вырашыла пагаварыць з крыўдзіцелямі, і неяк так атрымалася, што расказала ім той эпізод са свайго школьнага жыцця.

• Целяшоўская сярэдняя была для нас, дзяцей са многіх вёсак, для каго другой, а для каго і трэцяй па ліку. Мы, бярозаўскія, пасля сваёй пачатковай хадзілі ў васьмігодку ў Нівы. У папярэдніх дзвюх школах выкладанне вялося на беларускай мове, Целяшоўская ж школа была рускамоўнай. Таму мы перш чым адказаць на якое-небудзь пытанне настаўніка, у думках перакладалі свой адказ з беларускай на рускую. Атрымлівалася не вельмі ўдала. З нас смяяліся не толькі новыя аднакласнікі, але і некаторыя настаўнікі.

Але сапраўдным маральным катаваннем сталі для нас урокі гісторыі і грамадазнаўства, якія выкладаў у нас "завучыхін" муж Альберт Пятровіч — высокі, мажны, з дагледжаным поўным тварам, бездакорна апрануты мужчына гадоў сарака.

Ён, назіраючы за нашымі патугамі, грэбліва крывіў твар і зняважліва цадзіў праз зубы: "Колхозники несчастные".

У той дзень каля дошкі ў Альберта Пятровіча пакутліва шукаў патрэбныя словы адзін з самых "несчастных колхозников" — маларослы, сарамлівы Алесь Гарбачэня, які штодзень хадзіў у школу з невялічкага, у некалькі хат, пасёлка з нязвыклаю для нашай мясцовасці назваю Зэфельд.

"Абарыгены" смяяліся і знарок няправільна падказвалі разгубленаму Алесю. Альберт Пятровіч ужо скрывіў твар, каб "изречь" сваё кароннае выслоўе, як Алесь узняў на Альберта Пятровіча павільгатнелыя, поўныя нянавісці вочы, усхліпнуў і выбег з класа.

Вось тут я не стрымалася і выказала "аристократу" ўсё, што трэба і нават тое, чаго не трэба было. На "колхозной" мове. Потым, перамагаючы ў сабе агіднае пачуццё страху, (што ж цяпер мне будзе?) дадала: "Перакласці на рускую?". Ён выслухаў мяне надзіва спакойна, толькі крыху паружавеў ягоны выпешчаны твар. З хвіліну памаўчаўшы, Альберт Пятровіч прамовіў: "Ох, и тяжеленько тебе, девонька в жизни будет с таким-то характером!".

"Несчастными колхозниками" ён з таго часу называць нас перастаў, але на выпускных экзаменах мне і сапраўды было «тяжеленько». Гэта намаганнямі "завучыхінага мужа" замест чаканай адной, я займела ў атэстаце ажно чатыры чацверкі. І, што самае крыўднае, па беларускай літаратуры, якую выкладала ў нас "завучыха".

Але ж на філалагічны факультэт педагагічнага інстытута — ды яшчэ і сталічнага! — я паступіла. І з першай спробы!

Тады я была такая шчаслівая! А цяпер, калі ў адначассе абрынулася на мяне столькі праблем, вужакай запаўзло ў душу сумненне: а ці правільны выбар я зрабіла? Можа, я як педагог не адбылася і ўсе гэтыя гады не так і не таму вучыла дзяцей? І яшчэ пра адно думаю: чаму з усіх настаўнікаў Целяшоўскай школы мне часцей успамінаецца Альберт Пятровіч? Там жа было столькі цудоўных педагогаў! Вольга Мікалаеўна Нікіценка, Васіль Міхайлавіч і Вера Лявонцеўна Сафонавы, Ганна Фёдараўна і Васіль Іванавіч Сініцыны. А які высакародны, разумны і спагадлівы быў наш дырэктар Мікалай Афанасьевіч Лебедзеў! І ўсё ж пра іх я ўспамінаю радзей, чым пра Альберта Пятровіча. Можа, у чалавечай памяці ўвогуле мацней трымаюцца негатыўныя ўспаміны, асабліва са школьнага жыцця? Калі так, то няхай мае былыя вучні не ўспамінаюць мяне зусім.

Хацелася б суцешыць сябе думкаю, што альберты пятровічы сышлі з сённяшняй школы ў мінулае. Толькі каму-каму, а дзецям тое відней.

Так што няхай будзе па-іхняму. Няхай пішуць і здаюць мне свае анкеты.

• І вось яны ляжаць у маёй сумцы, а я, збегшы з семінара, іду да Галі і думаю, як мне выканаць сваё абяцанне: прачытаць на педсавеце гэтыя шчырыя, але парою "крамольныя" лісты пад умоўнаю назваю "анкеты"?

ЗАХАРАВА, 19



Пішыце на адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва";
e-mail: minsk@lim.by
*Адрас у Інтэрнэце — www.lim.by*



## З былога

# СЮЖЭТЫ ЗАКУЛІСНЫЯ

**Працягваем друкаваць успаміны колішняга дырэктара Беларускай дзяржаўнай філармоніі Георгія Загародняга — эпізоды з жыцця канцэртнай установы савецкіх часоў.**




### *Неўтаймоўныя "Чараўніцы"*

У канцы 1960-х — першай палове 70-х гадоў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза пачалося павальнае распаўсюджванне вакальна-інструментальных ансамбляў (ВІА), дзе галоўнымі інструментамі сталі электрагітары і ўдарныя. З'явіўся новы мастацкі стыль "біт", ансамблевае спяванне, у асноўным высокіх мужчынскіх галасоў.

Мода на такое незвычайнае эстраднае выканальніцтва не абмінула і Беларусь. Следам за папулярнымі "Песнярамі" ў сталічнай філармоніі з'явіліся яшчэ два вакальна-інструментальныя ансамблі: адзін — змяшаны паводле складу выканаўцаў, "Верасы", другі — жаночы, "Чараўніцы". Павінен сказаць, што кожны з іх, як адзначалася і ў прэсе, адрозніваўся індывідуальнай манерай выканання, меў свой арыгінальны непаўторны рэпертуар.

У "Чараўніцах" спявалі і гралі, акампануючы сабе на розных эстрадных інструментах, дзевяць таленавітых дзяўчат. Выхадцы з мастацкай самадзейнасці, яны амаль усе адначасова атрымалі прафесійную падрыхтоўку ў Гродзенскім музычна-педагагічным вучылішчы. Тамсама стварылі жаночы эстрадны ансамбль, пераняўшы музычны вопыт ужо вядомых тады ў Саюзе калектываў — "Варонежскія дзяўчаты", рыжскія "Балтыйскія чайкі". Пасля паспяховага выступлення ў 1974 годзе на І Рэспубліканскім конкурсе артыстаў эстрады ансамбль "Чараўніцы" быў адразу залічаны ў штат Белдзяржфілармоніі як адзін з пераможцаў гэтага творчага спаборніцтва.

Працуючы ўжо на прафесійнай сцэне, маладыя здольныя выканаўцы хутка заваявалі давер і любоў шырокай публікі. "Чараўніцы" радавалі абаяльнасцю сваёй маладосці, мяккім і жыццярадасным гучаннем галасоў, высокай тэхнікай ігры на розных інструментах, уключаючы медныя духавыя і электрагітары, што асабліва прываблівала і падабалася ў творчасці дзяўчат-музыкантаў. Да таго ж, яны былі вельмі артыстычныя, іх своеасаблівая манера спеваў арганічна спалучалася з натуральнымі, прыгожымі рухамі на сцэне падчас канцэртных выступленняў. Невыпадкова, узяўшы ўдзел у VI Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады (1979 г.), беларускі ансамбль трапіў у лік пераможцаў, атрымаўшы трэцяе лаўрэацкае месца. Тады ж фірма "Мелодия" выпусціла доўгаігральную пласцінку з запісамі дзевяці песень, у асноўным беларускіх аўтараў, у выкананні "Чараўніц".

Здавалася б, творчы лёс дзяўчат канчаткова ўдала вызначыўся, і іх у далейшым чакае доўгая паспяховая праца на эстрадзе. Але з цягам часу некаторыя ўчынкі і паводзіны маладых артыстак за кулісамі, у штодзённым побыце пачалі выклікаць слушныя папрокі і нараканні. Падчас гастроляў яны ўсчыналі між сабой у гасцінічных нумарах сваркі і скандалы, чым, зразумела, кампраметавалі Беларускую філармонію. Помню, аднойчы мы вымушаныя былі адклікаць гэты ансамбль у Мінск з гастрольнай паездкі, каб... правесці з яго артысткамі выхаваўчую работу.

І калі ў пачатку 90-х гадоў "Чараўніцы" як самастойны калектыў распаўся і перастаў існаваць, адміністрацыя філармоніі не вельмі шкадавала. Бо, як гаворыцца ў народзе, — баба з возу... Надта ўжо дапяклі закулісныя інтрыгі і разборкі маладых неўтаймоўных музыкантак, хаця падчас канцэртных выступленняў яны рабілі на публіку незабыўнае ўражанне.

### *У Маскву па рэкламу*

Няма асаблівай неабходнасці даводзіць, якую значную ролю адыгрывае ў дзейнасці канцэртных арганізацый друкаваная рэклама. Без яркіх маляўнічых афіш, плакатаў не абыходзіцца ніводны публічны канцэрт, ніводнае эстрадна-тэатралізаванае прадстаўленне.

Узначальваючы шматлюдны калектыў Белдзяржфілармоніі, я адразу азнаёміўся з рознымі дакументамі і выявіў адзін дагавор, які быў заключаны маім папярэднікам М. Шаўчуком з маскоўскім мастаком К. на стварэнне эскізаў для шэрагу новых канцэртных афіш. У карэнным абнаўленні рэкламнай прадукцыі тады мелі патрэбу ў першую чаргу многія нашы эстрадныя ансамблі і салісты, якія пастаянна гастралявалі на ўсёй тагачаснай савецкай прасторы і шырока прапагандавалі нацыянальнае мастацтва Беларусі.

Пасля заключэння гэтага дагавора прайшло нямала часу. А заказ, як высветлілася, ён так і не быў зроблены, хаця яго непасрэдны выканаўца загадзя атрымаў з касы філармоніі значную грашовую кампенсацыю ў выглядзе папярэдняга авансу. На шматлікія тэлефанаванні з Беларускай філармоніі маскоўскі мастак звычайна адгаворваўся пустымі абяцаннямі: "Трохі яшчэ пачакайце! Хутка ваш заказ будзе гатовы".

Паколькі ўсе вызначаныя тэрміны даўно праміналі і чакаць болей не ставала сілы, кіраўніцтва філармоніі вырашыла неадкладна ехаць у Маскву, каб на месцы сустрэцца з мастаком і разабрацца ў прычынах парушэння ім дагаворных абавязацельстваў. Разам са мною ў сталіцу накіраваліся галоўны бухгалтар Р. Аляшкевіч і юрыст. Ведаючы адрас таго мастака, мы ўсе трое без усялякага запрашэння нечакана прыйшлі да яго ў творчую майстэрню. І адразу строга заявілі, не даўшы яму ачомацца ад нашага візіту: "Колькі можна вадзіць нас за нос! Паказвайце, дзе падрыхтаваныя вамі афішныя эскізы, у адваротным выпадку мы мусім звярнуцца ў судовыя інстанцыі!"

Знянацку заспеты нязванымі візіцёрамі з Мінска, гаспадар майстэрні ніяк не чакаў такога павароту падзей. Зразумеўшы, што размова можа мець для яго небяспечныя наступствы, мастак кінуўся даставаць адно за адным са сваіх запаснікаў выкананыя эскізныя палотны для будучых афіш беларускіх калектываў. І такіх ужо гатовых для друку эскізаў назбіралася больш як палова з таго, што належала зрабіць адпаведна дагавору. Мы і гэтым былі задаволеныя. Хуценька забраўшы ў мастака гатовыя эскізы, паспяшалі на чыгуначны вакзал па білеты на вячэрні цягнік да Мінска.

Так закончыўся той непрыемны інцыдэнт з рэкламай, у выніку чаго многія калектывы і салісты нашай філармоніі праз нейкі час атрымалі новую афішную прадукцыю для сваёй канцэртнай дзейнасці.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

*Фота забяспечана аўтарам*






Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў







**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-66-71
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53
паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы — 284-66-73
музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: minsk@lim.by

*Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by*



Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79

Індэкс 63856 Наклад 3537
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 7.03.2006 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 286

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12